А.І.ЛАКОТКА

# Драўлянае сакральна-манументальнае дойлідства Беларусі





А.І.ЛАКОТКА

# Драўлянае сакральна-манументальнае дойлідства Беларусі





МІНСК
«БЕЛАРУСЬ»
2003

УДК 726.3.03 (476)
ББК 85.11 (4Беи)
Л19

*Фота аўтара, а таксама з архіва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы НАН Беларусі*

**Лакотка А.І.**

Л19 Драўлянае сакральна-манументальнае дойлідства Беларусі/ А.І. Лакотка.— Мн.: Беларусь, 2003. — 224 с.: іл.

ISBN 985-01-0423-6.

Кніга напісана доктарам архітэктуры, доктарам гістарычных навук, прафесарам, які працуе ў галіне тэорыі і гісторыі айчыннай архітэктуры больш за 25 гадоў.

У ёй у першыню зроблены сістэмна-параўнальны аналіз такой малавывучанай катэгорыі помнікаў, як драўляныя сакральна-манументальныя збудаванні розных канфесій. Раскрываюцца асаблівасці іх гістарычнага развіцця, кампазіцыйныя і мастацка-стылёвыя адрозненні. Упершыню зроблена спроба вызначэння між імі адзінага штрыха ў архітэктуры.

Выданне багата ілюстравана. Разлічана на архітэктараў, мастацтвазнаўцаў, культуролагаў і ўсіх тых, хто цікавіцца беларускай культурай і мастацтвам.

**УДК 726.3.03 (476)**
**ББК 85.11 (4 Беи)**



ISBN 985-01-0423-6

# ДРАЎЛЯНАЕ САКРАЛЬНАЕ ДОЙЛІДСТВА БЕЛАРУСІ ЯК ФЕНОМЕН УЗАЕМАДЗЕЯННЯ КУЛЬТУР

Генезіс драўлянага сакральнага дойлідства Беларусі бярэ пачатак ад канструкцыйных форм драўлянай архітэктуры ўсходніх славян IX—XII стст. Зруб як архітэктурны модуль аказаўся невычэрпанай крыніцай архітэктурна-канструкцыйнага рашэння тэрас і гародняў, вежаў і брам, церамоў, жылых і гаспадарчых пабудоў, пасадаў. Чацвярыкі, васьмярыкі, круглікі, галерэі сталі крыніцай развіцця аб'ёмаў і форм.

Сакральнае будаўніцтва прыйшло з пэўнымі, спецыфічнымі архітэктурнымі канонамі і спрыяла развіццю прафесійнага дойлідства на землях Беларусі. У драўлянай архітэктуры вобраз царквы асацыятыўна знітаваны з вобразамі, прастораўтварэнне якіх будавалася шляхам разнастайнага спалучэння зрубаў. Двух-, пяцізрубныя восевыя і крыжова-восевыя кампазіцыі драўляных цэркваў гістарычна сталі тыповымі для паўднёвых рэгіёнаў Беларусі, крыжова-цэнтрычныя — для паўночных. Першы тып найбольш ярка прадстаўляецца ў абліччах цэркваў XVII—XVIII стст. у Давыд-Гарадку і Сынкавічах. Блізкія да квадрата зрубы з шатровымі завяршэннямі ствараюць тыповы вобраз цэркваў Беларускага Палесся, унікальны на фоне драўлянай архітэктуры ўсходнееўрапейскага арэала. Пазначаныя рысы бачны ў архітэктуры драўляных цэркваў XVII—XVIII стст. Петрыкава, вёсак Баравая Лельчыцкага, Олтуш Маларыцкага раёнаў і г.д.

Але разам з тым у палескім рэгіёне Беларусі гістарычна склаліся тыпы аб'ёмна-прасторавай будовы цэркваў, характэрныя для арэала Усходняй Еўропы, які ахоплівае Украінскія Палессе, Слабажаншчыну і тэрыторыі на ўсход ад іх. У аснове гэтага тыпу ляжыць ярусная будова аб'ёмаў з раскрытай у інтэр'еры вертыкальнай прасторай. Будаўніцтва такіх драўляных цэркваў у пазначаным арэале актыўна вялося ў XVIII ст. І іх можна разглядаць як асаблівае праяўленне стылю барока ў драўляным дойлідстве. Прыкладамі могуць быць цэрквы XVIII ст. у Хойніках, Ру-

белі, Вялемічах, Кажан-Гарадку і інш. Вялікая колькасць помнікаў пазначанага тыпу не захавалася і вядома толькі па малюнках Д.Струкава, здымках І.Сербава і В.Ластоўскага. Найбольш яркім узорам з'яўляецца Свята-Міхайлаўская царква XVIII ст. у Слуцку. Яе аб'ёмна-прасторавае рашэнне складае каскад чатырох'яруснага прытвора са званіцай, нефа, алтара. Першы ярус ахоплівае ўвесь перыметр царквы, што аналагічна пабудове царквы XVIII ст. з вёскі Раманава Слуцкага павета, якая не захавалася, а таксама царквы 1704 г. з вёскі Барань Аршанскага раёна і іншых культавых пабудоў Падняпроўя і Паазер'я. Адкрытая прастора ярусаў, вертыкальная перспектыва узмацняюць пачуццё велічнасці і ўзнёсласці, характэрных для эмацыянальнага настрою барока, у якім адчуванне святасці атаесамлялася з прысутнасцю струменістых патокаў святла.

Спаса-Праабражэнская царква XVIII ст. з вёскі Барань Аршанскага раёна характарызавала тып драўляных цэркваў паўночных рэгіёнаў Беларусі. Аснову аб'ёмна-прасторавага рашэння тут складаў кампактны цэнтрычны план: сувязь неф- алтар з прытворам, які пераходзіў у бакавыя нефы, акаляючыя аб'ём галоўнага. Прыём перацякаючай прасторы на ўзроўні першага яруса нагадваў відавочнае падабенства з галерэямі (гульбішчамі), характэрнымі для драўляных цэркваў сярэдніх і паўночных рэгіёнаў Расіі, а таксама ўкраінскіх рэгіёнаў. У іх прасочваецца асаблівасць, характэрная для драўлянага манументальнага дойлідства ўсяго ўсходнееўрапейскага арэала. Генезіс яе трэба шукаць у драўляным грамадзянскім і абаронным дойлідстве X—XII стст. Прысутнасць галерэйных элементаў назіралася як у Ноўгарадзе, так і ў Кіеве і іншых гарадах. Вядомы галерэйныя спалучэнні княжацкіх рэзідэнцый з дваровымі цэрквамі. Акаляючыя галерэі мелі вядомыя Свята-Ільінская і Свята-Троецкая цэрквы XVII ст. Маркава кляштара ў Віцебску — шэдэўры драўлянага манументальнага дойлідства Беларусі (згарэлі ў сярэдзіне XIX ст.). У пазначаных помніках нараўне з агульнымі для Усходняй Еўропы рысамі (галерэі, ярусна-цэнтрычная кампазіцыя) яскрава бачны і характэрныя для гэтага рэгіёна Беларусі шатровыя завяршэнні аб'ёмаў (тыя ж, як і ў ярусна-восевых цэрквах Палесся).

Узаемаўплыў будаўнічых культур яскрава праслежваецца ў эвалюцыі форм драўляных касцёлаў. Найбольш архаічны тып XVI—XVIII стст. безвежавая пабудова — спалучэнне нефа і алтара пад двухсхільным дахам. Такія каталіцкія цэрквы былі распаўсюджаны ў Германіі і Даніі, Скандынавіі, Прыбалтыцы, Польшчы і Беларусі. Наступнымі сталі аднавежавыя, блізкія па аб'ёмна-прасторавай рашэнню да рэфарматарскіх храмаў. Трэба адзначыць, што ў XVI—XVII стст. многія драўляныя касцёлы знаходзіліся на месцах пазней узведзеных мураваных.

Аднак найбольш распаўсюджаным тыпам для Беларусі і іншых краін Еўропы з'яўляецца двухвежавы каталіцкі храм. Яго генезіс узыходзіць да абарончага дойлідства Цэнтральнай і Заходняй Еўропы, мураваных храмаў абарончага тыпу, палацаў-крэпасцей і г.д. Да такіх трэба аднесці касцёлы XVIII ст. у Клюшчанях, Свіранках Астравецкага, Хоўхлава Маладзечанскага, Дудах Іўеўскага, Валавелі Драгічынскага, Лоску Валожынскага, Вілейцы Докшыцкага раёнаў і г.д. Двухвежавы касцёл са стромкім гатычным, ці барочным завяршэннем вежаў стаў увасабленнем вобраза каталіцкага храма ў драўляным дойлідстве. Пластычнасць і ўзнёсласць надавалі прафіляваныя карнізы, пілястры-лісіцы, шалёўка. Аздабленне франтонаў, дзвярных і аконных праёмаў часам мела выразны барочны характар.

Эклектыка і мадэрн прыўнеслі на тэрыторыю Беларусі тыпы драўляных касцёлаў, вытворных ад вядомых у Польшчы і іншых еўрапейскіх краінах у больш раннія часы. У сярэдзіне 30-ых гадоў, у адпаведнасці з праектамі, узводзяцца драўляныя касцёлы ў Дойлідках Смаргонскага, Рудзе Яварскай Дзятлаўскага раёнаў. Іх аблічча згадвае аднавежавыя касцёлы, распаўсюджаныя ў XVIII ст. у паўднёва-заходніх рэгіёнах Рэчы Паспалітай. Пры гэтым, калі ў архітэктуры касцёла ў Дойлідках захаваны пластычныя асаблівасці, характэрныя для барока, то ў Рудзе Яварскай пераважае геаметрызм, вытворны ад архітэктуры готыкі.

У сярэдзіне 30-ых гадоў узводзіцца драўляны бязвежавы касцёл у вёсцы Лінова Пружанскага раёна. Гэта мадэрнісцкая інтэрпрэтацыя старадаўняга бязвежавага каталіцкага храма. Высокі і стромкі псеўдагатычны дах, кансольны вынас шчыта, надаюць абліччу помніка налёт экзотыкі і рамантызму.

Уплыў еўрапейскіх традыцый меў уздзеянне і на фарміраванне драўляных цэркваў іншай аб'ёмна-планіровачнай будовы. Вядомы прыклады драўляных капліц і цэркваў-ратонд, меўшых распаўсюджванне ў Польшчы і Прыбалтыцы (Свята-Мікалаеўская царква 1802 г. у вёсцы Каралёўцы Вілейскага раёна). Тып драўлянай ратонды трапіў у драўлянае культавае дойлідства Беларусі і яе суседзяў з еўрапейскіх рэнесансу і барока. У Польшчы ў XVII—XVIII стст. шырока былі вядомы капліцы-ратонды ў кляштарах, маёнтках, замках, таксама яны ўзводзіліся ля буйных касцёлаў.

З XIV ст. на землях Беларусі пачынаецца рассяленне татар і яўрэяў. Большасць татар былі выхадцамі з Крыма і Прыазоўя. Першыя драўляныя мячэці ў большасці сваёй нагадвалі сціплае зрубнае збудаванне, без мінарэтаў, галерэй і алтарнай нішы (міхрабы), якую замянялі ў інтэр'еры падманныя дзверы. Планіроўка мячэці мела падзел на мужчынскую і жаночую паловы, што ўплывала на генезіс яе аб'ёмна-прасторавага развіцця. Разам з тым у XVI—XVIII стст. (час стварэння большасці татарскіх асад) архітэктура

мячэцяў фарміравалася на падставе мясцовых цяслярскіх традыцый. Распаўсюджаны быў тып са зрубам, блізкім да квадрату ў плане, чатырохсхільным дахам з вежачкай-мінарэтам і слупавой галерэяй-падсенню. Галерэя і вежачка тут могуць разглядацца як адметны элемент ісламскай архітэктуры, хаця па-сутнасці — гэта формы добра вядомыя ў тых жа цэрквах і лямусах. Паводле актавых матэрыялаў такія мячэці былі ў мястэчку Сорак Татар, Лукішках (каля Вільны) і г.д. Відарысы мячэцяў у Мядзелі, Студзёнцы, Лукішках яскрава сведчаць, што іх аблічча вызначалася майстэрствам мясцовых цесляроў. Традыцыі царкоўнага і касцёльнага будаўніцтва закранулі і мячэці. Пад уплывам архітэктуры цэркваў склалася аблічча мячэцяў XIX ст. у Міры і Слоніме. Аднавежавы касцёл стаў прататыпам для мячэці пачатку XX ст. у Клецку, двухвежавы — для мячэці XVIII ст. у Вінкшнупе, Крыжынянах.

Аднак існавалі і прыклады фарміравання арыгінальных рашэнняў увасабляючых спецыфічныя рысы гэтага тыпу манументальных пабудоў. Да такіх трэба аднесці ўзнікненне асіметрычнага размяшчэння мінарэта, знешніх абходных галерэй і купальных завяршэнняў. Кампазіцыю з асіметрычным мінарэтам мела мячэць XVI ст. у Лоўчыцах. У мячэці XVIII ст. з вёскі Доўбучкі Смаргонскага раёна прысутнічаюць усе тры пазначаныя адметнасці. Прамакутны план падзелены на мужчынскую і жаночую паловы сцяною з закратаваным балясінамі акном. У мужчынскай палове, у сцяне, звернутай да Меккі, — невялікі зрубны пяцікутны алтар — міхраба. Побач — узвышэнне з прыступкамі накшталт амбона — мумібір. Звонку, з двух бакоў, сцены абкружаны галерэяй з разьбянымі слупкамі. На куце — трох'ярусная вежа — мінарэт. Чатырохсхільны дах пераходзіць у дванаццацігранны прасторны купал. У архітэктуры Доўбучскай мячэці прысутнічаюць многія рысы архітэктуры Усходу, у тым ліку і так званы візантыйскі купал.

Архітэктура драўляных сінагог вылучаецца большай паслядоўнасцю ва ўвасабленні традыцыйных рыс. Драўляныя сінагогі, якія яшчэ на пачатку XX ст. існавалі ў Воўпе, Сапоцкіне, Гнёзна, Ваўкавыску, Начы і іншых мястэчках былі пабудаваны ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. Звяртае ўвагу аднатыпнасць іх аб'ёмна-прасторавага рашэння: вялікая рытуальная зала, перакрытая высокім дахам. Акаляючыя прыбудовы маюць галерэйнае рашэнне са стромкім дахавым завяршэннем. Каскады дахаў, паступова нарастаючыя па вертыкалі, надаюць груваcткаму аб'ёму лёгкасць і дынамізм. Спалучэнні схілаў (палогіх і стромкіх) выклікаюць асацыятыўныя параўнанні з элементамі архітэктуры Усходу, разам з тым крывалінейныя карнізы, фасаднае аздабленне сведчаць пра прысутнасць еўрапейскага густу і мясцовых традыцый.

Такім чынам у развіцці драўлянага сакральна-манументальнага дойлідства Беларусі знайшоў адбітак працэс узаемадзеяння

культур беларусаў, рускіх, украінцаў, палякаў, татар, яўрэяў. Тыпы цэркваў, касцёлаў, мячэцяў, сінагог, якія склаліся, увасобілі многія архітэктурна-канструкцыйныя і планіровачныя асаблівасці гэтых культур. Яскрава бачны ў абліччы драўляных сакральна-манументальных збудаванняў Беларусі рысы, распаўсюджаныя на значных арэалах Еўропы, якія ахопліваюць розныя этнічныя тэрыторыі. Разам з тым пазначанае культурнае ўзаемадзеянне спрыяла развіццю менавіта беларускіх тыпаў драўляных манументальных пабудоў, якія даюць падставы абгрунтавана гаварыць пра цэрквы, касцёлы, мячэці Беларусі. Параўнальна-гістарычны аналіз іх аб'ёмна-прасторавых асаблівасцей дазваляе сцвярджаць, што культавыя пабудовы мелі відавочную арыгінальнасць у параўнанні з аналагамі з суседніх краін.

Вылучаюцца рэгіянальныя тыпы драўлянага сакральна-манументальнага дойлідства. Палескі тып, узорамі якога з'яўляюцца цэрквы ў Петрыкаве, Давыд-Гарадку, Сынкавічах, Слуцку; Паазёрскі — Барань, Смаляны, страчаныя цэрквы Куцеінскага кляштара ў Оршы і Маркава ў Віцебску; Панёманскі — касцёлы ў Хоўхлаве, Дудах, Клюшчанах, Кемелішках і г.д.; Падняпроўскі — Мсціслаўе, Магілёў.

Традыцыі, якія гістарычна склаліся ў драўляным манументальным дойлідстве Беларусі, знайшлі адбітак у помніках, узводзімых па так званых «узорных праектах» XIX ст. Драўляныя цэрквы XIX — пачатак XX ст. у Кальчыцах Слуцкага, Вараб'ёвічах і Лешні Капыльскага раёнаў, Чырвоным Партызане Добрушскага раёна захоўваюць асноўныя гістарычныя рысы традыцыйных тыпаў. Узорны праект мячэці 1884 г. у Іўі развівае традыцыі сваіх гістарычных аналагаў у Лукішках, Бахонках, Немцах: аб'ём з двух'яруснай галерэяй, чатырохсхільным дахам, завершаным стромкім мінарэтам. Такім чынам, гістарычны працэс узаемадзеяння культур у канчатковым выніку забяспечваў развіццё нацыянальных асаблівасцей. Дакладнае веданне традыцый павінна стаць гарантам гарманічнага развіцця сучаснай архітэктуры, фарміравання нацыянальнай культуры, знітоўваючай культуру беларусаў з рысамі культур іншых народаў, пражываючых у братнім адзінстве на нашай зямлі.

## ЦЭРКВЫ

Драўляныя цэрквы на тэрыторыі Беларусі з'явіліся неўзабаве пасля прыняцця хрысціянства. Пісьмовыя звесткі сведчаць пра першую драўляную царкву XI ст. у Друцку.

Аб'ёмна-планіровачная будова вызначалася спалучэннем сеняўпрытвора, памяшкання літургічных дзеянняў (нефа) і сакральна-

га памяшкання (апсіды, алтара). Да апошняга ў хуткім часе далучыліся бакавыя прыбудоўкі — сакрысціі: да царкоўных атрыбутаў (пратэзіс) і да святара (дзяканнік). Літургічная зала (неф) і ўзнёслая вежа з крыжам бралі вытокі ад зруба-чацверыка, вежы са стромкім дахам, створанай абарончым дойлідствам. У прасцейшых цэрквах неф і алтар месціліся ў адзіным зрубе, пад агульным двух-,чатырохсхільным дахам. Прытвор (нартэкс, бабінец) часам меў выгляд паветкі на слупах ці кансолях (падсень). Нарэшце алтар сталі ладзіць у выглядзе прыбудовы (прамакутнай, пяцікутнай). З'явілася двухзрубавая восевая кампазіцыя. Так званая клецкая царква (на аснове зруба-клеткі) у арэале Усходняй Еўропы мела шырокае бытаванне да XVII ст.: у Беларусі і паўночных рэгіёнах Украіны — двухзрубавая, на захадзе і поўначы Расіі — трохзрубавая. У Беларусі найбольш працяглы час яна існавала на Палессі. Цэрквы ў Збірагах і Здзітаве XVII ст., Хатынічах і Ялаве XVIII ст. увасабляюць тыя прасцейшыя формы, што былі характэрны царкоўнаму драўлянаму дойлідству.

Можна меркаваць, што да XV ст. драўляныя царкоўныя пабудовы ва Усходняй Еўропе ўзводзіліся з хваёвага кругляка і дахамі на самцах. Менавіта такія канструкцыі былі тады ўласцівы абарончым і грамадзянскім драўляным збудаванням. Аднак у XVI і XVII стст. драўляныя цэрквы Карпат, Валыні, Палесся ўжо будуюцца з абчэсаных бярвенняў (брусоў), злучаных у чысты (нямецкі) вугал. У гэты час з брусоў будуюцца сядзібы, манастыры (драўляны лямус манастыра брыгітак XVII ст. у Гродне). У Цэнтральнай Еўропе брус быў асноўным элементам грамадзянскага будаўніцтва XII–XVII стст. З брусоў вязаўся каркас усіх жылых і грамадскіх будынкаў, выконваліся дахавыя канструкцыі (кроквы), што дазваляла ствараць стромкія, высокія дахі, зручныя для вадасцёку. Распаўсюджанне фахверкавых канструкцый у дойлідстве Вялікага княства Літоўскага ў XIV–XVI стст. абумовіла замену ў сакральных збудаваннях кругляка на брус, а дахаў на самцах — на кроквенныя.

Адметнай асаблівасцю беларускай драўлянай царквы ў параўнанні з сакральным драўляным дойлідствам Расіі з'яўляецца фарміраванне алтарнай часткі пяцікутнай формы. У драўляных цэрквах сярэдняй і паўночнай Расіі бытавалі звычайныя чатырохкутныя алтары-трысцены. Будаўніцтва з брусоў, у чысты вугал, дазваляла ствараць шматкутныя пластычныя формы лягчэй, чым пры злучэнні ў вугал з астаткам.

Адна- і двухзрубавыя цэрквы клецкага тыпу з цягам часу мянялі свой выгляд. Асновай далейшага развіцця застаецца галоўнае літургічнае памяшканне — неф-чатырохсцен. Прытвор далучаецца да апошняга як трысцен, алтар — праз шулы, ці зрубную перавязку (у вугал без астатку). Сакральны змест збудавання

вымагаў высокай, адкрытай прасторы з верхнім святлом. Кожны аб'ём набывае зрубавае шатровае завяршэнне і вежачку-ліхтарык, над якой каваны крыж. Кожны аб'ём рабіўся самастойным, завершаным. Шацёр над нефам вылучаўся большымі памерамі і вышынёй — адпаведна прапорцыям памяшкання. Вежа над прытворам неўзабаве стала яруснай званіцай. Трохзрубна-восевая кампазіцыя ператваралася ў ярусна-восевую. Каб памяшканне нефа зрабіць вышэйшым, пад скляпеннем ладзіўся невысокі другі ярус. Да такога тыпу адносіцца Свята-Георгіеўская царква сярэдзіны XVII ст. у Давыд-Гарадку. Яе восева-зрубны план складаюць невялікі ганак пад двухсхільным дахам, бабінец, неф і алтар пад стромкімі шатрамі. Аб'ём нефа мае невялікі другі ярус. Кожны шацёр завяршаецца невялікім гранёным ліхтарыкам з шлемападобным купалком. Сцены аздоблены шалёўкай, вядомай на тэрыторыі Беларусі з XV—XVI стст. У сярэднявеччы шалёўка шырока выкарыстоўвалася ў драўляных пабудовах Цэнтральнай Еўропы (радзей — на Украіне).

Ярусна-восевая кампазіцыя ў XVII—XVIII стст. набывае далейшае развіццё. У XVIII ст. буйныя сельскія прыходскія цэрквы мелі аб'ёмы прытвора—нефа—алтара, якія складаліся з трох-чатырох ярусаў (а нефы нават з пяці) з шлемападобным завяршэннем, ліхтарыкам і купалком. Пераходы паміж ярусамі выконваліся ў выглядзе зрубных скляпенняў. Да гэтага тыпу адносяцца неацалелыя цэрквы ў Залужжы і Шчыткавічах (зараз Старадарожскага раёна), вядомыя па здымках І. Сербава. Трох-,пяціярусныя аб'ёмы царкоўных драўляных збудаванняў у XVII ст. набылі шырокае распаўсюджванне ў паўднёвай паласе Расіі, на левабярэжнай Украіне, у Карпатах, паўднёваславянскіх краінах, на поўдні Польшчы і ў паўднёвых рэгіёнах Беларусі. Ацалелыя помнікі і архіўна-даследчыя матэрыялы сведчаць, што ў названых рэгіёнах асноўныя памяшканні (прытвор—неф—алтар) часта мелі звонку на ўзроўні першага яруса галерэю. Гэты элемент, можна меркаваць, прыйшоў з драўлянага церамнага дойлідства XI—XIII стст. і быў характэрны для княскіх харамаў і дамоў на дзядзінцах, замкавых дварах, сценах і вежачках замкаў. Часта такія галерэйныя пераходы непасрэдна звязвалі харам феадала з дваровай царквою. У Беларусі галерэі даволі хутка трансфармаваліся ў закрытыя памяшканні на ўзроўні першага яруса, у якіх размяшчаліся бакавыя нефы, сакрысці (пратэзіс і дзяканік, рызніца) і г. д. Яркім прыкладам такой архітэктуры з'яўляецца Свята-Міхайлаўская царква XVIII ст. у Слуцку. Яе асноўныя аб'ёмы маюць трох-,чатырох'ярусную будову. Прытвор-званіца ўвенчаны стромкім шпілем. На ўзроўні першага яруса ідуць закрытыя зрубавыя памяшканні. Аднак аснову кампазіцыйнай пабудовы складае ярусна-восевае размяшчэнне аб'ёмаў.

Яшчэ адзін тып падоўжна-восевых цэркваў сфармаваўся ў выніку спалучэння шатровых аб'ёмаў з традыцыйнымі двух-,чаты-

рохсхільнымі дахамі. Паколькі верхняе святло ў першую чаргу неабходна было для нефа, то тут захавалася скляпеніста-шатровае перакрыцце са светлавым ліхтаром-барабанам. Алтар атрымаў гранёны дах адпаведна плана, прытвор і ганак мелі двухсхільныя дахі. Званіца ставілася асобна, часам як званіца-брама царкоўнага двара. Адзначаны тып царквы быў распаўсюджаны ў XVII–XVIII стст. у паўднёвых рэгіёнах Беларусі (Палессе). Калі званіца размяшчалася над прытворам, то апошні меў двухсхільны ці чатырохсхільны дах, які пераходзіў у званічную вежу. Найбольш выразным прыкладам гэтага тыпу драўлянай царквы з'яўляецца Свята-Георгіеўская царква XVII–XVIII стст. у вёсцы Сінкевічы Лунінецкага раёна. Тут на ўзроўні першага яруса аб'ёмы ахоплівае адзіны двухсхільны дах, з якога нібы вырастае другі ярус нефа. На восі царквы — двух'ярусная брама-званіца. Да такога тыпу адносіцца і Спаса-Праабражэнская царква XVIII ст. у вёсцы Олтуш Маларыцкага раёна. Тут аб'ёмы прытвора, нефа і алтара, якія маюць зрубавыя скляпенні, аб'яднаны адзіным чатырохсхільным дахам, з якога выходзяць формы шатра, што завяршае неф. Вяршыні скляпенняў прытвора, нефа і алтара завершаны глаўкамі на барабанах. У якасці прыкладу можна назваць і Свята-Міхайлаўскую царкву XVIII ст. у Петрыкаве. Прытвор, неф і алтар маюць адпаведныя двух- і трох'яруснае завяршэнне і двухсхільны дах. Вежавыя формы тут вырашаны ў выглядзе пастаўленых на шатрах чацверыкоў.

На мяжы спалучэння нефа і алтара часта рабіліся адзін-два (сіметрычна ці асіметрычна) бакавыя прырубы: пратэзіс і дзяканік, ці рызніца, або сакрысціі: невысокія памяшканні пад аднасхільным дахам. Яны ператваралі восевы план у крыжова-восевы. Памеры царквы залежалі ад рацыянальных параметраў зруба-чацверыка: не болей чым 9×9, 9×12 метраў. Нават і пры такіх памерах даводзілася часцей праз злучэнні (у «ластаўчын хвост» і інш.) набіраць патрэбную даўжыню са звычайнай шасці-васьміметровай драўніны (3–4 сажні). Павелічэнне аб'ёму магло быць дасягнута шляхам далучэння да нефа новых прырубаў па тыпу трохсцен-чатырохсцен. Гэта прыводзіць да з'яўлення бакавых нефаў і ператварэння восевага плана ў крыжова-цэнтрычны. Драўляныя цэрквы крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі ва Усходняй Еўропе ахоплівалі тыя ж арэалы, што і ярусна-восевыя: поўдзень Расіі, левабярэжжа Украіны, Карпаты, Беларусь. Крыжова-цэнтрычны план даваў магчымасць стварэння акрамя галоўнага яшчэ і бакавых алтароў. Крыжовы план даволі хутка набыў ярусныя формы складаючых яго аб'ёмаў. Так з'явіліся цэрквы ярусна-цэнтрычнай кампазіцыі. Неабходна адзначыць, што развіццё складаных вышынных элементаў драўлянага сакральнага дойлідства прыпадае ў асноўным на XV–XVII стст., г. зн. на перыяд росквіту сёл, мястэ-

чак і адпаведных прыходаў, якія імкнуліся мець хоць і драўляныя, але выразныя па архітэктуры храмы. Крыжова-ярусная будова давала магчымасці ствараць складаныя па сілуэце, выразныя па архітэктуры кампазіцыі.

Завяршэннем крыжовага плана з'яўлялася перакрыжаванне двух-, чатырохсхільных дахаў. Месца сяродкрыжжа было асновай васьмікутнага барабана са светлавымі праёмамі і купалам. Інтэр'ер нефа рабіўся велічным, напоўненым святлом. Над прытворам і бакавымі алтарамі (апсідамі) уладкоўваліся макаўкі меншых памераў. За кошт унутраных скляпенняў тут таксама магло быць верхняе святло. Так узніклі пяціглавыя драўляныя цэрквы. Прыклад—Свята-Богаяўленскі мужчынскі Куцеінскі манастыр ў Оршы, а таксама Спаса-Праабражэнская царква XVII ст. у вёсцы Порплішча Докшыцкага раёна (да перабудовы ў XIX ст.). У апошняй на скрыжаванні дахаў уладкаваны прасторны барабан з купалам.

Другі, больш пашыраны варыянт развіцця форм пры крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі, — ярусны. Кожны аб'ём меў асобнае вертыкальнае развіццё накшталт таго, як гэта робіцца ў цэрквах ярусна-восевай кампазіцыі. У найбольш простым выпадку ніжні ярус быў чацверыком, наступныя — больш складанай канфігурацыі. Драўляныя ярусна-цэнтрычныя цэрквы ў XVI—XVII стст. былі вядомы ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Але асабліва высокага развіцця яны дасягнулі ў Паазер'і і паўночнай частцы Падняпроўя. Прыклады — Свята-Ільінская і Свята-Троіцкая цэрквы XVII ст. Маркава кляштара ў Віцебску. Стромкія шатровыя дахі рабілі іх сілуэты выразнымі і дынамічнымі. На тонкіх барабанах-ліхтарах меліся цыбулепадобныя купалкі. На ўзроўні першага яруса ішла кругавая галерэя. Крыжова-ярусныя пяцікупальныя драўляныя цэрквы ў XVI—XVII стст. былі ў Оршы, Копысі, Магілёве, Быхаве.

У Паазер'і і Падняпроўі былі вядомы і цэнтрычныя аднакупальныя цэрквы, напрыклад Спаса-Праабражэнская царква 1704 г. у вёсцы Барань Аршанскага раёна. Аснову яе аб'ёмна-прасторавай будовы складае прасторны чацвярык нефа: 9х12 метраў. На вышыні дванаццаці метраў неф пераходзіць у зрубнае скляпенне з васьмікутным барабанам і главкаю. Пяцікутны алтар накрыты вальмавым дахам з купалком. Неф акружаюць з трох бакоў памяшканні, накшталт закрытай галерэі. Ганак ў выглядзе слупавога шатра. Царква такога тыпу, паводле малюнкаў Д. Струкава сярэдзіны XIX ст., знаходзілася ў мястэчку Раманава каля Слуцка. Паводле малюнкаў Д. Струкава, драўляныя цэрквы з купаламі былі ў Оршы і Магілёве. У XVI—XVII стст. купалы драўлянай канструкцыі вянчалі мураваныя цэрквы, у тым ліку ў Гродне (царква Чэснага крыжа, паводле гравюры XVII ст.).

Дабудова званіц спарадзіла яшчэ адзін кампазіцыйны варыянт, які спалучыў рысы крыжовай і восевай кампазіцый. У сярэдзіне

XIX ст. узводзіцца драўляная царква ў Кажан-Гарадку. Яе асноўны аб'ём грунтуецца на крыжовым плане: неф, тры алтары-прырубы. Аднак уваходная частка (прытвор) набывае падоўжнае развіццё і вянчаецца трох'яруснай вежай-званіцай. Аналагічнае аб'ёмна-прасторавае рашэнне мае і Свята-Ільінская царква XVIII ст. у Гомелі. Ярусная званіца звязана з асноўным аб'ёмам (нефам) прадаўгаватым прытворам.

У драўляным сакральным дойлідстве Беларусі ў XVII—XVIII стст. склаўся яшчэ адзін кампазіцыйны варыянт царквы, спалучаючы вежавыя і купальныя аб'ёмы. Генезіс такога унікальнага архітэктурнага рашэння крыецца ў сінтэзе візантыйскіх і гатычных рыс (Супрасль). Спаса-Праабражэнская царква XVIII ст. у Смалянах Аршанскага раёна мае план аналагічны Спаса-Праабражэнскай царкве з вёскі Барань. А вось аб'ёмнае вырашэнне адпавядае толькі да карнізу куба-нефа. Над ім двухсхільнае сяродкрыжжа, фланкіраванае па баках на галоўным фасадзе яруснымі вежамі, завершанымі шатрамі. На сяродкрыжжы — двух'ярусны квадратны барабан, які служыць асновай прасторнага купала з ліхтарыкам і глаўкаю. Адчуваецца відавочны сінтэз двухвежавага касцёла і купальнай царквы.

У 1823 годзе ўзводзіцца Спаса-Праабражэнская царква ў вёсцы Дзятлавічы Лунінецкага раёна. Аснову збудавання ўтвараюць тры зрубы: прытвор, неф, пяцікутны алтар пад палогім дахам. Квадратны ў плане неф пераходзіць ў шырокі, але нізкі васьмікутны барабан, які трымае шлемападобны купал з гранёным барабанам-ліхтаром і шатром, змяніўшым гадоў дваццаць назад цыбулістую глаўку. Па кутах прытвора і алтара — трох'ярусныя вежы з купаламі, якія паўтараюць малюнак галоўнага. Храм часткова перабудаваны ў 1871 годзе. У кампазіцыі відавочны аналогіі з храмамі так званага абарончага тыпу. Купальна-вежавыя варыянты, такім чынам, грунтаваліся як на цэнтрычным (Смаляны), так і восевым (Дзятлавічы) планах.

У XVI—XVII стст. у Беларусі распаўсюджваецца уніяцтва. Новае веравызнанне не набыло папулярнасці сярод шляхты, яго прынялі пераважна сялянскія масы. Адсутнасць багатых фундацый абумовіла сціпласць і прастату уніяцкіх цэркваў. У XVI—XVII стст. гэта, як правіла, былі клецкія цэрквы пад двух-, чатырохсхільным дахам з невялікім купалком над нефам ці апсідаю (Свята-Троіцкая царква XVIII ст. у вёсцы Вялец Глыбоцкага, Свята-Вазнясенская царква ў вёсцы Моладава Іванаўскага раёнаў і інш.). У XVIII ст. фармуецца ўласны тып драўлянай уніяцкай царквы: двухзрубавая з пяцікутнай апсідай, двухсхільным дахам і пластычным купалком на васьмікутным барабане, з ліхтаром і макаўкай над прытворам. Пры гэтым зрубны франтон, зроблены закотам, меў невялікую вальму (залобак). Такая уніяцкая царква

спалучала рысы клецкай царквы і драўлянага аднавежавага касцёла. У экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту экспануецца Свята-Пакроўская уніяцкая царква XVIII ст. з вёскі Логнавічы Клецкага раёна. Першапачаткова гэта быў двухзрубавы храм: чатырохсцен-неф і пяцісцен-апсіда пад двухсхільным дахам. Звонку сцены былі ашаляваны шырокімі гарызантальнымі плашкамі, замацаванымі магутнымі лісіцамі на тоўстых драўляных нагелях. Пазней да нефа быў дабудаваны на ўсю яго шырыню прытвор-трысцен. Галоўны фасад пераходзіў у франтон з бярвенцаў (закот) з залобкам-вальмай, над якой на васьмікутным барабане ўзвышаўся пластычны купалок з ліхтарыкам. Падобныя уніяцкія цэрквы XVIII ст. захаваліся ў Жыровічах, Свіры.

У XIX — пачатку XX ст. адбываецца шэраг змен у развіцці драўлянага царкоўнага дойлідства Беларусі. Пачаліся яны ў першай чвэрці мінулага стагоддзя ў сувязі з ліквідацыяй уніяцтва. Былыя уніяцкія цэрквы перабудоўваюцца з мэтаю надаць ім выгляд, які б адпавядаў праваслаўнай царкве. У большасці выпадкаў такія рэканструкцыі зводзіліся да прыбудовы трох-, чатырох'яруснай званіцы са стромкім шатровым завяршэннем і цыбулістай глаўкай. Часта такія прыбудовы парушалі кампазіцыйную раўнавагу царквы. Так, у згаданы перыяд была зроблена прыбудова чатырох'яруснай званіцы да Спаса-Праабражэнскай царквы XVIII ст. у Порплішчы. У выніку дамінантная роля купала на сяродкрыжжы даху страцілася, а сілуэтная раўнавага была парушана. У 1912 г. па праекце архітэктара Раствароўскага дабудавана трох'ярусная званіца да Свята-Мікалаеўскай уніяцкай царквы XVIII ст. у вёсцы Рамель Столінскага раёна, асноўны аб'ём якой складалі неф і апсіда пад чатырохсхільным дахам. Трох'ярусная званіца з высокім шатром і купалам была дабудавана да уніяцкай царквы XVIII ст. у вёсцы Моладава Іванаўскага раёна. Першапачатковы аб'ём тут таксама ўяўляў неф і алтар пад чатырохсхільным дахам.

У XIX ст. на тэрыторыі Беларусі распаўсюджваецца серыя так званых «узорных» праектаў драўляных цэркваў. У іх аснову былі пакладзены мясцовыя кампазіцыйныя прыёмы, аднак прапорцыі, формы і дэкор часам згадвалі рысы рускага праваслаўнага дойлідства. Аснову такой царквы складаў двух-, трох'ярусны неф з барабанам і купалком, да яго прымыкала апсіда пад двухсхільным дахам з вальмамі і невялікай макаўкаю і прытвор, над якім узвышалася трох-, чатырох'ярусная званіца з шатром ці шпілем (Лешня Капыльскага раёна, Чырвоны Партызан Добрушскага раёна). Шаляванае аздабленне сцен часта імітавала мураваную кладку (пілястры, карнізы, абшыўка вуглоў і інш.). У некаторых раёнах Падняпроўя драўляныя цэрквы пачатку XX ст., узведзеныя па «ўзорных» праектах, утрымлівалі шматлікія рысы рускага драў-

лянага мадэрна: бочкападобныя скляпенні, багатае разьбяное вонкавае аздабленне і г. д.

Для «ўзорных» цэркваў прымяняліся і больш спрошчаныя (тыповыя) варыянты: блізкі да квадрата неф з чатырохсхільным дахам і цыбулінай-купалам, алтар (апсіда) пад двухсхільным дахам, прытвор-званіца ў тры-чатыры ярусы (Кальчыцы Слуцкага, Вераб'евічы Капыльскага, Новы Быт Мінскага раёнаў ды інш.). Паводле гэтых узораў будаваліся і многія могілкавыя цэрквы.

Ярусна-крыжовы варыянт вылучаўся прымяненнем высокіх шатровых завяршэнняў і цыбулепадобных купалаў. Драўляныя цэрквы канца XIX — пачатку XX ст. зведалі значны ўплыў стылістыкі мадэрна, што выяўляецца ў шалёўцы з геаметрычнымі ўзорамі, ліштвах, карнізах, ветраніцах, упрыгожаных разьбой, дэкаратыўных разьбяных элементах на барабанах і купалах, у пластычным аздабленні кансоляў, слупоў, ганкаў (Чыжэвічы Салігорскага, Гарадзішча Баранавіцкага, Бясяды Мінскага, Даўгінава Мядзельскага раёнаў, гарады Горкі, Гарадок, станцыя Варапаева Пастаўскага раена і інш.). У многіх ярусна-восевых кампазіцыях знайшоў адлюстраванне сінтэз традыцыйнай аб'ёмна-прасторавай будовы з элементамі рускага царкоўнага дойлідства, прыўнесенымі рукою архітэктара. Прыкладам можа быць царква старавераў з вёскі Капусціна Кіраўскага раёна. Зруб з круглякоў з вуглом у «лапу», адсутнасць алтарнай прыбудовы, глаўкі на тонкіх барабанах над карнізам нефа, характар шатроў, глаў і іх аздаблення ілюструе вышэй адзначанае. Яшчэ яскравей гэта відаць у абліччы Свята-Пакроўскай царквы ў вёсцы Радастава Драгічынскага раёна, дзе ў цэлым традыцыйная кампазіцыя аздоблена чатырма глаўкамі на кутах нефа, а ў шалёўцы, ліштвах, кансолях і карнізным аздабленні бачны матывы рускага мадэрна. Характэрнае рускаму царкоўнаму дойлідству шматглаўе месціцца на крыжова-восевай па кампазіцыі Свята-Мікалаеўскай царкве з вёскі Мікалаева Камянецкага раёна: пяць купалоў над складаным дахам нефа. Цалкам аналагічная папярэдняй, але адрозніваецца маштабам царква ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна (на фота Я.Базулкевіча 1910—1914 гг.): той жа прынцып завяршэння сцен званіцы і нефа трохкутнымі франтонамі, тыя ж скрыжаванні двухсхільных дахавых форм, тыя ж пяць глаў над нефам, стромкая шатровая званіца. У некаторых выпадках (царква ў вёсцы Варапаева Пастаўскага раёна) у цэлым традыцыйная кампазіцыя дапаўняецца буйным мадэрнісцкім малюнкам форм «пад готыку». Гатычны малюнак — адна з рыс рускага мадэрну ў архітэктуры пачатку XX ст.

Свята-Пакроўская царква ў вёсцы Хатляны Уздзенскага раёна — прыклад пластычнай апрацоўкі ў стылі рускага драўлянага мадэрну традыцыйнай купальна-вежавай крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі.

Гістарычна ў Беларусі склаліся дзве асноўныя школы драўлянага царкоўнага дойлідства: палеская і віцебская. Першая звязана з развіццём збудаванняў ярусна-восевай кампазіцыі. У ёй разам з тым вылучаюцца лакальныя школы. Адна з іх — давыд-гарадоцкая прадстаўлена драўлянымі храмамі XVII—XVIII стст. з развітымі вежавымі і шатровымі формамі, што развіваюць глыбінныя традыцыі драўлянага абарончага дойлідства (Олпень, Рубель, Бераждное, Давыд-Гарадок, Вялемічы). Другая, маларыцкая, прадстаўлена адметнымі помнікамі з вытанчанымі формамі шатроў і пластычнымі арыгінальнымі абрысамі купалаў. Тут згадваюцца і многія міжэтнічныя асаблівасці, уласцівыя драўлянаму культаваму дойлідству Валыні, Польшчы, Карпат. Трэцяя — слуцкая лакальная школа прадстаўлена помнікамі XVIII ст. са складанымі яруснымі аб'ёмамі (Слуцк, Залужжа, Шчыткавічы і інш.). Як ужо адзначалася, драўляныя цэрквы XVI—XVIII стст. палескай школы мелі наогул шмат агульных рыс з драўляным культавым дойлідствам усяго паўднёвага арэала Усходняй Еўропы — ад прыазоўскіх стэпаў і левабярэжнай Украіны (Слабажаншчыны) да Валынскага Палесся і Карпат, усходніх раёнаў Чэхіі і Польшчы.

Віцебская школа дала яркія помнікі ярусна-цэнтрычных кампазіцый (Віцебск, Орша, Копысь, Смаляны, Барань, Магілёў). Да лакальных школ тут трэба аднесці Віцебскую з пабудовамі крыжова-яруснай кампазіцыі; Аршанскую з цэнтрычна-яруснымі (Барань) і купальна-вежавымі (Смаляны) цэрквамі; Полацкую з клецкімі цэрквамі тыпу Вялец, Завароты і інш. І тут назіраюцца рысы, уласцівыя драўлянаму сакральнаму дойлідству значных прастораў паўночна-ўсходняй Еўропы: ад сярэдняй паласы Расіі да Рускай Поўначы. Аднак пры шырокім арэальным падабенстве нават агульнасці рыс (генезіс шатровых форм, зрубных скляпенняў, рудыменты галерэй і г. д.) драўляныя цэрквы беларускіх гістарычных школ маюць адметныя нацыянальныя асаблівасці. Прымяненне бруса замест круглякоў, шалёўка, каскады і ярусы ў вышынным развіцці аб'ёмаў, завяршэнне шатроў вытанчанымі купалкамі надавалі драўляным цэрквам нацыянальную арыгінальнасць і непаўторнасць. Найперш у фарміраванні відарыса і сілуэта праяўляецца асаблівае адчуванне прапорцый і маштабаў, характэрнае і беларускім драўляным цэрквам. Ранняя адмова (у XIV—XVI стст.) ад грувасткіх самцовых дахаў, ужыванне кроквенных канструкцый таксама спрыялі хуткаму развіццю дынамічных і выразных форм. У рускім сакральным дойлідстве працяглае захоўванне традыцый самцовых перакрыццяў абумоўлівала адсутнасць стромкіх форм дахаў, развіццё бочкападобных і цыбулепадобных форм завяршэнняў.

Самабытныя арыгінальныя рысы драўлянага культавага дойлідства Беларусі захаваліся нават ва ўмовах распаўсюджвання «ўзорных» праектаў у XIX— пачатку XX ст.

# КАСЦЁЛЫ

Касцёльнае будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі бярэ пачатак прыкладна з XIII ст. Напачатку гэта былі адзінкавыя храмы ў буйных гарадах. Але ўжо ў XIV–XVI стст. будаўніцтва касцёлаў на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага значна пашырылася. Шматлікія інвентары і акты сведчаць, што на месцы большасці сённяшніх мураваных касцёлаў у XV–XVII стст. стаялі драўляныя.

Генезіс форм драўлянага касцёла паходзіў з іншых крыніц, чым царквы. Пра гэта сведчаць прасцейшыя варыянты драўляных касцёлаў Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы: адна-, двухзрубавыя будынкі пад прасторным двухсхільным дахам без вежаў. Раманагатычныя мураваныя храмы Еўропы таксама мелі ў аснове прасторную літургічную залу (неф), пазбаўленую вертыкальнага святла, адкрытай верхняй прасторы (неба). Нават самыя высокія сцены завяршаліся зоркавымі, крыжападобнымі скляпеннямі, а святло струменілася праз высокія вокны ў сценах. Вобраз божага храма, як дома пад двухсхільным дахам, трапіў у Еўропу з грэкарымскай традыцыі. Адсюль узяў пачатак тып найбольш ранняга бязвежавага драўлянага касцёла.

У XVIII ст. быў збудаваны драўляны касцёл у вёсцы Каменцы Шчучынскага раёна. Зрубы нефа і пяцікутнага алтара накрыты прасторным двухсхільным дахам, які мае з боку галоўнага фасада крыху крывалінейны абрыс і пераходзіць на мяжы са зрубам у вузкі застрэшак. Над злучэннем нефа і апсіды дах мае характэрны злом. Вежавыя надбудовы адсутнічаюць. Элемент сімволікі (каваныя крыжы) мацуюцца на кароткіх тонкіх шпілях над шчыпцом франтона і апсіды. Аналагічны выгляд меў збудаваны ў той жа час драўляны касцёл у вёсцы Лаздуны Іўеўскага раёна. Выцягнуты па прапорцыях будынак завершаны высокім двухсхільным дахам з зашытым дошкамі франтонам.

Пры параўнанні планіровачных прапорцый драўляных цэркваў і касцёлаў кідаецца ў вочы, што зрубы нефа і апсіды апошніх маюць больш выцягнутыя формы. Калі ў драўляных цэрквах суадносіны бакоў нефа складалі прыкладна 1:1, 1:1,5, то ў касцёлах гэтыя ж суадносіны вагаюцца ад 1:1,5 да 1:2. Гэта ж уласціва і прапорцыям апсідных прыбудоў. Такім чынам, недахоп вышыннай перспектывы кампенсаваўся восевай перспектывай, стварэннем адчування глыбіні прасторы. Драўляныя касцёлы не мелі скляпенняў. У іх падшывалася звычайная столь, якая, плаўна скругляючыся, пераходзіла ў вертыкальную плоскасць сцяны.

Падоўжныя прапорцыі нефа і апсіды касцёлаў вымушалі шукаць іншы ў адрозненне ад драўляных цэркваў шлях планіровачнага развіцця. Тут бакавое развіццё аб'ёмаў утварала не крыжова-



*Старая царква ў Быхаве. Фота пачатку XX ст.*



*Царква Святой Ганны. Крысава, Слуцкі павет.*
*Мал. Д.Струкава, XIX ст.*





*Царква XIX ст. Міколкі, Уздзенскі раён*

*Свята-Троіцкая царква XVIII ст. Вялец, Глыбоцкі раён*





*Царква XVIII ст. Логнавічы,*
*Клецкі раён*



*Царква XVIII ст. Ялава,*
*Пружанскі раён*

*Свята-Параскева-Пятніцкая*
*царква 1610 г. Збірагі, Брэсцкі*
*раён*





*Свята-Пакроўская царква 1740 г.
Дзеткавічы, Драгічынскі раён*



*Свята-Георгіеўская
царква 1760 г. Яглевічы,
Івацэвіцкі раён*



*Свята-Мікіцкая царква
пач. XVI ст. Здзітава,
Жабінкоўскі раён*



*Свята-Міхайлаўская царква 1779 г. Камень, Пінскі раён*

*Свята-Крыжаўзвіжанская царква 1810 г. Бабры, Лідскі раён*



*Свята-Міхайлаўская царква 1780 г. Асаўцы, Столінскі раён*



*Свята-Міхайлаўская царква 1787 г. Яромічы, Кобрынскі раён*

*Царква XIX ст. Лешніца, Маларыцкі раён*





*Свята-Раства-Багародзіцкая царква 1783 (?) г. Старое Сяло, Мінскі раён*



*Свята-Ільінская царква XVIII ст. Камайск, Докшыцкі раён*

*Свята-Іаана-Хрысціцельская царква 1720 г. Мацеевічы, Жабінкаўскі раён*



Свята-Петрапаўлаўская царква XIX ст. Гаруцішкі, Дзяржынскі раён



Свята-Пакроўская царква XIX ст. Скідэль, Гродзенскі раён. Фота Я.Балзункевіча пач. XX ст.

Свята-Антоніеўская царква XIX ст. Рубяжэвічы, Стаўбцоўскі раён. Фота Я.Балзункевіча 1910—1914 гг.



Спаса-Праабражэнская царква XIX ст. Грыцкавічы, Крупскі раён





*Свята-Дзмітрыеўская царква XVIII ст. Лелікава, Кобрынскі раён*

*Царква XVIII ст. Гердзявічы, Ашмянскі павет. Фота Я.Балзункевіча 1910—1914 гг.*





*Свята-Раства-Багародзіцкая царква 1720 г. Востраў, Пінскі раён*

*Свята-Мікалаеўская царква ў Ахонава Навагрудскага павета.*
*Фота Я.Балзункевіча 1910—1914 гг.*



*Свята-Ільінская царква XVIII ст. Дастоева, Іванаўскі раён*



*Царква ў вёсцы Скародная Мазырскага павета. Мал. Д.Струкава XIX ст.*



*Свята-Прачысценская (Раства-Багародзіцкая) царква 1671 г. Дарапеевічы, Маларыцкі раён*



*Свята-Ільінская царква кан. XVIII – пач. XIX ст. Дубок, Брэсцкі раён*





*Свята-Казанская царква ў Нягневічах Навагрудскага павета. Фота Я.Балзункевіча 1910—1914 гг.*

*Свята-Георгіеўская царква кан. XVIII ст. Жыровічы, Слонімскі раён*

*Свята-Георгіеўская царква 1560 г. Котра, Гродзенскі раён. Фота Я.Балзункевіча 1910—1914 гг.*







*Свята-Георгіеўская царква XVII ст. Давыд-Гарадок, Столінскі раён*



*Свята-Георгіеўская царква XVII—XVIII стст. Сінкевічы, Лунінецкі раён*



*Царква. Караткевічы, Глыбоцкі раён*





*Царква XIX ст. Драчкава, Смалявіцкі раён*

*Царква. Мал. Д.Струкава XIX ст.*

*Царква. Мал. Д.Струкава XIX ст.*



*Спаса-Праабражэнская царква XVIII ст.*
*Олтуш, Маларыцкі раён*



*Царква XVIII ст.*
*Украінскае Палессе.*
*Украінскі*
*дзяржаўны музей*
*народнай архітэктуры і побыту,*
*г. Кіеў*



*Свята-Ільінская царква 1724 г. Велямічы, Столінскі раён*

*Свята-Казьмадзям'янаўская царква 1866 г. Гарадок, Глускі раён*



3. Зак. 2052.



*Свята-Пакроўская царква XVII–XVIII стст. Петрыкаў*



*Свята-Міхайлаўская царква XVIII ст. Рубель, Столінскі раён*

3*. Зак. 2052.



*Свята-Мікалаеўская царква 1814—1818 гг. Кажан-Гарадок, Лунінецкі раён*



*Свята-Мікалаеўская царква 1846 г.*
*Дабрыгоры, Бешанковіцкі раён*

*Свята-Троіцкая царква 1919 г.*
*Кіявец, Валожынскі раён*



*Свята-Успенская царква 1784 г.*
*Альпень, Столінскі раён*



*Свята-Троіцкая царква кан. XIX ст. Быхаў*

*Свята-Пакроўская царква XIX ст. Мікалаева, Іўеўскі раён*



*Спаса-Праабражэнская царква 1910 г. Язвінка, Лунінецкі раён*





*Свята-Казанская царква.*
*Нягневічы, Навагрудскі раён.*
*Фота Я.Балзункевіча*

*Свята-Мікольская царква*
*1981 г. Агароднія-Кузьмініц-*
*кая, Добрушскі раён*





*Свята-Раства-Багародзіцкая царква 1912 г. Парэчча, Пінскі раён*



*Свята-Троіцкая царква 1842 г. г. Жыткавічы*



*Свята-Варварынская і Свята-Пакроўская цэрквы. Забашавічы, Барысаўскі раён*

*Свята-Георгіеўская царква XIX ст. Прылепы, Смалявіцкі раён*





*Свята-Ільінская царква 1788 г. Вуйвічы, Пінскі раён*



*Царква. Вітунічы, Докшыцкі раён. Фота Я.Балзункевіча*

4. Зак. 2052.



*Царква 1878 г. Сакаўшчына, Валожынскі раён*



*Свята-Раства-Багародзіцкая царква. Багданава, Віленскі раён*



*Царква Роўнаапостальных Канстанціна і Алены. г. Валожын. Фота Я.Балзункевіча*



*Свята-Троіцкая царква. Бродаўка, Барысаўскі раён*



*Свята-Ушэсцеўская царква XX ст. г. Столін*

*Свята-Дабравешчанская царква 1863 г.*
*Чамяры, Камянецкі раён*



*Свята-Міхайлаўская царква*
*XX ст. Красналукі, Чашніцкі раён*



*Свята-Раства-Багародзіцкая царква XIX ст. Лыскава, Пружанскі раён*

*Царква XIX ст. Вылева, Добрушскі раён*



*Царква XIX ст. Перадзенка, Лоеўскі раён*



*Свята-Георгіеўская царква XX ст. Лешня, Капыльскі раён*



*Свята-Мікалаеўская царква XX ст. г. Маларыта*



*Свята-Успенская царква XIX ст. Хатынічы, Ганцавіцкі раён*

*Свята-Троіцкая царква XIX ст. Зёлава, Драгічынскі раён*





*Царква XIX ст. Капусціна, Кіраўскі раён*

*Свята-Пакроўская царква XIX ст. Радастава, Драгічынскі раён*





*Свята-Мікалаеўская царква XIX ст. Мікалаева, Камянецкі раён*





*Свята-Пакроўская царква пачатак XX ст. Асінагарадок, Пастаўскі раён*



*Свята-Крыжаўзвіжанская царква пачатак XX ст. Амелянец, Камянецкі раён*

*Свята-Дзмітрыя-Растоўская царква пачатак XX ст. Выдранка, Краснапольскі раён*



*Свята-Казанская царква, пачатак XX ст.*
*Дарагакупава, Бешанковіцкі раён*



*Свята-Троіцкая царква ў Віцебску. Фота пачатку XX ст.*



*Свята-Барысаглебская царква XVI ст. г. Навагрудак. Фота пачатку XX ст.*

*Свята-Троіцкая царква ў Віцебску. Малюнак пачатку XX ст.*





*Свята-Ільінская царква XVII ст. Віцебск. Малюнак Д.Струкава, XIX ст.*

*Свята-Троіцкая царква XIX ст. Віцебск. Малюнак, XIX ст.*





*Свята-Ільінская царква XVII ст. у Віцебску. Малюнак, XIX ст.*



*Маркаў кляштар у Віцебску. Малюнак Д.Струкава, XIX ст.*

*Свята-Троіцкая царква XVII ст. у Віцебску.*
*Малюнак І.Трутнева, XIX ст.*





*Спаса-Праабражэнская царква*
*1704 г. Барань, Аршанскі раён*

*Свята-Дабравешчанская царква*
*XVIII ст. г. Орша. Малюнак, XIX ст.*

*Спаса-Праабражэнская царква XVIII ст. Смаляны, Аршанскі раён*



*Свята-Троіцкая царква XIX ст. Арэхаўск, Аршанскі раён*



*Свята-Пакроўская царква XIX ст.*
*Вейна, Магілёўскі раён*

*Свята-Успенская царква 1912 г.*
*г. п. Шаркаўшчына*



*Свята-Успенская царква. Галоўны фасад, г. п. Шаркаўшчына*

*Свята-Крыжаўзвіжанская царква 1764 г. Гарадзішча, Баранавіцкі раён*



*Свята-Георгіеўская царква 1896 г. Будча, Ганцавіцкі раён*



*Свята-Дабравешчанская царква XIX ст. Кунаса, Нясвіжскі раён*

*Спаса-Праабражэнская царква 1823 г. Дзятлавічы, Лунінецкі раён*

*Свята-Георгіеўская Царква. Раманава, Слуцкі павет.*
*Малюнак Д.Струкава, XIX ст.*



*Царква. Мядзель. Фота Я.Балзункевіча, 1910–1914 гг.*



*Свята-Петрапаўлаўская царква 1788 г. Галынка, Клецкі раён*

цэнтрычны, а крыжова-восевы план за кошт стварэння на мяжы нефа і апсіды папярочнага нефа — трансцэпта. План пры гэтым набываў форму выцягнутага крыжа. Дахі абодвух аб'ёмаў утваралі скрыжаванне, якое фіксіравалася размяшчэннем невялікай вежачкі, завершанай каваным крыжам. Драўляны касцёл Ушэсця Найсвяцейшай дзевы Марыі такой архітэктуры XVII ст. знаходзіўся ў мястэчку Нача Воранаўскага раёна. Невялікія вежачкі, што вянчаюць шчыпцы дахаў, не парушаюць бязвежавага, па сутнасці аб'ёмна-прасторавага рашэння.

З'яўленне вежаў-званіц у драўляных касцёлах Беларусі ўзыходзіць да заходнееўрапейскіх традыцый успрыняцця некаторых форм абарончага дойлідства сакральным. Калі ў царкоўнай архітэктуры вежа-званіца больш арганічна вынікае з агульнай кампазіцыі аб'ёмаў, то ў драўляным касцёле вежа нібы далучаецца (прыбудоўваецца) да аб'ёмістага будынка са стромкім двухсхільным дахам. Прыклад найбольш простага рашэння аднавежавай кампазіцыі — касцёл у вёсцы Дзятлава Ваўкавыскага раёна. Тут размешчаная на восі вежа існуе як самастойны кампазіцыйны элемент і як канструкцыйная частка пабудовы. Аднак будаўнікі ў пошуках кампазіцыйнай і аб'ёмна-прасторавай цэласнасці збудавання неўзабаве знаходзяць новае рашэнне: двух-, трох'ярусная вежа ўздымаецца над шчыпцом франтона, нібы вырастаючы з даху. Вежа надае збудаванню дынамічны, асіметрычны — калі глядзець збоку — сілуэт. Першы з апісаных варыянтаў больш характэрны для драўляных касцёлаў Польшчы, Чэхіі, Заходняй Украіны. На пачатку XX ст. драўляныя касцёлы з вежай прытвора-званіцы былі ўспрыняты архітэктурай мадэрна і атрымалі новую інтэрпрэтацыю. Другі тып аднавежавага касцёла можна разглядаць як больш характэрны менавіта беларускаму драўлянаму дойлідству. У вёсцы Сялявічы Слонімскага раёна драўляны касцёл святой Барбары складаецца з нефа, апсіды і невялікага трансцэпта. Галоўны фасад завяршае стромкая вежа-званіца. Аналагічнага тыпу могілкавая капліца знаходзіцца ў вёсцы Раёўка Маладзечанскага раёна. Аднавежавыя кампазіцыі давалі немалыя магчымасці для стварэння выразнай і велічнай па эмацыянальным змесце архітэктуры, прыкладам чаго можа быць касцёл прасвятой Тройцы пачатку XX ст. у Друі. Пяціярусная вежа, узнятая над прытворам з пластычным завяршэннем і маляўнічым купалком, — галоўны кампазіцыйны акцэнт збудавання. Лёгкасць і ўзнёсласць вежы надае слупавы ганак. Яскрава ўвасобленыя ў дрэве рысы барочнай архітэктуры. Жорсткі матэрыял драўляных канструкцый набывае неабходную пластычную дынаміку. Распаўсюджванне аднавежавых касцёлаў спынілася ў выніку пераасвячэння многіх з іх у праваслаўныя цэрквы. Да такіх адносяцца Свята-Прачысценская царква ў вёсцы Дарапеевічы Маларыцкага раёна з трох'яруснай ве-

5. Зак. 2052

жай-званіцай, Свята-Георгіеўская царква ў вёсцы Котры Гродзенскага раёна, Свята-Казанская царква на могілках у вёсцы Нягневічы Навагрудскага раёна і шмат іншых.

Значна больш разнастайных варыянтаў назіраецца ў генезісе двухвежавых драўляных касцёлаў. Фланкуючыя фасад вежы прыйшлі сюды са стылістыкі абарончай архітэктуры і, як ужо адзначалася, выкрышталізаваліся ў нетрах рамана-гатычнай культуры. Варыянт драўлянай двухвежавай брамы Мінскага замчышча XI—XII стст. можна лічыць яскравым правобразам адзначанага тыпу драўляных сакральных збудаванняў. Фасад, фланкіраваны вежамі, сімвалізаваў вароты ў храм, браму да нябёсаў. Узнятыя да высяў вежы гатычнага храма рабілі зразумелай велічную перспектыву нефа з зорчатымі сутарэннямі і рытмам высокіх стрэльчатых вокнаў. Гэта зусім іншае, у параўнанні з візантыйскім, паразуменне сакральнай прасторы. З'яўленне двухвежавых драўляных касцёлаў можна аднесці да XV—XVI стст., гэта значыць да перыяду, калі існавалі іх мураваныя аналагі (цэрквы абарончага тыпу і касцёлы каталіцкіх манастыроў). Можна меркаваць, што для рэнесансавай эпохі на Беларусі двухвежавы касцёл увасабляў вобраз гэтага тыпу драўляных сакральных збудаванняў. Інвентары і актавыя матэрыялы XV—XVII стст. прыводзяць шматлікія апісанні драўляных двухвежавых касцёлаў. Канкрэтна меркаваць аб развіцці іх форм мы можам не толькі на падставе аналізу сярэднявечных вопісаў, але і саміх помнікаў, іх графічных відарысаў. Праўда, большасць помнікаў, якія можна прыцягнуць да аналізу, адносіцца да XVII — першай паловы XIX ст., аднак можна з упэўненасцю сказаць, што многія з іх маюць стылёвыя і канструкцыйныя асаблівасці, уласцівыя іх папярэднікам два-тры стагоддзі назад, што тлумачыцца значным кансерватызмам знойдзеных аптымальных рашэнняў і форм.

Прасцейшы, успрыняты ад готыкі варыянт двухвежавага касцёла, уяўляў збудаванне з працяглымі нефам і апсідай пад высокім стромкім двухсхільным дахам (суадносіны вышыні сцен да вышыні даху складалі амаль 1:1), у якім галоўны (арыентаваны на захад) фасад фланкаваўся двух-, трох'яруснымі квадратнымі ў плане вежамі. Менавіта такую архітэктуру меў драўляны касцёл XVIII ст. у вёсцы Іжа Вілейскага раёна. Яго вежы былі амаль упоравень са стромкім двухсхільным дахам, што надавала абліччу касцёла суровы, уласцівы даўняй готыцы, выгляд. Касцёл Дзевы Марыі ў вёсцы Хоўхлава Маладзечанскага раёна ўзведзены таксама ў XVIII ст. Аснову яго аб'ёмна-прасторавага вырашэння складаюць неф і вельмі выцягнутая апсіда (даўжыня нефа і апсіды тут суадносяцца як 1:1). Стромкі і высокі двухсхільны дах, вальмы над гранямі апсіды сыходзяцца ў шчыпцы. Звесы даху дзякуючы спецыяльным брусам (кабылкам) крыху прыўзняты над краямі,

што надае яго абрысу выразнасць. Праз шырокія прафіляваныя карнізы адбываецца пераход да сцен, вертыкальны рытм якім задае тонкі малюнак шалёўкі. Дзве фланкуючыя галоўны фасад вежы пад невысокімі чатырохсхільнымі стрэшкамі таксама амаль на ўзроўні з грэбенем даху. Паміж імі — трохкутны, стромкі франтон з карнізам і шырокім прычолкам.

Гэтыя два прыклады ілюструюць менавіта найбольш раннія варыяцыі архітэктуры драўляных двухвежавых касцёлаў, якія не мелі рэзкіх сілуэтных пераходаў паміж вежамі і аб'ёмам асноўнай часткі будынка. Вытрыманая ў дакладных лініях, стрыманая архітэктура касцёлаў у Іжы і Хоўхлаве пераклікаецца з формамі муранай царквы ў Сынкавічах. Менавіта там добра відаць, што вежы і грэбень даху ўзведзены пад адну лінію па вышыні, дахі вежаў — палогія, дах нефу — стромкі, высокі.

Пад уздзеяннем стылістыкі рэнесансу і барока архітэктура вежаў паступова пачынае набываць вытанчанасць. Дакладна вызначаецца яруснасць будовы — тры-чатыры ярусы, абмежаваныя казыркамі-стрэшкамі; стромкае пірамідальнае завяршэнне мае на мэце дасягнуць значнага перавышэння ўзроўню даху нефа і такім чынам узмацніць сілуэт пабудовы. Будынак касцёла ўжо ўспрымаецца не як цэласная маса, а як дынамічная сукупнасць мас. На вежы пераносіцца галоўны акцэнт. Фасады страчваюць раўназначнасць. Галоўны фасад — сіметрычны, з вастраверхімі вежамі — робіцца носьбітам вобраза збудавання. Бакавы — асіметрычны, вертыкаль вежаў супрацьстаіць гарызанталі грэбеню даху. Такога тыпу драўляныя двухвежавыя касцёлы вельмі шырока прадстаўлены помнікамі XVIII ст. Такі выгляд меў, напрыклад, касцёл найсвяцейшага Сэрца Ісуса (XVIII ст.) у вёсцы Лоск Валожынскага раёна. Яго галоўны фасад фланкавалі трох'ярусныя стромыя вежы, чатырохкутныя ў плане, вытанчаныя і выцягнутыя ўвысь, са шпілепадобнымі завяршэннямі, аздобленымі па перыметры асновы элегантнымі трохкутнымі франтончыкамі. Гэткім жа яскравым прыкладам двухвежавага драўлянага касцёла Хрыста з'яўляўся касцёл XVIII ст. у вёсцы Лявонпаль Міёрскага раёна. Яго заходні фасад з высокім дахам нефа фланіруюць трох'ярусныя вежы пад стромкімі пірамідальнымі шатрамі. Ярусы вежаў былі падкрэслены стрэшкамі. Вежы даволі хутка страцілі сваю утылітарную функцыю званіц і пачалі адыгрываць выключна архітэктурную ролю. Сведчанне гэтаму — размяшчэнне двух'ярусных званіц ці брамаў-званіц пры ўваходзе на касцёльны падворак. У Лявонпалі двух'ярусная званіца стаяла ў куце касцёльнага двара. Тое ж самае месца займае званіца ў забудове касцёльнага цвінтара ў Дудах Іўеўскага раёна і многіх іншых выпадках. Тып драўлянага касцёла з трох'яруснымі вежамі-званіцамі прадстаўляюць касцёлы ў Паланечцы Баранавіцкага і Лебедзеве Маладзечанскага раёнаў. Да гэтага ж роду сак-

ральных збудаванняў адносіўся і касцёл XVIII ст. у Сіранках Астравецкага раёна. У XVIII ст. назіраецца імкненне ўзбагаціць пластыку драўляных касцёльных пабудоў шляхам шалёўкі з уключэннем шматлікіх накладных дэталяў, як гэта можна бачыць у адным з выдатных помнікаў драўлянага дойлідства — касцёле святога Іахіма ў Клюшчанях Астравецкага раёна.

Росквіт архітэктуры барока вымушае да пошуку больш выразных па пластыцы форм у двухвежавым касцёльным дойлідстве. Натуральна, што ў першую чаргу відазмяняюцца завяршальныя вежавыя формы: шатры, купалы. Над шатрамі з'яўляюцца гранёныя барабаны з купалкамі крывалінейнага абрысу, як, напрыклад, у касцёлах XVIII ст. у Старым Мядзелі і Дудах Іўеўскага раёна. Пры гэтым чацверыковае сячэнне вежаў яшчэ не змяняецца. Іншы раз назіраецца пераход ад шатра, які вянчае вежу, да пластычнага па форме купалка, як у драўляным касцёле Візітак пачатку XIX ст. у вёсцы Вілейка Докшыцкага раёна ці ў касцёле Прасвятой Тройцы XVIII ст. у вёсцы Войстам Смаргонскага раёна. Купалы гэтага касцёла аздоблены слыхавымі вокнамі і люкарнямі. Нарэшце, больш складаную форму набываюць і самі ярусы вежаў. Двухвежавы касцёл XVIII ст. у вёсцы Валавель Драгічынскага раёна спалучае і складаныя формы, і пластычнае завяршэнне вежамі. З'яўленне купалаў над касцёльнымі вежамі ў Беларусі вынік і пэўнага ўплыву царкоўнага дойлідства. Разам з тым у драўляных каталіцкіх касцёлах паўднёвых і заходніх славян пластычныя, цыбулепадобныя завяршэнні вядомы з XVI–XVII стст. (Румынія, Славакія, Польшча, Заходняя Украіна). Асабліва складаныя формы навершшаў характэрны драўляным касцёлам XVII ст. у Заходнім Палессі. На малюнку Н. Орды сярэдзіны XX ст. зафіксіраваны двухвежавы касцёл у вёсцы Моладава Іванаўскага раёна з вежамі надзвычай складанай пластыкі. Блізкія да іх вежы драўлянай Спаса-Праабражэнскай царквы XVIII ст. у вёсцы Хацілаў Маларыцкага раёна. Увогуле уласцівае архітэктуры барока імкненне пазбавіцца ад жорсткіх форм знаходзіла ўвасабленне і ў дрэве. Плоская столь раптам робіцца трапецападобнай (Лоск Валожынскага раёна) або паўцыліндрычнай (Канвелішкі Воранаўскага раёна). Франтон страчвае верхні кут, а бакавыя лініі схілаў часам становяцца пругкімі, нібы супраціўляючыся скіраванай увысь сіле. Разамкнёныя франтоны прысутнічалі ў драўляных касцёлах на фасадах, у аздабленні вокнаў і дзвярэй, у атрыбутах інтэр'ераў (алтары, амбоны, футаралы арганаў і да т.п.).

Барока закранула не толькі пластыку форм драўляных касцёлаў, але прывяло ў рух і самі формы, аб'ёмы збудаванняў. Так, у драўляным касцёле XVIII ст. у вёсцы Хацілаў Маларыцкага раёна квадратныя ў плане вежы размешчаны адпаведна фасаднай плоскасці пад вуглом 45 градусаў. Касцёл у XIX ст. быў перабу-

даваны ў царкву, з'явіўся прытвор з высокай чатырох'яруснай званіцаю з шатровым завяршэннем. Аднак архітэктура асноўнага аб'ёму з павернутымі вежамі добра чытаецца, нягледзячы на дабудовы.

Асобны тып утвараюць драўляныя касцёлы, у якіх над шчыпцом франтона з'яўляецца невялікая трэцяя вежа. Помнікі драўлянай архітэктуры сведчаць, што існавалі шматлікія варыяцыі трохвежавых касцёльных фасадаў. Так, у касцёле Раства Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Кемелішках Астравецкага раёна ёсць трэцяя невялікая вежа, па формах і прапорцыях аналагічная асноўным. Такая ж вежка прысутнічае і ў архітэктуры касцёла ў вёсцы Камена Лагойскага раёна, а таксама ў касцёле Візітак з вёскі Вілейка Докшыцкага раёна. З'яўленне дадатковай вежы паміж асноўнымі ўносіла пэўную раўнавагу ў агульную кампазіцыю і адначасова акцэнтавала формы даху асноўнага аб'ёму, узбагачаючы агульную пластыку збудавання і яго перспектыўнае ўспрыняцце з бакавых ракурсаў.

Архітэктура барока спрыяла з'яўленню ў драўляным касцёльным будаўніцтве храмаў з цэнтрычным шматкутным (шасці-, васьмікутным) планам — тыпу ратонды. Аб'ёмна-прасторавае вырашэнне па тыпе ратонды было добра вядома ў XVI—XVII стст., пра што сведчыць архітэктура кальвінскіх збораў (рэфарматарскіх цэркваў) і шматлікіх капліц. Для сядзібнай царквы (касцёла) ратондавы план быў зручны па прычыне кампактнасці і ўтульнасці інтэр'ера. Для драўлянага дойлідства план ратонды быў зручны ў выкананні, бо цесляры мелі багаты вопыт узвядзення шасцерыкоў і васьмерыкоў. Касцёл-ратонда Святога Антонія Падуанскага быў узведзены ў XVIII ст., напрыклад, у вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна. Асабліва шмат невялікіх касцёлаў-ратонд было ў XVIII—XIX стст. у Польшчы.

Класіцызм прыўнёс у драўлянае касцёльнае будаўніцтва калонныя порцікі, атыкі і франтоны, аздабленне з драўляных пілястраў, фрызаў і іншых дэталяў. З'яўленне драўляных касцёлаў трохнефавага базілікальнага плана таксама тлумачыцца класіцыстычным уплывам. У мястэчку Адэльск Гродзенскага раёна касцёл Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі XVIII ст. вылучаецца арыгінальным аб'ёмна-прасторавым рашэннем. Яго асноўны аб'ём мае трохнефавую будову: высокі галоўны неф пад двухсхільным дахам і ніжэйшыя бакавыя нефы пад аднасхільнымі дахамі. Былі і іншыя варыянты драўляных трохнефавых базілік.

Шэраг арыгінальных драўляных касцёлаў з'явіўся ў заходніх рэгіёнах Беларусі ў 30-ыя гады XX ст. Сама, так бы мовіць, эпоха тады яшчэ канчаткова не зжыла эклектычныя вышуканні і эфектныя праявы мадэрна. Драўляныя касцёлы гэтага часу ўжо вылучаліся не толькі цяслярскім майстэрствам і пераймannем традыцый. Дойлід, распрацоўваючы праект, шукаў вобраз, які б, на яго

думку, увасобіў яркія гістарычныя рысы такога тыпу збудавання. Адным з узораў сталі старадаўнія бязвежавыя гатычныя формы, якія і набылі новую інтэрпрэтацыю, напрыклад, у касцёле вёскі Лінова 1-ае Пружанскага раёна. Двухзрубавы храм завершаны высокім стромкім дахам, крыху паднятым каля звесаў. Высокі франтон кансольна вынесены над плоскасцю галоўнага фасада. Дах над апсідай крыху ніжэйшы, з характэрнымі вальмавымі схіламі. Высокі стромкі дах вылучаецца унікальнай кроквеннай канструкцыяй, якая забяспечвае яго ўстойлівасць.

Аднак тыповым у дойлідстве XX ст. быў аднавежавы «старапанскі» касцёл, шырока вядомы ў Польшчы. У 1936 г. узводзіцца драўляны касцёл Святога Юзафа ў вёсцы Руда Яварская Дзятлаўскага раёна. Аснову збудавання складае двухзрубавае спалучэнне нефа і апсіды, на мяжы якіх прымыкаюць з бакоў зрубы сакрысцяў. Прытвор невялікіх памераў далучаны да нефа па тыпу трысцена, неф перакрыты двухсхільным прасторным дахам, які пераходзіць над апсідаю ў вальмавы. А над прытворам велічна ўзвышаецца чатырохкутная высокая вежа з шатровым завяршэннем. Вежа мае толькі рэпрэзентатыўнае значэнне, бо побач, на касцёльным двары, стаіць узведзеная на чатырох слупах званіца.

Прыкладна ў гэты ж час будуецца драўляны касцёл і ў вёсцы Дойлідкі Смаргонскага раёна. Яго аб'ёмна-прасторавае вырашэнне амаль аналагічнае Руда Яварскаму: крыжова-восевы план, двухсхільны дах, дахі над сакрысцямі. Аднак высокую вежу над прытворам віленскі дойлід, які праектаваў касцёл, вырашыў зрабіць па аналагах, больш характэрных для рэгіёнаў Заходняй Украіны, Карпат, раёнаў паміж Сопатам і Кракавам. Складаны, маляўнічых барочных форм купалок завяршае стромкую вежу касцёла ў Дойлідках.

Варта адзначыць і эклектычныя праекты драўляных касцёлаў названага перыяду. У разнастайных інтэрпрэтацыях выкарыстоўваліся і барочныя формы. Так, у вёсцы Латыголь Глыбоцкага раёна існаваў драўляны касцёл, архітэктуру якога вызначалі складанай формы дах і франтон з незвычайнымі крывалінейнымі схіламі, запазычанымі са стылістыкі ракако. Эклектычныя напластаванні драўляныя касцёлы XVIII—XIX стст. набывалі і ў выніку перабудоў, рэканструкцый і рамонтаў (Паланечка, Лебедзева, Котра і інш.) Аднак асабліва безгустоўна і непрадумана, што істотна скажае першапачатковае аблічча помнікаў, праводзяцца рамонтна-аднаўленчыя работы сёння. Драўляныя сцены тынкуюцца звонку (Дойлідкі), вежы абшываюцца шыферам і бляхай (Руда Яварская, Кемелішкі), ужываецца стракатая расфарбоўка (Дуды).

Сённяшняя ж практыка драўлянага касцёльнага будаўніцтва пакуль што абапіраецца на традыцыйныя аб'ёмна-прасторавыя вырашэнні і формы. Нешматлікія наноў адбудаваныя драўляныя

каталіцкія храмы паўтараюць выпрабаваныя стагоддзямі адна- і двухвежавыя кампазіцыі (Порплішча і інш.).

Гістарычна найбольш тыповым і выразным для Беларусі з'яўляецца сярод драўляных каталіцкіх храмаў двухвежавы касцёл. Ён відавочна адрозніваецца ад бязвежавых касцёлаў, касцёлаў-ратонд, крыжова-цэнтрычных драўляных касцёлаў Прыбалтыкі, ад аднавежавых Польшчы, Чэхіі, Славакіі і Заходняй Украіны. Магчыма, двухвежавы архетып замацаваўся як антытэза царкве. З лакальных тыпаў варта вылучыць драўляныя касцёлы ў Іжах і Хоўхлаве (Паўночна-Заходні рэгіён); у Халіславе, Валавелі, Дзівіне (Паўднёва-Заходні рэгіён); у старым Мядзелі, Дудах, Паланечцы (Заходні рэгіён).

## КАПЛІЦЫ

Наяўнасць праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў на Беларусі вызначыла два тыпы невялікіх па памерах сакральных пабудоў-капліц. Праваслаўная капліца, аналагічная рускай «часовне», дзе набажэнствы ладзіліся па раскладу («часах»); каталіцкая «capelle», сядзібная, хатняя, кляштарная царква, ці малітоўня пры касцёле.

У праваслаўным веравызнанні капліцы (часовни) гэта цэрквы без алтароў. У раннехрысціянскія часы капліцы ставіліся над магіламі пакутнікаў, над уваходамі ў катакомбы, што служылі прытулкам манахаў, над падземнымі цэрквамі, пахаваннямі, а таксама як знак месцазнаходжання прастола. Узводзіліся яны і на памятных мясцінах у знак ушанавання важных царкоўна-дзяржаўных падзей. У Грэцыі і Візантыі капліцы былі вядомы як малітоўныя дамы, у рымска-каталіцкай царкве — як capelle (папольску — caplicy), якія будаваліся на сядзібах, каля дарог і скрыжаванняў. Выконвалі яны таксама ролю хатняй царквы ў рыцарскіх замках, палацах. У Расіі капліцы ставіліся на месцах паганскіх мольбішчаў разам з крыжамі. У X ст. у Ноўгарадзе капліцы былі ўзведзены на месцах, дзе стаялі балваны Перуну і Вялесу. Сціплая капліца, узведзеная айцом Сергіем у нетрах прыанежскіх лясоў, паклала пачатак славутай лаўры. Змагаючыся з царкоўным раскольніцтвам, Пётр I спецыяльнымі ўказамі 1707 і 1722 гг. загадаў разабраць усе капліцы і «не дазваляць пабудову аніякіх». Аднак у глухіх лясах, там, дзе адсутнічалі цэрквы, будаўніцтва капліц працягвалася. У часы Елізаветы і Кацярыны свяцейшы сінод дазволіў замест капліц ставіць слупы з абразамі ці абразы на спецыяльным подыуме для збору ахвяраванняў на царкву. Толькі ў 1853 г. забарона на будоўлю капліц у Расіі была адменена.

Капліцы ставяцца на могілках, каля вёсак, на плошчах, як для рэлігійных патрэб, так і ў азнаменаванне якіх-небудзь важных у царкоўных адносінах падзей... У Расіі з'явіліся з прыняццем хрысціянства...»

У слоўніку царкоўнаславянскай і рускай мовы капліца характарызуецца як невялікая пабудова, напоўненая абразамі, перад якімі цепляцца лампады і куды з-за аддаленасці ад цэркваў збіраюцца людзі на грамадскае маленне. Агульны царкоўна-славяна-рускі слоўнік характарызуе капліцы «як невялікія збудаванні, у якіх жыхары паселішчаў з прычыны аддаленасці ад цэркваў збіраюцца на набажэнствы». У. Даль дае некалькі значэнняў тэрміна: як малітоўны дом, храм без алтара, дзе можна служыць толькі пэўныя набажэнствы, не літургію; як асобнае невялікае збудаванне ці прыбудова з абразамі і лампадай, такія капліцы ставяцца як помнікі або на ростанях, крыніцах, над прастолам былой царквы; як ківот, паставец, палічка з абразамі, як абразная (памяшканне для абразоў). У тлумачэннях Даля ёсць адна істотная дэталь, якая адрознівае праваслаўныя «часовни» ад каталіцкіх капліц. «Часовни» маглі служыць для адпраўлення не літургіі, а толькі набажэнстваў, прымеркаваных да пэўнага часу («часов»), адсюль і назва — «часовня».

Распаўсюджанне капліц у Заходняй Еўропе ў раннім сярэднявеччы засведчана рашэннямі Труальскага сабора і капітулярыем Карла Вялікага. У Расіі з распаўсюджаннем хрысціянства капліцы будуюцца ў вёсках і гарадах пры манастырах і цэрквах, на вялікіх і малых дарогах, на паклонных гарах. Як сведчанне паганскіх вераванняў да XIX ст. захоўвалася бытавая назва капліц як бажанкі і бажніцы, а ківотаў і абразоў — як бажніц і багоў (бажніцы Трувара ў Кіеве, Антонія ў Ноўгарадзе і інш.).

Назва «часовня» паходзіць ад тэрміна, які абазначае чатыры чынапаслядоўнасці царкоўных службаў, называных «часамі». Кожная чынапаслядоўнасць уключала тры псалмы, а таксама песнапенні і малітвы: «час» першы адпраўляўся на пачатку дня, пасля ютрані, трэці і шосты — перад літургіяй, дзевяты — перад вячэрняй. Богаслужэннем першага часу (6 гадзін раніцы) услаўляўся Светадавец, што дарує дзень, трэці (9 раніцы) — успамін пра сашэсце Святога Духа на апосталаў, шосты (12 гадзін) прысвечаны ўкрыжаванню Хрыста, дзевяты (15 гадзін) — вяртанню да Бога і знішчэнню царства сатаны. У капліцах, аддаленых ад прыходаў, акрамя набажэнства, усяночных і паніхід хрысцілі немаўлят і вянчалі маладых, праводзіліся гавенні ў час пастоў і прымаліся споведзі. Каля такіх капліц будаваліся і званіцы. Грамадскія капліцы адрозніваліся ад сядзібных (хатніх), прыдарожных і могілкавых характарам службы. У сялянскім побыце ролю капліцы выконваў чырвоны кут. Акрамя абразоў тут трымалі святую ваду, калядныя

і вянчальныя свечкі, асвечаную вярбу, траецкія кветкі. У час навальніцы запальвалі калядныя свечкі, а пры цяжкіх родах — вянчальныя. У выпадку пажару з абразамі абыходзілі хату. Па даўнім звычаі раніцай, у абед і вечарам збіраліся на малітву. Перад абразамі, якія пасля малення завешваліся ручнікамі, запальвалі свечкі і лампаду. Раскольнікі, што жылі ў адной хаце, але трымаліся розных веравызнанняў, маліліся кожны ў сваім куце, асобна.

Малітоўныя пабудовы да XIX ст. сустракаліся ў многіх панскіх і купецкіх дамах (абразная, крыжовая клець). Каля прыдарожных капліц часам капалі студні, добраўпарадкоўвалі крыніцы (студзеніцы). Тут праводзілася вадохрышча. Крыжы ці капліцы на месцах развітання (на ростанях, на крыжавых дарогах) называлі ў побытавай мове прошчамі. Такія прошчы часта ладзіліся на выездах з паселішча. Пад паняццем прошчы разумелася і дараванне грахоў, вратаванне ад хвароб. Побач з прошчамі маглі знаходзіцца і корчмы, якія называлі ў такім выпадку ростанню. Выкарыстанне капліц як надмагільных помнікаў таксама мела шырокае распаўсюджванне. Аўтар трактата «Капліцы ў рускім свеце» І. Снегіроў паведамляў, што за 12 вёрст ад Оршы, у драўлянай Барысаглебскай капліцы, захаваўся Рагвалодаў камень. Ён таксама меркаваў, што пахавальная капліца служыла месцам, на якім у XV—XVI стст. напярэдадні масленіцы рабіліся інсцэніроўкі на тэму Страшнага суда. Указам Пятра І ад 26 кастрычніка 1723 г. было забаронена будаваць капліцы над магіламі пры наяўнасці могілкавай царквы. Тым не менш над захаваннямі феадалаў і вяльмож працягвалі ўзводзіць мураваныя капліцы, у якіх ставіліся абразы і лампады і служылася паніхіда. У XIX ст. сінодам было дазволена будаўніцтва могілкавых капліц, рэгламентаванае санітарнымі патрабаваннямі.

Назвы капліцам звычайна даваліся па імёнах святых, якім былі прысвечаны абразы, крыжы і іншыя атрыбуты. Распаўсюджванне абразоў Параскевы-Пятніцы тлумачыла вялікае бытаванне капліц-пятніц, ахоўніц рамёстваў і гандлю. У буйных паселішчах, дзе не было царквы, каля капліц ладзіліся хрэсныя ходы, праводзіліся кірмашы, таргі, ладзіліся народныя гулянні. І. Снегіроў так характарызаваў агульныя рысы іх архітэктуры: «Гэта хатка з ганачкам пад паветкай, з дзвярыма на захад; дах яе двухсхільны з крыжам на грэбені або шатровы, у выглядзе вежачкі, крытай гонтаю або дорам... Калі аб'ём такіх малітоўняў стаў павялічвацца, тады сталі ладзіць на грэбені невялікую макаўку з крыжам».

Гісторыя капліц гаворыць пра адну з багаслоўскіх асаблівасцяў тлумачэння ідэі малення. Духоўнікі зыходзілі з Евангелля ад Мацвея, дзе сказана, што Іісус паказаў для малітвы пакой і даў тлумачэнні наконт хатняга малення. Паводле хрысціянскіх апокрыфаў, у эпоху Максімільяна два хрысціянскія святары Іперыхій

і Філарэт у абсталяваным для малення пакоі нанеслі на сцяну выяву крыжа, якая замяняла алтар, прастол і г. д. Адзін з хрысціянскіх апакрыфістаў Яўстафій (IV ст.) лічыў, што мець сумоўе з Богам, г. зн. маліцца, можна ўсюды і наяўнасць храма зусім не абавязковая. Меркаванні пра маленне ў дарозе абапіраліся на словы апостала Паўла: «...Жадаю, каб ва ўсялякім месцы рабілі малітву, узняўшы чыстыя рукі, без гневу і сумнення». Пачатак усталявання манументаў з крыжам адносяць да дзеянняў Канстанціна Вялікага, калі ў гонар перамогі пад Максенцыем паставілі статую з крыжам у руцэ. З'яўленне прыдарожных крыжоў ва ўсходніх славян адносяць, паводле легенды, да часу падарожжаў Андрэя Першазванага, які нібыта ўсталяваў крыжы на пагорках Кіева. Вядома таксама, што Вольга, «абыходзячы грады і весі ва ўсёй рускай зямлі», біла куміры і ўсталёўвала крыжы Хрыстовыя. Распаўсюджвальнікам капліц называюць і Іаана Златавуста, які казаў: «Там (у капліцы. — *А.Л.*) будуць здзяйсняцца пастаянныя маленні, песняспевы і ўрачыстасці і прынашэнні (бяскроўнай ахвяры) у кожны ўваскрэсны дзень...»

Як пабудова капліца магла фарміравацца і ў выніку добраўпарадкавання тэрыторыі вакол крыжа. Каб абараніць ад спякоты і дажджу ўдзельнікаў мольбішча, над крыжам ставілі стрэшкі і акружалі іх сценамі. Капліца з часам была ўсталявана і над цудатворнымі тураўскімі каменнымі крыжамі.

Пачаткам будаўніцтва капліц-пахавальняў, магчыма была смерць у 1109 г. дачкі Усевалада Еўпраксіі. Яе паклалі ў Пячэрскім манастыры ў куце і зрабілі «божанку, иже лежит тело ея».

Пытанні будаўніцтва капліц былі цесна звязаны з царкоўнаю казною. Клір, цэнтралізаваўшы грашовыя паступленні, уважліва сачыў за спраўнасцю паступлення плацяжоў. Атрыманне дазволу на будаўніцтва капліцы аўтаматычна азначала выплату даніны. У V ст. Карфагенскім саборам дазвалялася епіскапам разбураць алтары, якія не мелі святых мошчаў ці былі ўзведзены не на месцах жыцця святых пакутнікаў. У інструкцыі папоўскім старастам патрыярха Адрыяна (1697) гаворыцца, што «без указу свяцейшага Патрыярха цэркваў у гарадах і ў сёлах, і ў вёсках будаваць і капліц ставіць і данінаю абкладаць не дазволена». Ва ўказе ад 25 лістапада 1707 г. гаворыцца: «...Капліцы, якія пабудаваны ў Санкт-Пецярбургу, усе зламаць і ў будучым нікому не будаваць». Указ ад 22 сакавіка 1722 г. удакладняў: «...пабудаваным бліз цэркваў і на таржышчах і на скрыжаваннях, і ў сёлах, і ў іншых месцах капліцы там не павінны стаяць... капліцы бываюць перашкодай цэрквам і служаць на карысць расколу».

Аднак да сярэдзіны XVIII ст. капліцы трывала ўвайшлі ў традыцыю і эканоміку царквы. Буйныя царкоўныя прыходы і манастыры ўдала выкарыстоўвалі іх для павелічэння прыбыткаў. «І

гэтым падвойваліся паступленні ў царкву Божую на куплю свечак васковых і віна царкоўнага, і на харчы брацііі, і на адзенне, і на дровы, і на манастырскія ўсялякія пабудовы і іншыя затраты».

Варта спыніцца на гісторыі капліц Беларусі, тым больш што тут культавыя адносіны мелі свае істотныя асаблівасці. Узнікненню і распаўсюджванню капліц (capelle) папярэднічала існаваўшая яшчэ ў паганскія часы традыцыя стварэння мемарыяльных помнікаў у выглядзе прыдарожных слупоў з выявамі паганскіх багоў. Яшчэ ў Рымскай імперыі існаваў звычай хаваць памерлых за межамі паселішчаў каля дарог. Традыцыя была перанята часткаю хрысціян. У той час як паганцы-рымляне пазначалі месцы пахавання помнікамі, хрысціяне ставілі на іх крыжы. Старажытныя магілы, раскіданыя ўздоўж дарог, выконвалі ролю пэўнага духоўнага павучання-напамінку пра тленнасць чалавечага быцця на зямлі.

Усходнія славяне, у якіх існаваў звычай трупаспалення, змяшчалі сасуд з прахам на спецыяльным слупе ля дарогі. Нестар казаў пра гэтую традыцыю як пра галоўны пахавальны звычай славян. Надмагільныя помнікі адыгрывалі важную ролю на этапе пераходу ад вандроўнага ладу жыцця да аселага. Магілы продкаў былі элементамі натуральнага права, вызначалі межы земляў племені, роду. Адсюль — вобраз чура (дзеда, прадзеда, прашчура), ахоўніка сядзібы, уладання, дома. Парушэнне вотчынных межаў лічылася і рэлігійным злачынствам, абразай гонару продкаў.

Усведамленне таго, што тут ляжаць продкі, стала асновай фарміравання такога імператыву сумлення, як патрыятызм. Слова «чур» стала заклінаннем (цур — дзяліць пароўну і цур — маўчаць і г. д.).

Калі ва ўсходніх славян старажытны звычай хутка трансфармаваўся ў хрысціянскую традыцыю ставіць крыжы ля дарог і скрыжаванняў, то на захадзе ажно да пачатку XX ст. засталося ўзгаданае на язычніцкіх традыцыях правіла ставіць фігуркі ўкрыжаванага Хрыста (укрыжаванне) у маленькіх капліцах на слупах, а то і на дрэвах. Часам у адной вёсцы на адным месцы магла стаяць капліčка з укрыжаваннем або выявай Маці Боскай, а на другім — драўляны балван паганскіх Яна, Зніча і г. д.

Разыходжанне ў разуменні ідэі малення ў праваслаўных і католікаў прыводзіла да таго, што ў першых капліца магла з поспехам замяняць царкву, збіраць грамаду людзей на маленне, а ў другіх яна была пераважна месцам самотнай малітвы без прэтэнзіі на функцыі храма. Такія мемарыяльна-рытуальныя капліčкі ў Беларусі ставіліся на скрыжаваннях, ля перавозаў, мастоў ці проста ў прысадах (заходнія рэгіёны).

Спынімся падрабязней на характарыстыцы тыпаў беларускіх капліц.

1. Найбольш простая драўляная слупавая капліца вышынёй каля 2,5—3,5 метра з невялічкім шатром пад чатырохсхільнай стрэшкай са шпілем. Пад стрэшкай на чатыры бакі — укрыжаваныя фігуркі. Дэталі (падкосы, карнізікі) аздоблены разьбянымі карункамі, укрыжаваныя фігуркі часам размалёўваліся (паліхромны роспіс). Такія капліцы ставіліся на скрыжаваннях, уездах у вёску (Завараты, Глыбоцкі раён), ля прысадаў (Малыя Ступяняты, Астравецкі раён), на касцёльных дварах (Свіранкі, Астравецкі раён).

2. Капліцы ў выглядзе ўкрыжавання пад стрэшкай з разьбяным аздабленнем. Іх размяшчалі на дрэве ля дарог і скрыжаванняў (Параф'янава, Докшыцкі раён). Такія капліцы мелі шырокае распаўсюджанне ў заходніх рэгіёнах Беларусі, Літвы, Латвіі, Польшчы.

3. Мураваная капліца ў выглядзе чатырохкутнай вежы да 3—3,5 метра пад чатырохсхільнай стрэшкай, часта з дахоўкі. У звернутай да вуліцы частцы — паўцыркульная ніша з арачным завяршэннем, у якой размяшчаецца ўкрыжаванне з паліхромнай апрацоўкай (Калодчына, Вілейскі раён і інш.). Часам замест нішы рабілася невялічкае памяшканне з зашклёным акном і аканіцамі. Падчас набажэнства аканіцы і акно адчыняюцца і перад укрыжаваннем ці невялікім алтаром ставіцца лампада, развешваюцца гірлянды кветак.

4. Мураваная ці драўляная капліца ў выглядзе паветкі, якая падтрымлівае чатырохсхільны дах, памерамі ў плане каля 2х2 метры. Пад паветкай — укрыжаванне ці слупавы алтар, часам акружаны ўслончыкам. Такія капліцы будаваліся ў цэнтрах вёсак, на местачковых плошчах ці скрыжаваннях вялікіх дарог.

5. Драўляная зрубавая капліца як вынік далейшага развіцця папярэдніх тыпаў капліц. Аснову яе складаў чацвярык пад чатырохсхільным дахам. З боку ўваходу майстраваўся невялікі ганачак з двухсхільнай стрэшкай на двух слупах. Гэта найбольш распаўсюджаны ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі тып могілкавай капліцы. На Палессі, у балоцістых мясцінах, такія капліцы ставіліся на палях, штандарах па кутах (Агароднікі, Слуцкі раён). Гэтыя капліцы даволі хутка развіваліся ў двухзрубавыя з прытворам і асноўным памяшканнем, дзе абразы ўтваралі невялікі іканастас. Яны адыгрывалі ролю могілкавых цэркваў (Іграева, Працавічы, Слуцкі раён).

6. Капліцы на фамільных могілках ці ля фамільных пахаванняў. Найбольш распаўсюджаныя маюць блізкі да квадрата план, двухсхільны дах.

7. Распаўсюджаныя ў заходніх рэгіёнах Беларусі капліцы, аналагічныя па архітэктуры адна- і двухвежавым касцёлам. Гэта па сутнасці паменшаныя копіі іх больш прадстаўнічых аналагаў. Па тыпу аднавежавага касцёла збудавана могілкавая капліца ў Верх-

нядзвінску (канец XIX ст.). Гэта двухзрубавае збудаванне складаецца з невялікага нефа-чацверыка і маленькай пяцікутнай апсіды. На вяршыні франтона — невялічкая чатырохкутная вежачка. Двухвежавыя капліцы адносяцца па часе пабудовы да пачатку XX ст. і ўяўляюць сабой з'явы архітэктуры мадэрна з адвольнай, эклектычнай трактоўкай рэнесансавых і гатычных .

8. Капліцы-ратонды. Як і ў дачыненні да касцёлаў-ратондаў, такая форма магла тлумачыцца і некаторымі старажытнымі формамі літургіі, што захаваліся менавіта ў кансерватыўных хатніх капліцах. Размяшчэнне алтара — у цэнтры літургічнага памяшкання, што ўзыходзіць да раннехрысціянскіх звычаяў, калі алтар грамадскага малення з'яўляўся надмагіллем святога-пакутніка і г. д. У такім выпадку круглая форма залы для малення была найбольш аптымальная. Цэнтрычнае размяшчэнне алтара забяспечвала і канцэнтрацыю на ім патокаў верхняга святла. Таму ў капліцах-ратондах часта робяцца канічныя скляпенні, завершаныя светлавым барабанам-ліхтарыкам (так званае перакрыццё «небам»).

Архітэктура асноўнага аб'ёму ўзыходзіць да шасці-, васьмікутных нефаў цэркваў крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі, што былі асабліва распаўсюджаны на Палессі. Найбольш выразным прыкладам можа быць капліца 1802 г. Міколы-Цудатворца ў вёсцы Каралёўцы Вілейскага раёна. Аб'ёмна-прасторавае вырашэнне капліцы выконвае прытвор-ганак на магутных слупах, на верхнім ярусе якога — маленькае памяшканне хораў; васьмікутны неф завершаны конусам і адкрытага да светлавога барабана скляпення (перакрыцце «небам») і невялікай пяцікутнай апсіды. Узведзеная ў пачатку XIX ст. капліца, безумоўна, была выканана на шматлікіх аналагах папярэдняга XVIII ст.

Развіццё форм ратонды ў драўляным сакральным дойлідстве сведчыць пра імкненне вырашыць і некаторыя эстэтычныя задачы. Гэта таксама спробы знайсці эмацыянальнае вырашэнне, стварыць архітэктурны вобраз, які адпавядаў бы ідэалам эпохі. Складаныя формы планаў, шатровыя перакрыцці, пластычныя аб'ёмы дахаў і купалаў сведчаць пра імкненне вырашаць у вобразах капліц стылёвыя праблемы барока і ракако.

Менавіта ў такім кантэксце можна разглядаць архітэктуру некаторых невялікіх сакральных пабудоў, «у трохкутнік стаўленых». Трохкутная, рацыянальная па канструкцыях форма прысутнічала толькі звонку, бо ўсярэдзіне неф за кошт дадатковых сцен насупраць вяршынь вуглоў меў форму правільнага шасцікутніка. У цэнтры нефа размяшчаўся трохкутны алтар. Кутнія памяшканні выкарыстоўваліся як сакрысціі і месца пад'ёму на хоры. У XVIII ст. такая царкоўная пабудова была ўзведзена ў вёсцы Вялікае Своратава Баранавіцкага раёна. Шасцікутную прастору нефа завяршыла шатровае скляпенне з купалком на барабане. Акрамя таго, ку-

палкі былі і над кутамі. Хоры ішлі ўздоўж нефа, паўтараючы форму яго плана.

У драўляным сакральным дойлідстве Беларусі важную ролю ў фарміраванні эмацыянальнага і эстэтычнага ўздзеяння і ўспрыняцця меў колер. Звычайна ў такіх выпадках гутарка ідзе пра інтэр'ер. Столь афарбоўвалася ў светлыя колеры — блакітныя, светла-ружовыя, сіняватыя. Сцены — у тыя ж таны, але з большай яркасцю і насычанасцю колераў. У палескім рэгіёне пазы паміж бярвеннямі часам тынкаваліся глінай і забельваліся. У некаторых выпадках ва уніяцкіх цэрквах сцены абцягваліся саматканым палатном, якое грунтавалася і забельвалася вапнай (Логнавічы, Клецкі раён). Фарбаваліся ліштвы вокнаў і дзвярэй, парэнчы і балясіны хораў, часам і падлога. У некаторых невялікіх цэрквах і капліцах падлога рабілася з камянёў (брукоўка) ці цэглы. Аднак такую ж важную ролю мела і афарбоўка храма звонку. Паводле інвентароў, а таксама каляровых замалёвак пачатку — сярэдзіны XIX ст. Я.Дамеля, І.Трутнева, Д. Струкава, царкоўныя, касцёльныя дахі і дахі мячэцяў фарбаваліся ў чырвоны колер, нават калі былі пакрыты дранкай. Фарбаваліся карнізы і пілястры, паверхні сцен у охрыстыя, блакітныя, зялёныя таны фарбай, што здабывалася з балотнай руды, прыроднай охры, жалезнага купарвасу. Афарбоўка сакральных збудаванняў Беларусі ў пэўнай ступені звязана з паліхромнай скульптурай і сакральным жывапісам.

У аздабленні інтэр'ераў капліцы колер арганічна спалучаўся з элементамі народных мастацкіх рамёстваў, немалое значэнне мелі тут абразы іківоты, ручнікі і паясы, тканыя з лёну, з рознакаляровымі ўзорамі, а таксама пляценне з саломкі, гірлянды кветак з паперы і кветкі жывыя, вырабы кавальскага мастацтва (панікадзіла, лампады). Усё гэта рабіла інтэр'ер капліцы блізкім да хатняга «чырвонага кута», выхоўвала павагу да культуры, мастацтва продкаў, народных майстроў і іх шанаванне. Этнаграфічныя праявы ў аздобе капліц — адна з найбольш важных іх параўнаўчых прыкмет.

## ЗВАНІЦЫ

Царкоўны звон, званарства, як сведчыць хрысціянская традыцыя, бярэ пачатак ад легенды, паводле якой металічныя званы былі ўключаны ў сакральны рытуал наальскім епіскапам Паўлінам (353–431 гг.). Форма іх нібыта была падказана палявымі кветкамі-званочкамі.

У сярэднявечных хроніках паведамляецца, што ў XII ст. званы былі пры цэрквах Рыма і Арлеана. З'яўленне званоў у хрысціянскай літургіі, мабыць, звязана з некаторымі бытавымі традыцыямі народаў усходняга Міжземнамор'я. У старажытных

егіпцян, яўрэяў рымляне запазычылі звычай пры дапамозе званочкаў падтрымліваць парадак на грамадскіх зборах, склікаць прыслугу і рабоў.

На зары хрысціянства заклікі да набажэнства рабіліся вусна, праз асоб ніжэйшай кліравай іерархіі — лаасінактаў (народазбіральнікаў). Пазней у манастырах склікалі на набажэнства ў храм воклічамі-агалашэннем ля дзвярэй келій (алілуя). Потым ва ўжытак у прыходскіх і манастырскіх цэрквах увайшлі білы, ці кляпалы (металічныя балванкі). Канстанцін Вялікі, акрамя таго, дазволіў ужываць у царкоўным рытуале і музычныя інструменты (трубы). Лічыцца, што распаўсюджванне званоў у цэрквах Еўропы бярэ пачатак у часы Карла Вялікага (VII ст.). Адліваліся яны са сплаву медзі і волава, пазней пачалі дабаўляць жалеза і серабро. Рымскі папа Іаан XIV увёў звычай хрышчэння званоў. Звону прысвойвалі імя якога-небудзь святога. Лічылі, што званы валодалі сілаю, якая выганяла д'яблаў і ратавала ад хвароб.

Ва Усходняй Еўропе званы ўпершыню з'яўляюцца ў сярэдзіне IX ст. Па просьбе візантыйскага імператара Васіля Македанянiна (867–886 гг.) венецыянскі дож Орса прывёз у Канстанцінопаль для новазбудаванай царквы дванаццаць званоў. Аднак гэтае нованўвядзенне не адразу замацавалася. У Візантыі па-ранейшаму шырока карысталіся біламі. Канчаткова званы замацаваліся тут толькі пасля ўзяцця Канстанцінопаля крыжакамі (1209 г.).

Першае летапіснае паведамленне пра з'яўленне званоў ва ўсходніх славян датуецца 988 годам, г.зн. годам хрышчэння Русі. На самым пачатку XI ст. званы з'яўляюцца ў Ноўгарадзе. Да нашэсця манголаў яны былі ў Ірынінскай і Дзесяціннай цэрквах у Кіеве, з 1107 г. — ва Уладзіміры і Ноўгарадзе-Северскім, у Полацку. Першапачаткова званы на Русі, як і на Захадзе, былі невялікія.

Першыя званы завозіліся ў старажытнарускія землі з-за мяжы. У Кіеве іх пачалі адліваць толькі ў XIII ст. Аднак ва ўсходнеславянскіх землях мастацтва званарства на пэўны час было спынена татара-мангольскім нашэсцем і зноў з'явіліся прывазныя званы. Але ўжо ў XVI–XVIII стст. у Беларусі званарскае рамяство распаўсюдзілася, пра што сведчаць помнікі, у прыватнасці вядомы звон з царквы ў вёсцы Моладава, адліты ў XVII ст. у Коўне майстрам Марцінам Гофманам. У мясцовыя майстэрні запрашаліся і замежныя майстры.

Так ці інакш, выкарыстанне званоў вымагала ўстройства спецыяльных канструкцый — званіц. Першыя званіцы з'явіліся пры базіліках святога Іаана Патэранскага і святога Пятра ў Рыме. Адны з найбольш старажытных — званіцы ў Вероне і Равене. Гэта былі круглыя ў плане вежы, якія стаялі асобна ад будынкаў. Формы і канструкцыі іх былі запазычаны ад абарончых збудаванняў. Вежы-званіцы шырока распаўсюджваюцца ў раманскай Еўропе. Дарэчы,

хуткі рост званіц у XI ст. тлумачыцца і тым, што яны адначасова адыгрывалі ролю дазорных вежаў, з якіх шляхам гукавога сігналу насельніцтва апавяшчалася пра небяспеку.

У часы Кіеўскай Русі званоў пры цэрквах было няшмат і спецыяльныя званіцы хутчэй за ўсё не будаваліся. Першыя летапісныя паведамленні пра званіцы адносяцца да XIV ст. У дамангольскі перыяд цэрквы былі пераважна драўляныя, і званіцы пры іх уяўлялі сабою звычайныя козлы. Пазней пры буйных мураваных цэрквах драўляныя слупы званіц змяніліся на мураваныя, колькасць слупоў павялічвалася, над імі з'явілася стрэшка. Так паступова сфарміраваўся тып паўночна-рускай званіцы — мурававай вежы з арачнымі праёмамі для званоў у адзін ці два ярусы. Першапачаткова кожны арачны праём завяршаўся сваім дахам, пазней з'явіўся агульны двухсхільны дах з вежкай пасярэдзіне. Такія званіцы ладзіліся на царкоўных сценах, над варотамі ці сталі ў выглядзе асобных пабудоў (Пскоў, Ноўгарад, Растоў, Яраслаўль, Кастрама, Цвер, Смаленск).

Іканаграфічныя матэрыялы сведчаць, што ўжо ў XVI ст. нароўні з мураванымі званіцамі былі вядомы і драўляныя ў выглядзе шасці-, васьмікутных вежаў. У Расіі найбольшае распаўсюджванне яны атрымалі ў XI—XVI стст. Шматгранныя і шмат'ярусныя званіцы завяршаліся шатрамі з цыбулепадобнымі купалкамі. Генезіс іх форм бярэ пачатак у традыцыях драўлянага абарончага дойлідства. Асаблівасцю архітэктуры званіц у дапятроўскай Русі было тое, што яны не мелі канструкцыйна-планіровачнага адзінства з царкоўнымі збудаваннямі, што, наадварот, было ўласціва для званіц раманскай і гатычнай Еўропы. Як правіла, яны ўзводзіліся асобна, і толькі зрэдку «прыхіналіся» да аднаго з бакоў храма. Званіцы, аб'ёмна-планіровачна звязаныя з кампазіцыяй храма, у Расіі з'яўляюцца ў канцы XVII—XVIII ст.

На Русі званы мацаваліся да нясучых бэлек наглуха, гук выклікаўся з дапамогаю «языка», «целяпня». Гэта давала магчымасць адліваць званы значных памераў і вагі. У каталіцкіх, пратэстанцкіх храмах званы падвешваліся свабодна і прыводзіліся ў рух пры дапамозе спецыяльнага рычага.

Як і ў іншых краінах Еўропы, у Беларусі званы першапачаткова выкарыстоўваліся з сігнальна-апавяшчальнымі мэтамі. На вежах замчышчаў і гарадзішчаў абсталёўваліся ў верхніх ярусах (на вяршыні шатра) дазорныя пляцоўкі, якія з дапамогай званоў дазвалялі падаваць гукавы сігнал жыхарам навакольных селішчаў і пасадаў. На вядомым «Чарцяжы» горада Віцебска 1664 г. побач са шматлікімі драўлянымі вежамі паказана і званіца Андрэеўскага манастыра, квадратная ў плане, двух'ярусная, з шатровым дахам. Менавіта такога тыпу званіцы мелі шырокае распаўсюджванне ў драўляным культавым дойлідстве Беларусі пачынаючы з XV—



*Інтэр'ер Свята-Пакроўскай царквы ў в. Акцябр Кобрынскага раёна*

*Інтэр'ер Свята-Мікалаеўскай царквы ў в. Дудзічы Чачэрскага раёна*

6. Зак. 2052



*Інтэр'ер Свята-Троіцкай царквы ў в. Лявонпаль Міёрскага раёна*



*Інтэр'ер царквы. Фота пачатку XX ст.*

6*. Зак. 2052.



*Іканастас. Смаляны, Аршанскі раён*



*Царква Раства Багародзіцы. Рухча, Столінскі раён*



*Свята-Пакроўская царква. Вялікія Чучавічы, Лунінецкі раён*



*Свята-Ільінская царква. Велямічы, Столінскі раён*



*Царква. Чырвоны Партызан, Добрушскі раён*



*Свята-Міхайлаўская царква. Чэрск, Брэсцкі раён*



*Свята-Мікалаеўская царква. Кажан-гарадок*



*Свята-Георгіеўская царква. Валавель, Драгічынскі раён*



*Спаса-Праабражэнская царква. Смаляны, Аршанскі раён*



*Свята-Міхайлаўская царква. Слуцк*



*Царскія вароты, Смаляны, Аршанскі раён*

7. Зак. 2052.



*Царскія вароты. Смаляны, Аршанскі раён*



*Касцёл Прасвятой Тройцы. Рось, Ваўкавыскі раён. Фота Я.Балзункевіча*

*Касцёл Святога Антонія Падуанскага. Каменка, Шчучынскі раён.*
*Фота Я.Балзункевіча*





*Касцёл Святога Станіслава. Лядск, Шчучынскі раён.*
*Фота Я.Балзункевіча*

*Касцёл Святога Міхаіла Архангела XVIII ст. Багданава,*
*Валожынскі раён. Фота пачатку XX ст.*





*Касцёл у Жухавічах, Карэліцкі раён. Фота пачатку XX ст.*

*Касцёл у Старым Лебедзі Навагрудскага павета. Фота Я.Балзункевіча*





*Касцёл. Стаўжынскі, Лепельскі раён. Фота 1928 г.*

*Касцёл Святой Барбары XIX ст. Сялявічы, Слонімскі раён*





*Касцёл Святога Іаана Хрысціцеля у Мсцібаве Ваўкавыскага павета.*
*Фота Я.Балзункевіча*

*Касцёл у Начы Лідскага павета. Фота Я.Балзункевіча*





*Касцёл XVIII ст. Лоздунь, Ашмянскі павет. Фота Я.Балзункевіча*



*Касцёл Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі XVIII ст. Гудагай, Астравецкі раён*

8. Зак. 2052.



*Касцёл у Дубраве Сакольскага павета. Фота Я.Балзункевіча*



*Касцёл Святога Францыска Азіскага і Прасвятой Тройцы ў мястэчку Свіслач, Гродзенская вобласць.*
*З малюнка Н.Орды*



*Касцёл Праабражэння Гасподняга. Новая Мыш, Баранавіцкі раён. Фота Я. Балзункевіча*



*Касцёл Раства Найсвяцейшай Дзевы Марыі 1900 г. Кемелішкі, Астравецкі раён*



*Касцёл. Фота Я.Балзункевіча*



*Касцёл у Латыголі Віленскага павета. Фота Я.Балзункевіча*

*Касцёл у Кемелішках. Від збоку апсіды*



*Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі XVIII ст. Хоўхлава, Маладзечанскі раён*

*Касцёл у Хоўхлава. Від збоку апсіды*





*Касцёл у Старым Мядзелі. Фота Я.Балзункевіча*

*Касцёл у Залужжы Навагрудскага павета. Фота Я.Балзункевіча*





*Касцёл Раства Найсвяцейшай Дзевы Марыі XVIII ст.*
*Дуды, Іўеўскі раён*



*Касцёл Хрыста*
*XX ст. Лявонпаль,*
*Міёрскі раён.*
*Фота пачатку*
*XX ст.*



*Касцёл у вёсцы Барань Барысаўскага павета. Фота Я.Балзункевіча*



*Касцёл 1818 г. Вілейка, Докшыцкі раён. Фота Я.Балзункевіча*



*Касцёл. Казімірава, Асіповіцкі раён. Малюнак, 1928 г.*

*Царква (былы касцёл) XVIII ст. Хацiслаў, Маларыцкі раён*





*Царква (былы касцёл) XVIII ст. Дзівін, Кобрынскі раён*

*Касцёл Святой Ганны ў Койданава (Дзяржынск). Фота Я.Балзункевіча*





*Касцёл Маці Божай Ружанцовай у Солах Ашмянскага павета. Фота А.Балзункевіча*



*Касцёл у Лебедзеве Віленскага павета. Фота Я.Балзункевіча*



*Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў Канвелішках Ашмянскага павета. Фота Я.Балзункевіча*

*Касцёл у Забжэзь Ашмянскага павета. Фота Я.Балзункевіча*

*Касцёл Святога Юрыя 1751 г. Паланечка, Баранавіцкі раён*

*Касцёл Прасвятой Тройцы ў Войстаме Смаргонскага раёна.*
*Фота Я.Балзункевіча*





*Касцёл у Новых Троках. Фота Я.Базулкевіча*

*Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў Камене Мінскага павета. Фота Я.Базулкевіча*





*Касцёл у Дрысвятах, 1929 г.*



*Касцёл у мястэчку Дворац Слонімскага павета. Фота Я.Балзункевіча*

*Царква ў вёсцы Рэчкі Вілейскага павета. Фота Я.Балзункевіча*





*Касцёл 1936 г. Дойлідкі, Смаргонскі раён*



*Касцёл Святога Юзафа, 1936 г. Руда Яварская, Дзятлаўскі раён*



*Касцёл 1935 г. Лінова, Пружанскі раён*



*Дэкаратыўнае аздабленне касцёла Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Гудагаі Астравецкага раёна*

XVII стст. Аднак працягвалі існаваць, асабліва ў вясковых прыходах і прыпісных цэрквах, і прымітыўныя, старажытныя білы. Металічную балванку мацавалі на слупе ці перакладзіне каля ўваходу ў царкву. Выкарыстанне біла на Палессі адзначалася ў XIX—пачатку XX ст. Традыцыйнасць такога званарства пацвярджаецца і выкарыстаннем білаў сёння ў тых цэрквах, дзе на званы яшчэ не паспелі разжыцца. Прымітыўная канструкцыя біла стала пачаткам прасцейшых слупавых званіц: два-чатыры слупы злучаліся бэлькамі і накрываліся двухсхільнай стрэшкай з крыжыкам. Вядомы былі і прасцейшыя варыянты ў выглядзе слупа з разгалінаваннем і маленькай стрэшкай (Лыкава, Карэліцкі раён). Канструкцыя з чатырох слупоў, злучаных зверху абвязкай, можа ўжо разглядацца як пераходная ад адкрытых да закрытых слупавых званіц. У апошніх сцены ўтвараліся з дашчатай абшыўкі. Нясучую ролю выконваў каркас з брусоў.

Былі і іншыя шляхі развіцця архітэктуры званіц. Форма паасобных з іх запазычана ў храмаў абарончага тыпу (Сынкавічы, Мураванка, Супрасль, Камаі). Пазней, і мы ўжо гаварылі пра гэта, вежы-званіцы становяцца неад'емнай часткаю рэнесансавых і барочных касцёлаў (Слонім, Дзятлава, Беразвечча, Глыбокае, Лужкі і інш.), у тым ліку і драўляных (Дуды, Кемелішкі, Клюшчані, Свіранкі, Валавель і г.д.). Аналагічныя званіцы-вежы былі і ў аднавежавых каталіцкіх і рэфарматарскіх храмах (Кобрын, Селявічы, Завароты).

Генетычна з архітэктуры культавых пабудоў «выраслі» званіцы над верхнімі ярусамі прытворнай часткі царквы. Такія званіцы ці непасрэдна прыбудоўваліся да заходняй сцяны нефа (Свята-Прачысценская царква ў Дарапеевічах Маларыцкага раёна, 1781 г.; Свята-Георгіеўская ў Альбе Іванаўскага раёна, 1780 г. і інш.), ці злучаліся з нефам вузкім праходам (Свята-Міхайлаўская царква XVIII — пачатку XX ст. у Рамелі Столінскага раёна, Ільінская царква 1794 г. у Гомелі і інш.). Аднак неабходна адзначыць, што ў многіх драўляных цэрквах і касцёлах вежы-званіцы хутка страцілі функцыянальнае прызначэнне. Побач на царкоўных дварах пачалі для большай зручнасці ставіцца асобныя, двух-, трох'ярусныя драўляныя званіцы (Дуды, Кемелішкі, Лявонпаль, Геранёны і г. д.).

Асобную групу ўтвараюць званіцы, што развіліся з надбрамных вежаў драўляных абарончых збудаванняў. На вядомым малюнку Зыгмунда Глогера такая званіца XVIII ст. у Клецку. У драўлянай культавай архітэктуры Беларусі гэтыя званіцы ўдала сумяшчалі функцыі брамы (Свята-Георгіеўская царква XVII—пачатку XVIII ст. у Сінкевічах Лунінецкага раёна, царква Раства Багародзіцы XVII ст. у Ляскавічах Іванаўскага раёна і г. д.). У якасці прыкладу назавем і званіцу Свята-Міхайлаўскай царквы XVIII ст. у вёсцы Чэрск Брэсцкага раёна. Кансольна звіслы верхні

9. Зак. 2052.

ярус тут нагадвае вядомыя ў драўляным абарончым дойлідстве абламы і падобныя да іх канструкцыі. Брамы-званіцы будаваліся і пры ўездах на могілкі, яны былі аздобаю многіх могілкавых агароджаў (вёскі Сосенка Вілейскага, Шчыткавічы Старадарожскага раёнаў і інш.).

Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што як асобныя збудаванні званіцы ў Беларусі існавалі пераважна ў драўляным дойлідстве. Мураваныя і драўляна-мураваныя званіцы, прынамсі ў XVIII—пачатку XX ст., сустракаліся ў адзінкавых выпадках, у той час як на Украіне і ў Расіі будаўніцтва мураваных званіц (звонных сценак) існавала як асобная галіна сакральнага мураванага дойлідства. Драўляныя званіцы Беларусі можна сістэматызаваць у наступнай тыпалагічнай паслядоўнасці:

1. Біла. Найбольш старажытнае прыстасаванне царкоўнага званарства, якое і цяпер выкарыстоўваецца пры адсутнасці званоў.

2. Слупавыя званіцы. Самая простая выяўлена ў вёсцы Лыкава Карэліцкага раёна на могілках: маленькі звон замацаваны ў разгалінаванні і накрыты шатровай стрэшкай. Шырокае распаўсюджванне мелі званіцы з двух слупоў з перакладзінаю і двухсхільнай стрэшкай. Прыкладам можа быць званіца з вёскі Любна Пінскага раёна (XIX ст.). У ёй пад двухсхільнай стрэшкай замацаваны тры невялікія званы. На пэўнай вышыні — подыум з дошак. Крыху больш складанай выглядае такая ж канструкцыя, але ўжо з чатырох слупоў з абвязачнымі бэлькамі і крыжавінай для мацавання званоў (Свята-Юр'еўская царква ў Крыжовічах Слуцкага павета, паводле малюнка Д. Струкава другой паловы XIX ст.). Далейшае развіццё такога тыпу — завяршэнне слупавых апор шатром (шатровым дахам). Такія званіцы, простыя і трывалыя, былі пры многіх цэрквах і касцёлах (Руда Яварская і г. д.). Пры царкве святой Ганны ў вёсцы Крысава Слуцкага павета (паводле малюнка Д. Струкава другой паловы XIX ст.) — званіца з чатырох слупоў пад высокім шатровым дахам. Прапорцыі прыкметна выцягнуты па вертыкалі. На малюнку Д. Струкава драўлянай царквы ў Прылуках званіца аналагічнай будовы мае больш прысадзісты выгляд. Такія званіцы маглі мець у ніжняй частцы подыум (Рашкоўка, Камянецкі раён, XIX ст.). Званіцы на чатырох слупах былі і двух' ярусныя, г.зн. пры значнай вышыні мелі дадатковую абвязку пасярэдзіне. Для павелічэння надзейнасці ў кутах рабіліся падкосы (Крыжычы, Лідскі павет, па матэрыялах ЦДГА Літвы).

3. Лагічным завяршэннем развіцця архітэктуры слупавых званіц стала бакавая дашчаная абіўка. У верхняй частцы, дзе падвешваліся званы, пакідаліся адкрытыя праёмы (Касарычы Слуцкага павета, паводле малюнка Д. Струкава другой паловы XIX ст.). Так сфарміраваліся званіцы каркаснага тыпу. Па габарытах у плане і высотным рашэнні яны амаль аналагічныя зрубавым. У гэтым

выпадку ў канструкцыі, акрамя вертыкальных стоек і гарызантальнай абвязкі, з'яўляюцца дыяганальныя сувязі (Дуды Іўеўскага раёна, XVIII ст.; Трокелі Воранаўскага раёна, XVIII ст.).

4. Зрубавыя званіцы, як правіла, двух- і трох'ярусныя. Асновай часцей за ўсё служыць зруб-чацвярык, з шатровай паветкай-стрэшкай. З яго вырастае абаперты на сістэму бэлек каркас верхняга, адкрытага яруса, які пераходзіць у шатровы дах, часта завершаны купалком (Шарашова, Пружанскі раён, 1799 г.). У некаторых трох-, чатырох'ярусных званіцах верхнія ярусы маглі быць зрубавымі. У іх выразаны праёмы, якія зачыняюцца аканіцамі (Слуцк, XVIII ст.; Давыд-Гарадок, XVII ст.; Моладава, Гомель, пачатак XX ст.).

5. Званіцы-брамы. Вядомы каркасныя (слупавыя), зрубавыя, зрубна-мураваныя. Ставіліся на восі ўваходу ў царкву (касцёл). Прыкладам каркаснай (слупавой) можа быць званіца-брама пачатку XX ст. на могілках у вёсцы Сосенка Вілейскага раёна. Ніжні ярус з'яўляецца скразным праходам і мае штыкетнага тыпу веснічку. Узор зрубавай брамы-званіцы — званіца царквы XVII ст.(?) з вёскі Міколкі Уздзенскага раёна: званіца-чацвярык нібы вырастае з зрубавага (закотнага) франтона. Часцей зрубавым рабілася толькі аснова купалка, далей ішоў каркасна-слупавы верх і шацёр.

6. Званіцы-прыбудовы. Узводзіліся на ўваходзе, звычайна — трох-, чатырох'ярусныя, са стромкім шатровым дахам і макаўкаю (царква Раства Багародзіцы ў вёсцы Дубянцы Столінскага раёна і інш.). У XIX—пачатку XX ст. такія званіцы дабудоўваліся да многіх уніяцкіх цэркваў і перабудаваных касцёлаў.

7. Званіцы двухвежавых касцёлаў. Пра генезіс іх развіцця было сказана вышэй. Адным з яскравых і шматлікіх прыкладаў з'яўляецца Свята-Георгіеўская царква (былы касцёл) у вёсцы Валавель Драгічынскага раёна (1766 г.), а таксама касцёлы ў Дудах, Кемелішках, Клюшчанях, Лявонпалі і г. д.

Сярод помнікаў сакральнай архітэктуры Беларусі званіцы вылучаюцца перш за ўсё тым, што яны ў параўнанні з іншымі тыпамі збудаванняў паходзяць ці не з самых старажытных крыніц. Яны данеслі (замацавалі) многія рысы абарончай архітэктуры і форм шэрагу папярэдніх культурна-гістарычных эпох (готыкі, рэнесансу, барока). Іх развіццё стала адлюстраваннем разнастайных ідэйных напрамкаў архітэктуры заходніх і ўсходніх арэалаў Еўропы, узаемадзеяння драўлянага і мураванага дойлідства.

# МЯЧЭЦІ

Першыя мячэці ў Вялікім княстве Літоўскім з'явіліся ў месцах аседласці татар неўзабаве пасля таго, як яны былі перавезены Вітаўтам з Залатой Арды. Пры Вітаўце ўжо існавалі мячэці ў Сарака Татарах, Лукішках і Некрашунцах. Мячэці ў Сарака Татарах, Лукішках, а таксама Лоўчыцах і Троках упамінаюцца ў напісаным невядомым аўтарам у 1558 г. трактаце пра татар Беларусі. Пра мячэць у Троках ведаў і польскі храніст Марцін Крамер, які пісаў аб ёй у 1578 г. Мячэць у Лукішках вядома з 1584 г. Нарэшце, турэцкі гісторык Ібрагім Печэві (памёр у 1640 г.) паведамляе, што ў царстве польска-літоўскім у першай трэці XVII ст. было 60 мячэцяў. Польскі даследчык Рычард Брукоўскі на падставе аналізу розных крыніц мяркуе, што ў ВКЛ было 17 мячэцяў і 6 — у Польшчы.

Дазвол на будаўніцтва выдаваўся вялікім князем па ўзгадненню з каталіцкім біскупам мясцовай дэцыі. Напрыклад, віленскі біскуп дазваляў татарам будаваць мячэці толькі драўляныя, «убогія, невялікія». Турэцкі султан Мурад III у пісьме да польскага караля Зыгмунда III у 1592 г. прасіў не перашкаджаць «...у справе свабоднага будаўніцтва мячэцяў у калоніях татарскіх на Літве».

У абставінах рэлігійных канфліктаў, якія то тут, то там успыхвалі ў Польшчы і Княстве, культавыя пабудовы «басурманаў» і іншых «няверных» часам падвяргаліся разгрому і знішчэнню. 2 ліпеня 1609 г. натоўп у час каталіцкага свята ў Троках разбурыў мясцовую мячэць. Віленскі біскуп Бенядзікт Война (1600—1619 гг.) не дазваляў татарам ні будаваць, ні рамантаваць мячэці. Аналагічнае становішча было і ў аддаленых ад сталіц мясцінах. Так, галіцкі сеймік двойчы, у 1666 і 1667 гг., прымаў пастановы, якія забаранялі татарам пад пагрозай канфіскацыі маёмасці будаваць мячэці ў сваіх маёнтках. У 1673 г. паўстаўшыя татары вымусілі гетмана Сапегу заключыць пагадненне, якое дазваляла мусульманскае веравызнанне і будаўніцтва мячэцяў. Аднак на заканадаўчым узроўні перашкоды былі ліквідаваны толькі ў 1768 г. Прынятая тады канстытуцыя дазваляла татарам рамантаваць старыя мячэці, а канстытуцыя 1775 г. — будаваць мячэці як ва ўласных уладаннях, так і ў каралеўскіх.

Да 1795 г. на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага існавала 23 мячэці. Акрамя іх было яшчэ 65 татарскіх малітоўных дамоў. Найбольшая колькасць мячэцяў прыпадала на Трокскі павет. Пад канец XVII ст. татары жылі ўжо досыць кампактнай групай, межы якой пазначалі гарады Вільня, Навагрудак, Мінск, Полацк. Значныя татарскія асады склаліся ў наваколлі гарадоў Гродна, Беласток, Варшава. А вось у паўднёвых землях Вялікага княства было ўсяго толькі некалькі мячэцяў, напрыклад, на Валыні — у Астрозе (1565—1569 гг., існавала да канца XVIII ст.), у Юркавічах, у маён-

тку Астрожскіх (закладзена ў 1681 г., існавала да другой паловы XIX ст.), на Падоллі — у Неміровічах (XVII—XVIII стст.).

Пасля далучэння земляў Беларусі да Расійскай імперыі справа з будаўніцтвам і рамонтам мячэцяў прыходзіць у заняпад. Дзейнічаючы указ ад 23 жніўня 1756 г. дазваляў адкрываць магаметанскія прыходы толькі там, дзе колькасць мусульман-мужчын дасягала двухсот чалавек. Указам ад 2 жніўня 1870 г. забаранялася будаўніцтва мячэцяў без папярэдняга падліку вернікаў.

Дэпартамент дзяржаўнай гаспадаркі і публічных будынкаў Міністэрства ўнутраных спраў у 1829 г. выдаў прадпісанне «Аб правілах будаўніцтва татарскіх мячэцяў». Яно абавязвала «...магаметан будаваць мячэці згодна планаў і фасадаў ад урада дадзеных... для пабудовы мячэцяў заўсёды лепей прызначаць месцы на плошчах».

Напярэдадні другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі, Польшчы і Літвы працавалі 17 мячэцяў і 2 малітоўныя дамы. Вось іх адрасы, паводле тагачаснай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай прыналежнасці:

Бажанкі, Сакольскі павет — прыход з 1795 г., мячэць узведзена на пачатку XX ст.;

Даўбуцішкі, Маладзечанскі павет — прыход з 1588 г., мячэць пабудавана ў XVIII ст.;

Клецк, Нясвіжскі павет — мячэць 1881 г., прыход заснаваны ў 1886 г. Пляц пад мячэць ахвяраваў фундатар (вакуф) Якуб Якубоўскі ў 1880 г. Дрэва для будаўніцтва даравалі князі Радзівілы. Мячэць рамантавалася ў 1911, 1930—1931 гг.;

Крышыняны, Гродзенскі павет — прыход заснаваны ў 1679 г, фундатары — Кржычоўскія. Мячэць старой пабудовы;

Ляхавічы, Баранавіцкі павет — мячэць пабудавана ў 1815 г., разбурана ў 1917 г., у 1924—1928 гг. узноўлена на ахвяраванні «савета фундушавага»: татар, якія эмігрыравалі ў Амерыку, віленская муфція, егіпецкага караля;

Лоўчыцы, Навагрудскі павет — прыход заснаваны каля 1420 г., мячэць з 1588 г. Існуючая мячэць закладзена прыкладна ў 1688 г.;

Мядзель, Пастаўскі павет — мячэць пабудавана ў 1840 г., спалена ў гады грамадзянскай вайны, адбудавана зноў у 1930 г.;

Мір, Стаўбцоўскі павет — мячэць пабудавана да 1795 г. Адбудавана зноў у 1840 г. Рамантавалася ў 1925 і 1928 гг.;

С. Крычынскі паведамляе, што да пабудовы мячэці ў Мураўшчызна каля Іўя татары маліліся па стадолах (гумнах). Мячэць узведзена ў 1884 г. з фундацыі Эльвіры Аўгустаўны Замойскай, уладальніцы мястэчка Іўе. На грошы татар-эмігрантаў, якія прыслалі ў 1922 г. з ЗША 500 долараў, былі дабудаваны мінарэт і галерэя;

Некрашунцы, Лідскі павет — прыход заснаваны, згодна з паданнем, у 1415 г. У верасні 1915 г. мячэць была спалена. Адбудавана ў 1926 г.;

Немец, Віленска-Трокскі павет — прыход з 1684 г., мячэць пабудавана ў 1909 г., пасля таго як згарэла папярэдняя.;

Навагрудак — Станіславам Аўгустам Панятоўскім у 1792 г. быў выдадзены прывілей на будаўніцтва мячэці. Яна была пабудавана праз чатыры гады, у 1796 г. Зноў адбудавана на сродкі адстаўнога маёра Аляксандра Асановіча ў 1855 г.;

Асмолава, Навагрудскі павет — прыход з 1834 г., згодна з метрыкай, мячэць пабудавана ў 1924—1925 гг.

Слонім — мячэць пабудавана ў 1804 г. з адным мінарэтам і купалам, 25 мая 1881 г. згарэла, праз год адбудавана з дрэва, ахвяраванага Францыскам Пуславіцкім з Альберціна;

Сорак Татар, Віленска-Трокскі павет — прыход з 1558 г., мячэць пабудавана ў 1815 г.;

Відзы, Браслаўскі павет — прыход з 1819 г. Мячэць пабудавана ў 1860—1865 гг. на землях, што адышлі да мястэчак. У гады грамадзянскай вайны была спалена і адбудавана зноў у 1930—1932 гг.;

Вільня — прыход у Лукішках заснаваны да 1558 г., мячэць пабудавана ў другой палове XVII ст. Рамантавалася ў 1897, 1917 і 1936 гг.

Акрамя гэтых мячэцяў былі яшчэ мусульманскія малітоўныя дамы ў Дзісенскім павеце, у Докшыцах (1925—1926 гг. пабудовы, прыход створаны пасля грамадзянскай вайны), у Глыбокім (1930 г. пабудовы, на зямлі, ахвяраванай Аляксандрам Канапацкім, і на сродкі прыхаджан, што адносіліся да Докшыцкага прыхода). Існавалі мячэці і ва Усходняй Беларусі (XIX — пачатку XX ст. пабудовы): у Смілавічах, Уздзе, Капылі, Мінску. Вядома карта, складзеная ў 1933 г. Алі Смяйковічам, на якой паказана размяшчэнне татарскіх асяродкаў на землях Польшчы, Літвы і Беларусі. На ёй пазначаны 20 мячэцяў, з якіх ілюстраваны малюнкамі 19. На сённяшні дзень захаваліся чатыры мячэці: у Доўбучках Смаргонскага раёна (перавезена ў Беларускі музей народнай архітэктуры і побыту), у Іўі, Навагрудку і ў вёсцы Лоўчыцы Навагрудскага раёна.

Аўтар трактата аб татарах Беларусі ў канцы XVI ст. так характарызаваў мясцовыя мячэці: «...убогія і нізкія мячэці пабудаваны з дрэва без мінарэтаў (вежаў) і імарэтаў (прытулкаў)... Для жанчын у некаторых тутэйшых мячэцях ёсць асобнае месца ўсярэдзіне, адгароджанае ад мужчынскага, у якое яны не маюць права заходзіць...»

Раннія мячэці Беларусі і Літвы, мабыць, сапраўды не мелі мінарэтаў, і заклік да набажэнства (азан) муэдзін абвяшчаў з ганка ці проста хадзіў па вуліцах і склікаў вяскоўцаў. Выкарыстоўваўся і звон. Мячэць у Лукішках каля Вільні ўяўляла сабой «...моцны

квадратны зруб з калонай падсенню, накрыты стромкаю страхою са сціплым мінарэтам пасярэдзіне. Такая мячэць, квадратная, са стромкай страхой і маленькай вежачкай пасярэдзіне, але без падклецця ёсць у Сарака Татарах. У гэтым самым стылі ёсць мячэць у Бахоніках, падобная на «пагадкі кітайскія», мячэць у Мураўшчызне, пабудаваная ў форме квадрата з ганкам, абапертым на высокія слупы». Так характарызаваў архітэктуру драўляных мячэцяў С. Крычынскі. Далей ён пісаў: «...Некаторыя мячэці (у Ляхавічах, Клецку, Некрашунцах) нагадваюць сваім выглядам вясковыя касцёльчыкі. Іншыя, пабудаваныя майстрамі-яўрэямі, блізкія па сваёй архітэктуры да сінагогі (мячэць у Асмолаве). Мячэць у Слоніме, з трыма цыбулепадобнымі вежачкамі, ёсць быццам бы копія праваслаўнай царквы».

У татар Беларусі і Літвы, як і ў краінах Усходу, мячэці буйных прыходаў называліся джама (джэмія). Вядома, што такімі былі мячэці ў Лоўчыцах, Мураўшчызне, Доўбучках. Як і ў краінах мусульманскага свету, у гэтых мячэцях у Беларусі таксама штодзённа ажыццяўлялася богаслужэнне за халіфа — хутбэ. Да джамамячэцяў пазней далучыліся мячэці ў Ляхавічах і Вільні. Асаблівасцю мячэцяў Беларусі і Літвы быў падзел унутранай прасторы на дзве часткі: мужчынскую і жаночую. Вядома, што ў краінах мусульманскага Усходу гэты падзел адсутнічае, па традыцыі там жанчыны моляцца дома. Спасылаючыся на версію аўтара трактата 1588 г. аб татарах Беларусі, С. Крычынскі пісаў, што, магчыма, гэтая асаблівасць узыходзіць да старажытных традыцый жылля кіпчакоў: «...дом татарскі ў стэпах Уфімскіх падзелены на дзве часткі: мужчынскую і жаночую». Памяшканне для малення жанчын знаходзілася звычайна з левага боку ад уваходу і было значна меншае, чым памяшканне для мужчын (у Іўеўскай мячэці жаночая палавіна размешчана з правага боку). У сцяне, што падзяляе мужчынскую і жаночую паловы мячэці, было падоўжнае закратаванае акно. Кожнае памяшканне мела свой уваход.

Набажэнства праводзілася на мужчынскай палове. Тут у сцяне, звернутай да Мекі, была зрубная ніша — алтар (міхраба, або кібла). Тварам да яе падчас набажэнства сядзеў мула. Справа ад міхраба было ўзвышэнне накшталт кафедры ці царкоўнага амбона з прыступкамі і навесам-балдахінам на слупках — мумібір. Адсюль да прыхаджан звяртаўся мула ва ўрачыстых выпадках, калі зачытваў, напрыклад, важныя дакументы, якія датычылі не толькі рэлігійнага, але і свецкага жыцця, калі абвяшчаў заздароўныя малітвы (хутбэ). Звычайна мумібір меў тры прыступкі, сем або дзевяць мелі мумібіры буйных мячэцяў. Мячэць у Лоўчыцах мела мумібір з трыма прыступкамі, у Немцах — з чатырма, а ў Доўбучках — з дзевяццю прыступкамі. Акрамя разьбярскай апрацоўкі слупоў і парэнчаў, мумібір упрыгожвалі надпісамі (радкі з

карана). Тут можна было знайсці і імя дойліда (Лоўчыцы), і дату ўзвядзення мячэці (Ляхавічы).

У верхняй частцы сценкі, што падзяляла мужчынскую і жаночую паловы, рабіўся балкон-галерэйка накшталт царкоўных хораў. Цэнтральная частка галерэйкі, як правіла, мела выступ (Іўе, Доўбучкі), там было месца муэдзіна.

Падлога мячэці засцілалася зялёнымі шарсцянымі ходнікамі-кілімамі. У прамежках паміж імі клаліся круглыя тканыя коўдры-чалуны. Іх ахвяравалі сваякі памерлых. На чалунах вышывалася імя, прозвішча і дата смерці чалавека, у гонар якога было зроблена ахвяраванне. Каля сцен — лавы і табурэты для старых і хворых.

Сцены аздаблялі мухіры — дываны з выявамі вядомых мячэцяў, апраўленыя ў зашклёныя рамы палотны з тканымі ці вышытымі радкамі тэкстаў карана, імёнамі пракокаў, літаграфічнымі выявамі Мекі, Медзіны і Каабы, сцягамі і сімваламі. Літаграфічныя насценныя выявы атрымалі ў Беларусі ў XX ст. шырокае распаўсюджанне. Іх прывозілі сюды татары з Волгі. Насценнае аздабленне дапаўнялі змешчаныя ў рамы пад шклом спадчынныя акты на карысць мячэці (тэстаменты), памятныя дошкі ў гонар фундатараў, напрыклад мармуровая дошка ў гонар Аляксандра Асановіча ў Навагрудскай, у гонар Замойскай — у Мураўшчызненскай мячэці (Іўе). Вывешваліся ца сценах і акты з датамі адкрыцця прыхода.

Найбольш простым тыпам была мячэць з блізкім да квадрата планам. Аб яе архітэктурным рашэнні можна меркаваць па мячэці ў мястэчку Сорак Татар (1815). Яна мела ашаляваны зруб, умацаваны лісіцамі і завершаны шатровым дранкавым дахам з цыбулепадобнай вежай-мінарэтам. Прыруба-міхрабы мячэць не мела.

Пэўным крокам у развіцці гэтага тыпу мусульманскага храма трэба лічыць мячэць у Лукішках. Тут да зруба, завершанага шатром даху, далучаецца характэрны элемент архітэктуры мячэцяў — двух'ярусная слупавая галерэя.

Далейшае развіццё разгледжанага аб'ёмна-планіровачнага тыпу назіраецца ў мячэці ў Іўі (Мураўшчызна). У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літвы знойдзены яе праект. Паказаны блізкі да квадрата план, падзелены на мужчынскую і жаночую паловы. У левай, мужчынскай — пяцігранны прыруб-міхраба, побач — мумібір, з боку ўваходу — галерэя. Фасаднае вырашэнне: ашаляваны ў «елачку» зруб, слупавая галерэя на ўсю вышыню сцен з балюстрадай. Галерэя падтрымлівае навес. Шатровы дах пераходзіць у высокі, стромкі мінарэт на васьмігранным барабане з балкончыкам (накшталт мінарэтаў у турэцкіх мячэцях). У пластычнай прапрацоўцы дэталяў на чарцяжы (слупы галерэй, раскосы, балюстрада, праёмы ў барабане мінарэта) відаць спроба архітэктара знайсці нейкае стылёвае вырашэнне, якое б было характэрна для праектаў драўляных пабудоў канца XIX—пачатку XX ст. У ашаляваным фасадзе згадваюцца рысы

стылю мадэрн. Зухаватая, з адценнем «узорнасці» архітэктура мячэці адпавядала патрабаванням будаўнічых норм таго часу.

Мячэць была пабудавана са значнымі адхіленнямі. На малюнку, зробленым у XIX ст. з натуры, адсутнічае шалёўка, сцены сцягнуты лісіцамі, з боку ўваходу — прыруб з двухсхільным дахам, за якім прыбудова да сцяны на палову вышыні галерэі. Іншы малюнак вокнаў, замест бляхі — гонта, замест «узорнай» архітэктуры — традыцыйныя прыёмы народнага цяслярства. Мячэць абнесена жэрдкавай агароджай. Яна зведала некалькі рамонтаў. Падчас апошняга, у 70-ых гг. XX ст., галерэя была цалкам зашыта, сцены ашаляваны, гонта заменена бляхай, пашыраны прыруб.

Мячэць у Навагрудку да апошняга часу мала чым напамінала старадаўні помнік, бо была перабудавана ў жылы дом. На фотаздымку пачатку XX ст. відаць, што аснову мячэці складае зрубавы, блізкі ў плане да квадрата аб'ём, які пераходзіць у шатровы дах мінарэтам. Да асноўнага аб'ёму далучаны з боку ўваходу прытвор і два бакавыя прырубы. Сцены ашаляваны, вокны і дзверы аздоблены ліштвамі, афарбаванымі ў белы колер. Верхнія ліштвы маюць кілепадобную форму, шырока распаўсюджаную ў ісламскай архітэктуры. У традыцыях мусульманскага дойлідства выкананы і мінарэт: выцягнуты гранёны барабан, увенчаны купалам, аснова якога падкрэслена карнізам. Такія мінарэты былі характэрны мячэцям Малой Азіі і Ірана XVI—XVII стст.

Другі тып уяўляюць мячэці, у якіх асноўнае памяшканне мае не цэнтрычныя, а восевыя прапорцыі. Мячэць у Асмолаве пад Навагрудкам мае падоўжны зруб, умацаваны лісіцамі. Ён пераходзіць у чатырохсхільны дах, у цэнтры якога чатырохгранны, з шатровым завяршэннем мінарэт. Да зруба далучаны прыруб-міхраба, дзве прыбудовы з аднасхільнымі стрэхамі. Формы пазбаўлены якога-небудзь пластычнага аздаблення.

Апошняга нельга сказаць пра мячэць у Лоўчыцах. Падоўжная ў плане зрубавая пабудова мае двухсхільны дах і мінарэт, які нагадвае макаўку царквы. Тут відавочны ўплыў драўляных праваслаўных і уніяцкіх цэркваў XVI—XVII стст.

Пэўны тып мячэцяў склаўся пад уплывам архітэктуры драўляных касцёлаў, адной з галоўных архітэктурных асаблівасцяў якіх былі фланкуючыя фасад вежы. Асаблівасці архітэктуры драўлянага аднавежавага касцёла назіраліся ў Клецкай мячэці 1881 г. пабудовы. Вылучаўся двух'ярусны мінарэт з чатырохсхільным шатровым дахам.

Па тыпу аднавежавага касцёла былі пабудаваны і мячэці ў Некрашоўцах (зараз Воранаўскі раён), 1926—1928 гг. Аналагічныя кампазіцыйныя рашэнні мела мячэць у Ляхавічах. Яе вежа-мінарэт, размешчаная на ўваходзе, нагадвала трох'ярусную касцёльную званіцу. Больш складаную аднавежавую кампазіцыю мела

10. Зак. 2052.

мячэць у Відзах, 1934 г. пабудовы (?). Пяціярусная вежа-мінарэт, першы ярус якой уяўляў падсень на трох спараных калонах, выканана ў архітэктуры драўлянага мадэрна.

У архітэктуры драўляных мячэцяў набылі распаўсюджванне і кампазіцыі з вежай-мінарэтам, змешчанай ад восі ўваходу на фланг галоўнага фасада. Такая будова ўяўляла сабою незавершаны варыянт двухвежавага касцёла. Прыкладам можа быць мячэць у Вінкшнкпе, паводле малюнка К. Гарніцкага 1868 г.

Нарэшце меліся і прыклады двухвежавых мячэцяў, — аналагаў двухвежавым касцёлам. Мячэць у Крыжынянах (канец XVIII ст., Польшча) мае вежы-мінарэты, фланкіруючыя галоўны фасад. Глаўкі-завяршэнні мінарэтаў і глаўка над дахам згадваюць вобразы драўлянага царкоўнага дойлідства. Відавочна супярэчнасць паміж архітэктурным рашэннем і ўнутранай будовай, аб чым сведчаць асобныя ўваходы ў мужчынскую і жаночую паловы. Пазначанае ўвогуле характэрна мячэцям, аб'ёмна-прасторавая будова якіх грунтуецца на восевай, з размяшчэннем вежы-мінарэта (ці двух вежаў) на галоўным фасадзе.

Мячэць у Слоніме, збудаваная ў канцы XIX ст. па кампазіцыі ўяўляе вежава-купальны варыянт (у цэнтры і над вугламі паабапал міхрабы), вытворны ад царкоўнай архітэктуры гэтага перыяду з рэтраспектыўна-рускімі рысамі.

Захаваўся адзіны для Беларусі прыклад драўлянай купальнай мячэці — з вёскі Доўбучкі Смаргонскага раёна.

Вядомая Доўбуцкая мячэць напачатку не мела да гэтай вёскі ніякага дачынення. Яна была пабудавана блізу 1735 г. непадалёк ад Доўбучак, у вёсцы Сялец. У XIX ст., напэўна, лёс склаўся такім чынам, што мячэць у Доўбучках прыйшла ў заняпад. Вырашылі перавезці сюды мячэць з вёскі Сялец, таму што будаваць новую ўжо не было сродкаў. У манаграфіі Чэслава Янкоўскага ёсць малюнак, на якім мячэць у Доўбучках паказана ў выглядзе зрубавай пабудовы з шатровай страхой і гранёным купалам. Насупраць дзвярэй — ганкі з двухсхільнымі стрэхамі на разьбяных слупах. Першую фатаграфію мячэці зрабіў вядомы віленскі фатограф Ян Булгак у пачатку XX ст. На фота тое ж збудаванне, што і на малюнку, але ёсць адно важнае адрозненне: ганкі са слупавымі навесамі злучаны скразной галерэяй. На малюнку галерэя адсутнічала. Магчымы два тлумачэнні такой неадпаведнасці: або мастак рабіў малюнак па памяці і галерэя выпала з поля зроку, або мячэць увогуле не мела галерэі. Праўда, Ч. Янкоўскі мячэць бачыў ужо з галерэяй, пра што і піша: «...акружана крытай галерэяй». І змешчаны ім малюнак зроблены, відаць, раней. Пра гэта можна меркаваць і зыходзячы з даты манаграфіі — 1896 г.

Гаворачы пра знешні выгляд помніка, Ч. Янкоўскі адзначае, што галерэя была «на белых калоначках, зробленых у візантыйскім

характэрным стылі...», а таксама паведамляе аб «купале чырванаватым». Значыць, драўлянае пакрыццё купала (дранка, гонта) было афарбавана ў чырвоны колер.

Пра планіроўку і ўнутранае аздабленне мячэці ў пачатку XX ст. можна меркаваць на падставе апісанняў Алі Варановіча з яго рукапіса «Даўбуцішкі». Мячэць была падзелена на дзве паловы: мужчынская злева і жаночая справа. У мужчынскай палове ў сцяне, звернутай на поўдзень (да Мекі), знаходзілася зрубная ніша-міхраба. Побач — мумібір з дзевяццю прыступкамі і навесам-балдахінам. Мумібір з такой колькасцю прыступак быў надзвычай рэдкай з'явай нават для буйных мячэцяў, што сведчыць пра значнасць помніка. У сцяне, што падзяляла мужчынскую і жаночую паловы, на вышыні каля метра было вузкае акно, закратаванае точанымі балясінамі. Акно занавешвалася тонкай белай вуаллю (муслінавай). На падлозе ў мужчынскай палове ляжалі зялёныя суконныя дарожкі. Паміж імі — невялічкія круглыя чалуны. На сценах віселі мухіры — змешчаныя ў рамках тэксты карана, імёны пракокаў, віды мячэцяў Мекі, Каабы, Медзіны. Акрамя таго, віселі ў рамках літаграфічныя выявы ісламскіх святынь, прывезеныя татарамі з Паволжа, так званыя «друкаваныя Казанскія абразы» 1899, 1909 і 1912 гг. Каля сцен стаялі лавы і табурэты. Над сцяной, што падзяляла мячэць, быў балкон на слупах. Яго сярэдняя частка, месца для муэдзіна, выступала наперад. У жаночай палове абсталяванне было больш сціплае. Спалучэнне квадратнай у плане часткі зруба з купалам, наяўнасць галерэі і праёмаў з элементамі арак, вуглавое размяшчэнне мінарэта сведчаць аб уплыве традыцый візантыйскага дойлідства. Асновай купала з'яўляўся вертыкальны слуп, замацаваны ў бэлькавай сістэме, да якога сыходзяцца, нібы ўтвараючы піраміду, кроквы, якія ўнізе абапіраюцца на абвязку з бярвенняў — шматкутнік з колькасцю бакоў, роўнай колькасці граняў. Рэбры, што ўтвараюць грані купала, складаюцца з асобных замацаваных драўлянымі нагелямі сегментаў і абапіраюцца на кроквы. Канструкцыя нагадвае дугу лука, сцягнутую цецівой.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што лінія перасячэння паўсферы купала са схілам страхі мае складаныя ламаныя абрысы. З канструкцыйнага разрэзу відаць, што абрыс асновы купала ад яго пачатку на ўзроўні бэлек уяўляе не паўакружнасць, а выцягнуты авал. У мусульманскім дойлідстве візантыйская паўцыркульная арка была трансфармавана ў падкованападобную. Гэта дасягалася шляхам таго, што аснова яе змяшчалася на 2/9 уніз ад дыяметра. Абрысы купала Доўбуцкай мячэці маюць выгляд падкованападобнай крывой. Тая яго частка, якая ўзвышаецца над схіламі стрэх, бліжэй да паўсферычнай формы, ніжняя схавана ў паддахавай прасторы. Такім чынам, у аблічны купала зафіксавана важная рыса мусульманскай архітэктуры.

# СІНАГОГІ

Агульная колькасць сінагог на пачатку XXI ст. складала ў Беларусі каля двух тысяч, і толькі галоўныя з іх у буйных гарадах былі муравапымі. Падаўляючую ж большасць складалі драўляныя сінагогі.

Меркаваць пра архітэктуру драўляных сінагог Беларусі магчыма па помніках, што былі ўзведзены ў канцы XVII і XVIII стст. і захаваліся на малюнках і фотаздымках канца XIX — першых дзесяцігоддзяў XX ст. На вялікі жаль амаль усе драўляныя сінагогі былі спалены ў гады Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

У малых гарадах і мястэчках у большасці сваёй з'яўляліся і галоўныя сінагогі. У забудове мястэчка сінагога адыгрывала важную ролю ў фарміраванні прасторы, яе маштабу, сілуэту забудовы. Гэта быў значны аб'ём, дамініруючы над жылымі і гандлёва-рамесніцкімі пабудовамі. З пункту гледжання гісторыка-архітэктурнага аналізу цікавасць уяўляе тая акалічнасць, што драўляныя сінагогі арэалу ўсходняй Еўропы вылучаліся арыгінальнасцю і спецыфічнаю архітэктурай у той час, як у Цэнтральнай і Заходняй Еўропе іх асаблівасці не набылі такога яркага праяўлення.

У аснове гэтай спецыфікі ляжыць тое ж аб'ёмна-прасторавае рашэнне, якое назіралася і ў мураваных сінагогах гатычна-рэнесанснай архітэктуры: блізкая да квадрату ў плане рытуальная зала, завершаная высокім, шмат'ярусным дахам. Знешнія галерэі, дабудовы толькі ўзмацнялі адчуванне некранутасці архітэктурнай цэласнасці. Драўляная сінагога нечым згадвала піраміду. Стылістыка барока XVII—XVIII стст. адбілася толькі на пластыцы форм (крывалінейныя франтоны, пілястры і карнізы, абрысы праёмаў), але не закранула сутнасць форм.

Цікавасць уяўляе тая акалічнасць, што ў дабудовах, прырубах, асобных невялічкіх аб'ёмах, акружаючых сінагогу, дахах над галерэямі нібыта паўтараецца ў зменшаным маштабе форма асноўнага будынка. Квадратны зруб з шатровым дахам змяняючы маштаб ствараe розныя варыянты адзінай па сутнасці кампазіцыі. Менавіта таму драўляныя сінагогі моцна кантраставалі ў акружаючай забудове.

Аблічча драўлянай сінагогі з'яўлялася яркім увасабленнем няўхільнага следавання традыцыям. Драўніна як матэрыял у параўнанні з цэглай вылучалася меншай пластычнасцю, таму кансерватызм формаўтварэння ў драўлянай архітэктуры сінагог было захаваць лягчэй, чым у мураванай.

Даволі рэдка, але сустракаўся пераходны тып сінагог драўляна-мураванай канструкцыі. Як правіла, такімі былі тыя, што ўключалі мураваныя рэшткі папярэдняга будынку. Да пазначаных адносілася муравана-драўляная галоўная сінагога ў Глыбокім.

У мястэчку, узнікшым недзе на пачатку XVI ст. ў 1766 г. пражывала 755 яўрэяў. У канцы XIX ст. тут налічвалася 6 сінагог. Будаўніцтва Галоўнай сінагогі, як і звычайна для мястэчка, мела даўнюю гісторыю. У 1742 г. Віленскі епіскап М.Зяньковіч выдае мясцовай яўрэйскай абшчыне дазвол на будаўніцтва сінагогі на месцы знішчанай пажарам з умоваю, каб апошняя не была падобнай на касцёл (без вежаў, з невысокім дахам). Вядома, што збудаваная паводле гэтага дазволу сінагога неаднаразова перабудоўвалася і аднаўлялася. На фотаздымку 20-ых г. XX ст. зафіксавана Галоўная сінагога мястэчка ў выглядзе драўляна-мураванай пабудовы, размешчанай у шэрагу вулічнай забудовы, на схіле рэльефу.

Калі дапусціць меркаванне, што пры будаўніцтве былі выкарыстаны рэшткі мураванай сінагогі XVIII ст., то ўсё роўна трэба прызнаць, што апошнія даволі гарманічна ўвайшлі ў архітэктуру новага будынку. Мураваным быў першы паверх. Прычым муры былі выкананы ў характэрным для XVII—XVIII ст. стылі: з шырокімі вуглавымі і прасценачнымі пілястрамі, вокнамі ў глыбокіх нішах, высокім арачным праёмам дзвярэй. Карніз з боку вуліцы пераходзіў у шырокі застрэшак, нібыта падводзячы рысы на мяжы мураванай і драўлянай частак будынка. Драўляны ярус сінагогі складаў прыкладна адну трэць усёй вышыні сцен (драўлянай і мураванай частак сумарна), выкананы быў з брусоў, злучаных у чысты (нямецкі) вугал, без астатку і налічваў усяго восем вянкоў. З боку вуліцы ў ім мелася тры звычайных памераў акны. Галоўнае ўражанне ў збудаванні ствараў высокі, стромкі двух'ярусны дах. Верхні ярус, які складаў прыкладна трэць агульнай вышыні даху, меў карнізны паясок, у ніжнім ярусе меліся слыхавыя вокны. Кантраст выбеленай тынкоўкі і пацямнелай драўніны стваралі своеасаблівы каларыт, а карнізы сцен дахаў, а таксама пілястры надавалі формам будынка выразную рытмічнасць. Перад галоўным уваходам мелася драўляная агароджа з дошак і брамка паміж мураванымі, пабеленымі вушакамі. На здымку бачна таксама прыбудаванае з левага боку памяшканне з дошак, над аднасхільным дахам, абаграваемае печкай, пра што сведчыць цагляны комін. Сінагога знішчана ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Да найбольш простага варыянту з пункту гледжання развіцця форм належала драўляная сінагога ў Лявонпалі. Здымак пачатку XX ст. даносіць да нас яе аблічча ў спарахнелым стане. Аднак будова форм добра зразумела. Узведзеная ў XVIII ст. Лявонпальская сінагога знаходзілася на ўскрайку мястэчка, што характарызуе яшчэ адзін з варыянтаў размяшчэння гэтых пабудоў. Была ўсталявана на падмурку з каменняў-валуноў, на рэльефе, маючым адносна невялікі ўхіл. Пры знешняй прастаце, сінагога мела даволі арыгінальную канструкцыю зрубаў. Першы ярус і бакавыя памяшканні былі ўладкаваны па тыпу зруба-шасцісцена (чатыры

вонкавыя сцяны і дзве ўнутраныя, папярочныя), а верхні ярус абапіраўся папярочнымі на падоўжаныя сцены ніжняга. Сцены былі выкананы з брусоў, у чысты вугал і на другім ярусе, у прасценках, мелі дадатковае ўмацаванне з дапамогаю лісіц (замацаваных нагелямі вертыкальных брусоў). Бакавыя крылы першага яруса мелі палогія аднасхільныя дахі. Верхні ярус меў высокі дах, з шырокімі залобкамі і невялікімі трохкутнымі франтончыкамі, што рабіла ўсё збудаванне высокім, стройным. Вокны першага яруса былі вузкімі і шырокімі (на два берваяны, як у гаспадарчых пабудовах традыцыйнага народнага жылля). Вокны другога яруса мелі звычайныя для сакральных пабудоў памеры. Рэшткі канструкцый на мяжы першага і другога ярусаў на галоўным фасадзе сведчаць пра існаванне тут шырокага прычолка, які з'яўляўся працягам аднасхільных дахаў.

Такім чынам, у архітэктуры Лявонпальскай сінагогі меліся дзве групы аб'ёмаў (галоўнага, двух'яруснага і бакавых, аднаярусных). Далучэнне да асноўнага аб'ёма бакавых, з двухсхільнымі дахамі, нагадвае разам з тым базілікальнае аб'ёмна-прасторавае рашэнне.

Аб'ёмна-прасторавае рашэнне Лявонпальскай сінагогі не з'яўлялася адзінкавым, ці выпадковым. Аналагічнае яму, толькі іншага маштабу, мела драўляная сінагога XVIII ст. у Росі. На здымку пачатку XX ст. бачна, што гэта была таксама двух'ярусная пабудова. Ядро яе складаў блізкі да квадрату ў плане, высокі (двух'ярусны) аб'ём рытуальнага памяшкання. Вакол яго, на ўзроўні першага яруса размяшчаліся дапаможныя памяшканні пад аднасхільным дахам, ахопліваючы па памеру галоўны аб'ём. У параўнанні з Лявонпальскай, гэтая сінагога была прыкладна ўдвая большая. Даўжыня сцен на ўзроўні першага яруса мела каля дваццаці метраў, а на ўзроўні другога — каля дванаццаці. Сцены былі складзены з абчасаных брусоў, у чысты вугал і мелі гарызантальную шалёўку з дошак. Дзверы і вокны ў першым ярусе былі звычайных памераў і прапорцый. Вокны другога яруса былі высокімі, падвойнымі, з лучковым завяршэннем, шырокімі ліштвамі і прамакутнымі шыбкамі. Сядзелі яны сіметрычна адносна вертыкальнай восі будынка. Уся пабудова была завершана высокім дахам, з шырокімі прычолкамі і прыгожым барочным франтонам, ашаляваным дошкамі «пад елачку», з арачным вакенцам на шэсць шыбак. Уражвае ў збудаванні тонкае адчуванне прапорцый, падпарадкаванасць ліній адзінаму сілуэту. Сапраўды, палогія схілы даху першага яруса нібы падхопліваюцца пругкімі лініямі галоўнага даху, агінаючы грэбень дугою франтона. Дахі мелі дранкавае пакрыццё (з тонкіх, колатых шчэп), якое таксама стварала маляўнічую фактуру, кантрастуючую з гладкімі сценамі.

Такім чынам, генетычна формаўтварэнне драўляных сінагог зыходзіць ад вобразу кампактнага і высокага шатра. Нельга не

заўважыць, што пазначаныя рысы ў пэўнай ступені блізкія драўлянай архітэктуры краін Усходу. Кампактныя, са стромкімі шатрамі-дахамі аб'ёмы, з'яўляліся аптымальнымі ва ўмовах цёплага клімату з інтэнсіўнымі сезоннымі атмасфернымі ападкамі. Пазначаная акалічнасць вызначала, напрыклад, формы традыцыйнага жытла горных рэгіёнаў Еўропы: Альп, Татраў, Карпат, Каўказа. Відаць таму адна з тэорый формаўтварэння драўляных сінагог XIX ст. і адносіла апошнія да Карпацкага стылю.

Прафесар архітэктуры Варшаўскага універсітэта Ян Клос напачатку нашага стагоддзя выканаў некалькі алоўкавых малюнкаў сінагогі XVI ст. з мястэчка Высокае. Малюнкі адлюстроўваюць выгляд будынку ў аксамаметрыі. Архітэктар імкнуўся прасачыць будову форм сінагогі і ў выніку ён зафіксаваў тыповы варыянт працэсу формаўтварэння. Аб'ёмы сінагогі развіваюцца на планіроўцы, аснову якой складаюць два квадраты: знешні і ўнутраны. Унутраны квадрат складаў планіровачную аснову галоўнага рытуальнага аб'ёму: высокага, з вялікімі прамакутнымі вокнамі. Над ім узвышаўся стромкі трох'ярусны чатырохсхільны дах. Паміж дахам і сценамі — шырокі карніз на спецыяльных, вынесеных за знешні перыметр сцен бэльках, мурлатах, пакладзеных на кансолі, зашчымленыя ў верхніх вянцах. Такая канструкцыя карніза вельмі цікава тым, што мае шырокае распаўсюджванне ў драўлянай архітэктуры Заходняга Палесся ўвогуле. На мурлату абапіраюцца пяты крокваў дахавай канструкцыі.

Знешні квадрат з'яўляўся асновай вонкавых памяшканняў. Апошнія мелі суцэльныя сцены, але кожнае з памяшканняў было накрыта асобным двухсхільным (чатырохсхільным для вуглавых) дахам. З кожнага боку будынка, на ўзроўні першага яруса, меліся чатыры такіх дахі: чатырохсхільныя па кутах і два двухсхільныя ў цэнтры. Першыя нагадвалі зменшаную копію галоўнага даху, астатнія былі павернуты вонку невялікімі трохкутнымі франтончыкамі і шырокімі прычолкамі. Дапаможныя памяшканні таксама мелі прамакутныя праёмы вокнаў і дзвярэй, але размешчаных без пэўнай сістэмы. На малюнку бачна, што сцены, як і ў папярэдніх выпадках, былі з брусоў у чысты вугал, пакрыццё — дранкавае.

Сінагога ў Высокім уяўляла тып, у якім кожны аб'ём меў закончанае рашэнне, а формы падпарадкоўваліся адзінай кампазіцыйнай ідэі. Тут мае месца найбольш магчымая дыферэнцыяцыя форм. Тэктанічнасць і геаметрызм апошніх адпавядаюць стылістыцы архітэктуры, у якой дэкор не змяняў канструкцыйную сутнасць формы.

Драўляная сінагога, пабудаваная ў XVIII ст. у Камянцы, працягвала традыцыі найбольш простых сваіх папярэдніц XVII ст.: зруб без дабудоў, веж і галерэй пад шыкоўным двух'ярусным вальмавым дахам.

Драўляная сінагога ў Заблудаве (мястэчка каля Беластока) была пабудавана ў XVII ст. і ўяўляе сабою пераход ад сінагог тыпу з Высокага да апісаных вышэй. Тут прысутнічаюць двух'ярусныя вежы, аднак бакавыя дабудовы маюць аднасхільныя дахі з невялічкімі мансарднымі надбудовамі, якія можна разглядаць як форму пераўтварэння асобных стромкіх дахаў тыпу сінагогі ў Высокім. Дах галоўнага аб'ёму і бакавых веж аднатыпны: з шырокімі прычолкамі і франтонамі ў верхняй частцы. Дах галоўнага аб'ёму абапіраецца на кансольна вынесены фрыз, выкананы па тыпу абломаў драўляных крэпасцяў сярэднявечча. Фрыз і франтоны былі аздоблены дэкаратыўнаю шалёўкаю. Заблудаўская сінагога яскрава ўвасабляе рэнесансныя рысы драўлянага сакральнага дойлідства. Дэкаратыўныя элементы прысутнічаюць толькі ў аздабленні форм, не закранаючы канструкцыйнай сутнасці апошніх і не ўплываючы на іх тэктоніку і характэрную рэнесансу манументальнасць.

Каля 1680 г. ўзводзіцца драўляная сінагога ў прадмесці Школішча ў Магілёве. Яе архітэктура ярка сведчыць аб тым, што тыя рысы, што былі характэрны драўляным сінагогам XVII ст. заходніх рэгіёнаў Беларусі, паспяхова развіваліся і ва ўсходніх рэгіёнах (моцна нагадвае сінагогу XVII ст. у Заблудаве каля Беластока). І тут мелі месца знешнія дабудовы, вежы, галерэі, стромкія двух'ярусныя дахі. Інтэр'ер сінагогі меў шыкоўныя роспісы, выкананыя ў 1710 г. сынам вядомага Слуцкага мастака Ісаака Сегала, Хаімам. Сінагога была разбурана ў 1938 г.

Чысцінёй і лаканізмам аб'ёмаў вылучалася драўляная сінагога XVII ст. ў мястэчку Узляны (вёска ў Пухавіцкім раёне). У кампазіцыі дамінаваў высокі, стромкі, двух'ярусны дах. З боку галоўнага фасада мелася двух'ярусная слупавая галерэя. Пазначаныя рысы архітэктуры добра бачны ў абліччы сінагогі з мястэчка Вількавышкі Ковенскага павета. Кампазіцыйная і аб'ёмна-прасторавая яе будова можа быць параўнана з сінагогай з Высокага. Першы ярус, акружаючы галоўны аб'ём, складаюць дапаможныя памяшканні, у асноўным накрытыя аднасхільным дахам, часам з мансардамі (правае крыло). Аднак з боку галоўнага фасаду размешчаны фланкіруючыя яго па вуглах дабудовы ў выглядзе двух'ярусных веж з чатырохсхільнымі стромкімі дахамі. У выглядзе двух'яруснай вежы быў вырашаны ўваходны прытвор, першы яго ярус, даволі складанай канфігурацыі, меў двое дзвярэй у выглядзе стрэльчатай аркі і круглы аконны праём паміж імі. Размешчаны за дабудовамі высокі галоўны аб'ём сінагогі быў накрыты стромкім дахам з шырокімі прычолкамі. З боку галоўнага фасада ў прычолку мелася невялікае мансарднае слыхавое акно. Будынак сінагогі быў ашаляваны, прычым на галоўным аб'ёме меўся выкананы з дапамогаю шалёўкі дэкаратыўны фрызавы пояс. Дэкаратыўную ролю



*Дзверы касцёла Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Гудагаі*



*Капліца XIX ст. Агароднікі, Слуцкі раён*

*Капліца. Ашмянскі павет. Фота пачатку XX ст.*





*Касцёл. Фота Я.Балзункевіча*

*Касцёл. Міращічы, Навагрудскі раён. Фота пачатку XX ст.*





*Капліца, Ашмянскі павет. Фота пачатку XX ст.*



*Роспіс столі касцёла ў Свіранках, Астравецкі раён*



*Інтэр'ер касцёла Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Гудагаі*

*Інтэр'ер касцёла Святога Міхаіла Архангела ў Цімкавічах, Капыльскі раён*



*Капліца XIX ст.*
*Скрыльская Слабада, Пухавіцкі раён*



*Капліца XVIII ст. Янава, Ганцавіцкі раён*



*Капліца пачатку XIX ст. Леніна, Жыткавіцкі раён*



*Капліца пачатку XX ст. Азярніца, Лунінецкі раён*



*Слуповая капліца каля Свянцян. Фота пачатку XX ст.*



*Слуповая капліца каля Глыбокага. Фота пачатку XX ст.*



*Слуповая капліца. Свіранкі, Астравецкі раён*



*Слуповая капліца бліз Свянцян. Фота пачатку XX ст.*



*Слуповая капліца. Панямонне. Фота пачатку XX ст.*



*Слуповая капліца бліз Паставаў. Фота пачатку XX ст.*



*Званіца 1908 г. Каралеўцы, Вілейскі раён*



*Званіца XVIII ст. Лявонпаль, Міёрскі раён*

11. Зак. 2052.



*Званіца XVIII ст. Дуды, Іўеўскі раён*



*Званіца XVIII ст. Ляскавічы, Іванаўскі раён*

11*. Зак. 2052.



*Званіца XVIII ст. Мохра Іванаўскі раён*



*Званіца XIX ст. Чарнякава, Бярозаўскі раён*

*Званіца XVIII ст. Кавалі, Глыбоцкі раён*





*Званіца XVIII ст. Вялец, Глыбоцкі раён*



*Званіца XVIII ст. Шарашова, Пружанскі раён*

*Званіца. Рубель, Столінскі раён*



*Званіца XVIII ст. Чэрск, Брэсцкі раён*



*Званіца XVIII ст. Дзятлава*

*Званіца XVIII ст. Ляхаўцы, Маларыцкі раён*



12. Зак. 2052.



*Званіца 1912 г. Рамель, Столінскі раён*





*Мячэць у Студзёнцы. Малюнак, XIX ст.*

*Мячэць у Лукішках*

*Мячэць у Бахонках*



0 1 2 3 4 m



*Мячэць у Бахонках. Абмеры, 1980 г.*



*Мячэць у Сорака Татарах. Фота, 1938 г.*



*Мячэць у Сорака Татарах. Абмеры*



*Мячэць у Сорака Татарах. Абмеры*





*Мячэць у Сорака Татарах. План і схема крокваў*



*Мячэць у Рэйзах. Фасад, разрэз, план, дэталі*



*Мячэць XVII ст. Лоўчыцы, Навагрудскі раён*



*Мячэць у Лоўчыцах.*
*Агульны выгляд, план*




*Мячэць у Лоўчыцах. Праект рэстаўрацыі*





*Мячэць у Лоўчыцах. Праект рэстаўрацыі*




*Мячэць у Лоўчыцах.*
*Разрэзы*



*Мячэць 1926 г. Некрашунцы, Воранаўскі раён*



*Мячэць 1929 г. Асмолава, Баранавіцкі раён*

*Мячэць 1858 г. Навагрудак*



*Мячэць 1928 г. Мір,*
*Карэліцкі раён*





*Мячэць. Клецк*



*Мячэць. Клецк*

*Мячэць 1874 г. Іўе*





*Мячэць у Іўі. Мумібір*

ETERNIT




*Малітоўны дом,
каля 1936 г.
Глыбокае*

*Мячэць у Іўі. Малюнак, XIX ст.*

*Мячэць, 30-ыя гады XX ст. Відзы*



*Мячэць у Вінкшнупе. Малюнак К.Гарніцкага, 1868 г.*



*Мячэць у Крыжыньянах XVIII ст.*






*Мячэць XVIII ст. Доўбучкі, Смаргонскі раён. Абмерныя чарцяжы*

13. Зак. 2052.




*Мячэць у Доўбучках. Абмерныя чарцяжы*



*Мячэць у Доўбучках. Фота пачатку ХХ ст.*

*Мячэць у Доўбучках. Фота канца 70-ых гг. ХХ ст.*



*Мячэць у Доўбучках. Фрагмент галерэі*



*Мячэць у Доўбучках. Праект рэстаўрацыі*

*Мячэць у Доўбучках. Праект рэстаўрацыі*





*Сінагога ў Высокім, XVI ст.*
*Малюнак Я.Коласа, 1920-ыя гады*

*Сінагога ў Заблудаве, XVII ст.*





*Сінагога ў Вількавішках, XVIII ст.*

*Сінагога ў Насельску, XVIII ст.*





*Сінагога ў Глыбокім, XVIII ст.*

*Сінагога ў Алькенінах, XVIII ст.*





*Сінагога ў Нароўлі, XVIII ст.*

*Сінагога ў Гродна, XVIII ст.*



14. Зак. 2052.



*Сінагога ў Кажан-Гарадку, XVIII ст.*

*Сінагога ў Давыд-Гарадку*





*Сінагога ў Століне*

*Сінагога ў Волпе, XVIII ст.*





*Сінагога ў Волпе, XVIII ст.*

*Сінагога ў Волпе. Інтэр'ер*





*Сінагога ў Волпе. Канструкцыі даху*



*Сінагога ў Бабруйску*



*Алтар сінагогі ў Зэльве*



*Алтар сінагогі ў Друі*

*Алтар сінагогі ў Друі. Фрагмент*



адыгрывалі і лісіцы, казыркі, адліўныя дошкі і іншыя дэталі драўлянай архітэктуры.

Фланкіруючыя галоўны фасад Вількавышкаўскай сінагогі вежы (як між іншым і ў сінагозе з Высокага) істотна згадваюць рысы абарончай архітэктуры, уласцівыя сакральнай архітэктуры XV–XVII ст. У такім разе гэты тып драўляных сінагог XVI–XVII ст. можна параўноўваць з Сынкавіцкай і Мураванкаўскай цэрквамі абарончага тыпу. І ў тым, і ў другім выпадку аб'ёмы рытуальных памяшканняў фланкуюцца па вуглах вежамі з выразнымі рысамі абароннай архітэктуры.

У наступным тып драўлянай сінагогі з фланкуючымі вежамі набыў далейшае развіццё ва ўмовах архітэктуры барока. У стылі і формаўтварэнні апошняй ён быў ўзяты за аснову як пэўны архетып. Рысы сакральных пабудоў абарончага тыпу ў адносінах да драўляных сінагог сталі ўспрымацца як характэрныя менавіта для іх.

Тып драўлянай сінагогі з блізкім да квадрату аб'ёмам рытуальнай залы, абкружанай прыбудовамі і завершанай двух-, трох'ярусным дахам, маючай фланкіруючы галоўны фасад вежы, ўяўлялі сінагогі ў Кажан-Гарадку (другая палова XVIII ст.), Азёрах (XVIII ст.), Пясках (другая палова XVIII ст.).

Пазначаны працэс можа быць праілюстраваны на асаблівасцях архітэктуры сінагогі з мястэчка Сапоцкін, паводле фотаздымка, выкананага напачатку XX ст. Аб'ёмна-прасторавае рашэнне яе абсалютна аналагічнае вышэй разгледжаным (галоўны аб'ём з дапаможнымі памяшканнямі па перыметру пад аднасхільным дахам). У адрозненне ад Вількавышкаўскай сінагогі ўваход архітэктурна не вылучаецца. Затое вылучаюцца прапрацоўкай форм і дэталяў бакавыя двух'ярусныя вежы. Яркую архітэктурную выразнасць апошнім надаюць двух'ярусныя дахавыя формы з незвычайна шырокімі казыркамі, іх лініі падхопліваюцца схіламі высокага, трох'яруснага галоўнага даху, ствараючы ў сукупнасці імпульсіўны рытм вертыкальна развіваючыхся форм. Шырокія карнізы дахавых ярусаў ствараюць выразныя светла-ценевыя пераходы паміж апошнімі.

Звяртае ўвагу і абсалютна сіметрычнае размяшчэнне вокнаў і дзвярэй. Вокны падвойныя, з ліштвамі, афарбаванымі ў белы колер, што робіць іх асабліва маляўнічымі на фоне цёмных сцен. Сцены ашаляваны, «пад елачку», за выключэннем цокальнай часткі і франтонаў, дзе ашалёўка гарызантальная. Гарызантальная шалёўка прысутнічае пад застрэшкамі паміж ярусамі бакавых веж сінагогі.

Аднак ва ўмовах архітэктуры барока непазбежнай была пераапрацоўка абарончых рыс і форм у больш дэкаратыўныя, адпавядаючыя патрэбам стылю. Апошняе вяло да ўсё большага падпа-

радкавання вежавых форм архітэктуры ўсяго збудавання. Саперніцтва паміж архітэктурна выразнымі вежавымі формамі і грандыёзнаю масаю асноўнага аб'ёму сінагогі заканчваецца перамогай апошняга.

Прыкладам таму можа быць будынак драўлянай сінагогі ў Занёманскай частцы Гродна, узведзенай у XVIII ст. і знішчанай у гады Вялікай Айчыннай вайны. Галоўны фасад сінагогі быў звернуты да вуліцы двухпавярховым прытворам на ўсю шырыню будынка. Аднасхільны дах прытвора плаўна пераходзіў у двух'ярусны дах уласна сінагогі. З бакоў прытвор фланкіраваўся вежавымі двух'яруснымі прыбудовамі, завершанымі невысокімі купальнымі дахамі. Вежы не мелі характэрных на мяжы ярусаў застрэшкаў-казыркоў, а дахавыя формы цалкам падпарадкоўваліся дынаміцы ліній асноўнага даху. Сцены веж не выступалі з плоскасці галоўнага фасаду. Будынак сінагогі быў ўзведзены з удала падагнаных брусоў. Па вуглах і ў прасценках былі ўсталяваны магутныя драўляныя лісіцы, выконваючыя акрамя канструкцыйнай і пэўную пластычную ролю, ствараючы падабенства пілястраў. Прыгожа, у «елачку», быў ашаляваны дахавы франтон. Аднак у размяшчэнні праёмаў дзвярэй і вокнаў пэўная сістэма не назіралася. Вялікія, з шырокімі ліштвамі, вокны прытвора выглядалі непрапарцыянальна адносна сцяны. Вокны ў вежах розных памераў (ніжнія з адзінарнымі і падвойнымі аканіцамі) таксама глядзеліся выпадковымі на фоне ў цэлым супадпарадкаваных архітэктурных аб'ёмаў.

У канцы XVIII — пачатку XIX ст. вежавыя аб'ёмы паступова знікаюць, а бакавыя дабудовы ў асобных выпадках трансфармуюцца, павялічваючы габарыты будынка. Часцей сустракаюцца двух'ярусныя галерэі, часам на ўсю шырыню сцяны. Нязменнымі застаюцца формы даху (Давыд-Гарадок, пачатак XIX ст.).

На фотаздымку пачатку XIX ст. драўлянай сінагогі ў мястэчку Валькенікі Трокскага павета якраз бачны непараўнальна малы маштаб бакавых дабудоў з шатровымі дахамі адносна грандыёзнай масы ўсяго будынку. Архітэктура Валькенікскай сінагогі сапраўды ўражвала сваёй велічнасцю. Тут была прадумана і прапрацавана архітэктарам літаральна кожная дэталь. Будынак стаяў на невысокім, але якасна выкананым мураваным падмурку. Сцены былі зроблены з удала падагнаных брусоў у чысты вугал. Будова галоўнага фасада вызначалася дакладнай сіметрыяй. Першы ярус памяшканняў абкружаў галоўны будынак з трох бакоў і заўяршаўся палогім аднасхільным дахам. З боку галоўнага фасада, у цэнтры тут мелася круглае акно ў ліштвах, згадваючых ромб. Паабапал — стрэльчатыя праёмы дзвярэй, аздобленыя прафіляванымі ліштвамі. Вежы па кутах мелі спараныя вокны і круглыя калоны-пілястры. Над палогім дахам першага яруса ўзвышалася сцяна другога. Тут меліся сіметрычна размешчаныя спараныя вокны

з лучковым завяршэннем у шырокіх ліштвах. А вышэй пачынаўся велічны трох'ярусны дах. Першы яго ярус звісаў над сценамі шырокім казырком з шыкоўным разьбяным карнізам у некалькі радоў. Паміж першым і другім ярусамі ішоў шырокі з барэльефнаю разьбою фрыз. Па цэнтру трэцяга яруса мелася мансарднае слыхавое акно. Трэці ярус аддзяляўся ад папярэдняга шырокім прафіляваным карнізам, меў вялікі трохкутны франтон, ашаляваны гарызантальна дошкамі. Сцены сінагогі не маюць знешняй ашалёўкі, што надае іх выгляду пэўную манументальнасць, падкрэслівае кантраст з дробнаю пластыкаю дранкавага дахавага пакрыцця.

Сінагога ў Валькеніках была адной з прыгажэйшых на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Ёй не ўступала драўляная сінагога пачатку XX ст. у Волпе.

Захаваліся фотаздымкі па меншай меры двух перыядаў існавання гэтага выдатнага помніка архітэктуры: дзесьці 20-ых гадоў і канца 30-ых XX ст. На фотаздымках Яна Булгака, 20-ых гадоў будынак сінагогі зафіксаваны ў даволі добрым стане захаванасці. Сінагога стаяла на каменным падмурку. Аб'ёмна-прасторавая структура была трацыцыйнай: высокі галоўны аб'ём у атачэнні прыбудоў. Апошнія былі невысокімі і мелі пакаты, аднасхільны дах.

З боку галоўнага фасаду прыбудовы ўтваралі своеасаблівую і самастойную архітэктурную кампазіцыю. Цэнтрам яе быў уваходны прытвор, са спаранымі арачнымі вокнамі па цэнтру і дзвярнымі праёмамі па баках. Над прытворам узвышаўся двух'ярусны дах, з шырокім прычолкам. На баках прытвора, фланкіруючы фасад сінагогі, месціліся двух'ярусныя вежы пад высокімі двух'яруснымі дахамі. Адметнай асаблівасцю веж з'яўляўся арыентаваны на знешнія бакі галерэйны балкончык з разьбянымі слупкамі, дэкаратыўнымі гіркамі, парэнчамі і тачонымі балясінамі. Гэта новы крок у дальнейшым дэкаратыўна-пластычным развіцці вежавых аб'ёмаў сінагог, які атрымаў у XVIII ст. шырокае распаўсюджванне. Пазначаныя галерэі аказалі істотны ўплыў на павышэнне дэкаратыўных вартасцей архітэктуры будынку ў цэлым.

Асноўны аб'ём вылучаўся шыкоўным трох'ярусным дахам, акцэнтам якога быў прыгожы, барочнага абрысу франтон з закрытым аканіцамі слыхавым акном у атачэнні прыгожых разьбяных паўкалон. Сцены сінагогі мелі гарызантальную ашалёўку, разьбяныя паяскі і карнізы, аднатыпныя аконныя праёмы: спараныя, арачныя ў ліштвяным атачэнні.

На здымках, выкананых напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, будынак выглядае спарахнелым: адсутнічае частка слупоў у галерэях, зніклі балясіны, рамантаваўся дах. На франтоне з'явілася круглае слыхавое акно, і слыхавыя вокны на першым ярусе даху, зніклі дэкаратыўныя дэталі яго атачэння. Але ўсё роўна сінагога ўражвае сваёй велічнасцю і прыгажосцю. Польскі даследчык

Зыгмунд Глогер вылучаў ва ўсходнееўрапейскім арэале тры драўляныя сінагогі: У Паграбніцы, Волпе і Заблудаве.

Архітэктурныя рысы Волпенскай сінагогі мелі пэўнае распаўсюджванне. Прыкладам могуць быць відарысы сінагогі ў Нароўлі. Захаваліся праектныя малюнкі канца XVIII ст. і фотаздымак пачатку XX ст. Знешнія формы Нараўлянскай сінагогі паўтараюць тыя, што мелі месца і ў Ваўпянскай. Асаблівую цікавасць выклікае ўладкаванне бакавых веж, якія адрозніваюцца тым, што маюць двух'ярусныя галерэі і больш важнае функцыянальнае прызначэнне. З другога яруса меўся спецыяльны лесвічны закрыты ўваход на галоўную галерэю, што месцілася ўнутры галоўнага аб'ёму. Гэта арыгінальнае і вельмі зручнае з функцыянальнага пункту гледжання рашэнне забяспечвала раздзяленне людскіх патокаў і вызваляла ўнутраную прастору ад залішніх канструкцый.

Ганак Нараўлянскай сінагогі быў вырашаны ў выглядзе невялічкага портыка на чатырох слупах. Разьбярамі былі маляўніча выкананы слупкі, парэнчы і краты вежавых галерэй. Прыгожа выглядалі спараныя арачныя вокны. Сцены на ўзроўні першага яруса шалёўкі не мелі, а на ўзроўні другога былі вертыкальна ашаляваны. Арыгінальнае і ў нечым унікальнае канструкцыйнае вырашэнне мела верхняя частка сцен асноўнага аб'ёму. Уладкаванне галерэі для жанчын і знешні пад'ём на яе абумовіў частковы яе кансольны вынас вонку з прымяненнем крывалінейнага даху-застрэшка. Такое канструкцыйнае рашэнне сярод драўляных сінагог не мае аналагаў. Крывалінейны застрэшак пераходзіць у шырокі, аздоблены разьбою фрыз, над якім уздымаецца стромкі трох'ярусны дах. Увагнутыя і выгнутыя профілі дахавых ярусаў разам з дугою застрэшка ствараюць адзіны дынамічны малюнак архітэктурных форм, іх узаемнае перацяканне, лагічным завяршэннем чаму служаць двухсхільныя формы верхняга яруса даху з ашаляванымі ў «елачку» франтонамі.

У канцы XVIII ст. дамініруючую ролю ў сакральнай архітэктуры пачынае адыгрываць класіцызм. Як і барока, класіцызм не закрануў тэктонікі будовы форм драўлянай сінагогі. Адбыўся працэс пераасэнсавання іх пластычных асаблівасцей, сродкаў выразнасці. Спакойны рытм аб'ёмаў, стрыманыя лініі форм крыху прыглушылі барочны дынамізм і нібыта вярнулі рэнесансную манументальнасць.

Прыкладам можа быць зафіксаваны на здымку 20-ых гадоў Яна Булгака выгляд сінагогі ў Скідалі. Яна была збудавана недзе ў канцы XVIII ст. і па сваіх тыпалагічных прыкметах аналагічна Ваўпянскай. Аднак класічная ніверліроўка архітэктуры тут бачна даволі выразна. Спрошчаны формы першага яруса. Перыметр знешніх сцен выведзены на адну лінію, таму ў адной плоскасці знаходзяцца і дзверы, і аконныя праёмы. Бакавыя вежы па су-

тнасці знікаюць. Іх месца абазначана сілуэтам двухсхільных дахаў з вузкімі казыркамі-застрэшкамі і ашаляванымі ў «елачку» франтонамі. Велічны асноўны аб'ём аздоблены шырокім фрызам, пераходзячым у прафіляваны карніз-застрэшак, які размешчаны прыкладна на ўзроўні двух трэцяў вышыні сцен і стварае дадатковае і істотнае для архітэктуры гарызантальнае чляненне, сваім малюнкам звязанае з формамі і лініямі двух'яруснага даху. Сцены на ўсіх узроўнях, а таксама дахавы франтон ашаляваны вертыкальна дошкамі. Гэта стварае адзіны цэласны вертыкальны малюнак вонкавай фактуры, спалучаны з лініямі ліштваў выцягнутых вокнаў, фланкуючымі вокны лісіцамі. Вертыкальная ашалёўка надае сценам падманны выглад мураванай пабудовы, а лісіцы пераўтварае ў пілястры. Усё пазначанае і характарызуе класічную стылістыку архітэктуры Скідальскай сінагогі.

У XIX ст. з'яўляюцца і спрошчаныя варыянты драўляных сінагог, губляючыя архітэктурныя прыкметы сакральнага збудавання. Прыкладамі былі драўляныя сінагогі ў Адэльску (XVIII ст.), Лунна (канец XIX — пач. XX ст.).

Такім чынам, як ужо адзначалася, драўляныя сінагогі ў цэлым захоўвалі традыцыйную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, нягледзячы на стылістычныя ўздзеянні і напластаванні. Генезіс некаторых форм, у прыватнасці фланкуючых веж, прасочваецца ад крыніц абароннай архітэктуры і іх відазмяненні зразумелы. Больш складана даць адназначны адказ, які б тлумачыў развіццё грандыёзных дахавых форм. Адных стылістычных тлумачэнняў тут недастаткова, бо тэктоніка дахаў захоўвае прыкладна аднолькавыя і памеры, і прапорцыі. Зразумець сутнасць развіцця дахавых форм магчыма, калі зазірнуць у будову ўнутранай прасторы драўлянай сінагогі.

Выкананыя ў 30-ыя гады абмеры сінагогі ў Волпе і іншых аналагічных помнікаў паказваюць, што канструкцыйная будова інтэр'еру ў іх мела прамыя аналогіі з мураванымі сінагогамі тыпу Быхаўскай, ці Навагрудскай. Аснову гэтай будовы складалі чатыры слупы-калоны ў цэнтры, утвараючыя апорную крыпту для драўляных арачных сутарэнняў. Калоны ўзводзіліся з моцных брусоў, аздабляліся капітэлямі і шырокімі абакамі. Паміж імі, як і ў мураваных сінагогах, месцілася біма. Драўляныя арачныя сутарэнні ўладкоўваліся каскадамі, што было абумоўлена даволі вялікай шырынёю пралёту. Каскады пачыналіся ад узроўню верхняга вянка сцен і ўздымаліся адзін над адным, утвараючы, нарэшце ў самым версе суцэльны выцягнуты па асі будынка купал. Унутраная паверхня сутарэнняў утваралася дошкамі абшыўкі, за якімі хавалася надзвычай складаная канструкцыя.

Спецыфіка драўляных канструкцый прадугледжвае два варыянты ўладкавання сутарэнняў: зрубны, калі апошнія ствараюцца

падагнанымі адзін да аднаго бярвеннямі (закотам) і каркасны, у якім аснову сутарэнняў складаюць асобныя элементы, утвараючыя патрэбны профіль, а само сутарэнне падшываецца дошкамі. Вялікія памеры пралётаў выключылі магчымасць уладкавання зрубных сутарэнняў, у такім выпадку цяжкіх і груваcткіх. Рацыянальнай была каркасная канструкцыя: сістэма крокваў, і шматлікіх сувязяў жорсткасці. Апошняя выконвала дзве функцыі: нясення даху і ўтрымання падшыўных сутарэнняў. У канструкцыйным сэнсе гэта была сістэма рам, каскадамі ўздымаючыхся адна над другой. Знешні бок рам служыў для абапірання крокваў ярусаў даху, унутраны падшываўся дошкамі сутарэнняў. Менавіта апошняя акалічнасць і тлумачыць вялікі аб'ём дахавай прасторы сінагогі і ярусную будову даху. Менавіта канструкцыя тут выступае ў якасці крыніцы формаўтварэння.

Кроквенныя канструкцыі сінагог адначасова неслі і нагрузку ад балконаў. Часам такія балконы (як, напрыклад, сінагога ў Волпе) уладкоўваліся ў два ярусы. Кроквенныя сістэмы драўляных сінагог не маюць сабе аналагаў у сакральнай архітэктуры. Іх можна параўнаць хіба што з канструкцыямі тэатральных збудаванняў XVII – XVIII стст. (Дзярэчын, Ружаны), дзе таксама актуальным было стварэнне балконаў і сутарэнняў. Па сутнасці мела месца буйнамаштабнае ўвасабленне так званага мансарднага даху, вядомага ў XVII–XVIII стст. і ў палацавых і замкавых пабудовах. Канструкцыя даху сінагогі ў Волпе была сфатаграфавана польскімі даследчыкамі. Добра бачны ствараючыя сутарэнні, сегменты і кроквенная сістэма.

Інтэр'ернае абсталяванне драўляных сінагог, як правіла, багата аздаблялася разьбянымі ўпрыгожаннямі. Біма месцілася ў цэнтры, паміж нясучых слупоў і мела канструкцыю, нагадваючую шацёр. Яго ўтваралі слупкі, злучаныя парэнчамі, кратамі з балясінамі, шыкоўным карункавым карнізам. У плане такая біма нагадвала васьмікутнік. Ля ўсходняй сцяны размяшчаўся арон-кодэш, які ў Волпенскай сінагозе меў трох'ярусную канструкцыю, аснову якой складаў слупавы каркас з калон і карнізных паясоў. Арон-кодэш нагадваў шматграннік. Грані былі запоўнены ўзорыстымі разьбянымі шчытамі. Завяршалі канструкцыю парныя фігуры міфічных істот. Разьбянымі падзорамі ўпрыгожваліся балконы, унутраныя карнізныя паясы.

У драўляных сінагогах мелася шмат разнастайнай мэблі. Тут месціліся лавы і пюпітры для чытачоў, сталы і шуфляды (каўчэг). Да столі падвешваліся прыгожыя кавальскія свяцільнікі. Большасць элементаў абсталявання ўяўлялі сабою творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, выкананыя вядомымі мясцовымі і замежнымі майстрамі. Многія з іх былі прывезены ў дар з розных еўрапейскіх краін равінамі і кантарамі, знакамітымі прадстаўні-

камі буйных замежных яўрэйскіх абшчын. Знішчэнне драўляных сінагог фашысцкімі захопнікамі нанесла непапраўныя страты мастацкай культуры ўвогуле, бо была загублена адна з унікальных яе старонак.

Сінагогі на Беларусі — яркі і самабытны пласт айчыннай архітэктурнай спадчыны. Па-першае, гэта было канкрэтнае ўвасабленне матэрыяльнай культуры адной з этнічных груп Беларусі, менавіта ў сакральнай архітэктуры атрымала ўвасабленне спецыфіка яўрэйскага дойлідства. Большасць сінагог Беларусі мела спецыфічнае аблічча. У гэтым вялікае пазнавальнае значэнне сінагагальнай архітэктуры і яе унікальнасць.

Спецыфіка архітэктуры сінагог тлумачылася двумя фактарамі: аўтаномнасцю і замкнутасцю яўрэйскіх абшчын і адсюль няўхільнае следаванне традыцыям, кананізацыя традыцыйных, архаічных форм. Там, дзе ад пазначаных фактараў назіраліся адступленні (рэфарматарскія цячэнні ў іудаізме краін Еўропы канца XIX — пачатку XX ст.) змянялася і аблічча сінагог. Апошнія хутчэй і больш лёгка ўспрымалі стылістыку сакральнага дойлідства карэннага насельніцтва краіны. Для нашай краіны гэта не было характэрна. Сутнасць архітэктурнай будовы сінагог на Беларусі ў пэўнай ступені грунтавалася на біблейскіх апісаннях старажытных іўдзейскіх храмаў. Старажытныя рысы ўвасобіліся ў абліччы драўляных сінагог, дзе прысутнічаюць яўныя падабенствы з біблейскімі храмамі.

Разам з традыцыямі на архітэктуру сінагог уплывалі канструкцыйна-стылістычныя асаблівасці еўрапейскай архітэктуры розных эпох: готыкі, рэнесансу, барока, класіцызму, эклектыкі. Асаблівасці готыкі і рэнесансу ў сінагогах Беларусі грунтаваліся на абарончых рысах. Менавіта апошнія і адлюстроўвалі ізалялванасць і замкнутасць яўрэйскіх абшчын, імкненне бачыць у сінагозе крэпасць і сродак абароны. Барока робіць манументальныя рэнесансныя формы больш рухомымі і пластычнымі. Архітэктура нібыта здымае даспехі і набывае ўрачысты, цывільны выгляд. Пазначаная цывільнасць робіцца зусім адкрытай у перыяд класіцызму, а потым і эклектыкі. Многія сінагогі пазначанага перыяду «губляюць твар», папаўняюць рады грамадзянскай архітэктуры. Аднак трэба думаць, што развіццё цывільнасці ў архітэктуры сінагог XIX — пачатку XX ст. было і адлюстраваннем істотных перамен у абшчынным укладзе, ліквідацыя кагалаў, распаўсюджванне рэфарматарскіх ідэй рабіла абшчыну больш адкрытай да грамадства, а архітэктуру грамадзянскай па стылістыцы.

Сінагогі Беларусі ўзбагацілі айчынную архітэктуру цікавымі знаходкамі ў працэсах формаўтварэння і кампазіцыі. Асабліва каштоўным з пункту гледжання архітэктуры з'яўляецца прынцып уладкавання сутарэнняў на цэнтрычнай сістэме апор. Ні царкоў-

ная, ні касцёльная архітэктуры не маюць адпаведных аналагаў. Унікальнымі з пункту гледжання формаўтварэння з'яўляюцца аб'ёмна-прасторавыя рашэнні драўляных сінагог: фланкуючыя вежы-галерэі, каскады дахаў, грандыёзная апорна-кроквенная сістэма з уладкаваннем унутраных сутарэнняў і схілаў дахаў на агульнай канструкцыйнай аснове. Апошнія ўяўляюць сабою істотнае дасягненне ў развіцці цяслярскага мастацтва, удасканаленне драўляных канструкцый, выкарыстання ўласцівасцей драўніны як універсальнага будаўнічага матэрыялу.

Абсталяванне інтэр'еру сінагог уяўляла сабою арыгінальны пласт дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Тут змяшчаліся унікальныя па сваіх сюжэтных кампазіцыях узоры разьбы па дрэву, роспісаў, кавальскага мастацтва. Тэхналогія прапольнай разьбы ў аздабленні бімы і арон-кодэша дасягала неверагоднай дасканаласці. Цікавасць уяўляюць і сюжэтныя матывы, пабудаваныя на спалучэнні раслiннага і зааморфнага арнаментаў. Сярод апошняга прысутнічалі не толькі выявы міфалагічных істот (хімер), але і фігуры звяроў і птушак мясцовага асяроддзя (буслоў, лісіц, мядзведзяў, пеўняў і г.д.). Свядома ці падсвядома майстры-разьбяры ўвасаблялі ў сваіх творах ідэю божай існасці як крыніцы жыцця. У аздабленні інтэр'ераў сінагог Заходняй Еўропы падобная з'ява не назіралася. Тут прысутнічалі больш абстрактныя, дэкаратыўныя вобразы, залішне геаметрызаваныя, не выклікаючыя канкрэтных асацыяцый.

Месца сінагогі ў сістэме гістарычнай забудовы мястэчка ці горада, гэта месца культурнай прасторы яўрэйскай абшчыны як этнічнай групы. У такім кантэксце будоўля сінагог удзельнічала ў фарміраванні прасторы пражывання, у развіцці горадабудаўнічых інфраструктур паселішчаў. Гэта не проста месца сакральнага збудавання, а месца існавання, прастора бытнасці пэўнай супольнасці людзей. Гісторыя і архітэктура сінагог знітавана ў шматгранні культурнага комплексу Беларусі з помнікамі і іншых этнасаў, якія ў сукупнасці фарміруюць гістарычную супольнасць беларускага народа на розных этапах яго эвалюцыі і грамадскага станаўлення.

# АДЗІНЫ ШТРЫХ У ДРАЎЛЯНЫМ САКРАЛЬНА-МАНУМЕНТАЛЬНЫМ ДОЙЛІДСТВЕ БЕЛАРУСІ

Помнікі драўлянага сакральна-манументальнага дойлідства Беларусі розных канфесій тым не менш маюць адзіны штрых. Яго сутнасць бачыцца яскравей на фоне драўляна-манументальнай архітэктуры ўсходніх і заходніх арэалаў Еўропы. Рускаму драўлянаму царкоўнаму дойлідству ўласцівы зрубы з кругляку, самцовыя дахі, бочкі, шматглаўе, галерэі-гульбішчы, шырокі дыяпазон рэгіянальнай разнастайнасці. Пазначанае ўласціва і рускаму народнаму дойлідству (жытлу, гаспадарчым і вытворчым збудаванням). Перавага зрубных кампазіцый у сакральнай архітэктуры была характэрна і дойлідству Украінскага Палесся, Падолля, Слабажаншчыны.

Драўлянаму сакральнаму дойлідству Заходніх і Паўднёва-Заходніх славян (палякаў, славакаў, чэхаў, сербаў і інш.) наадварот уласціва перавага каркасных канструкцый на аснове бруса. Нават сцены касцёлаў і цэркваў часам мелі каркас з брусоў, абшыты дранкай. Большую частку аб'ёму займалі шпілі, шатры, пінаклі, стромкія дахі.

Тэктоніка драўляных сакральных збудаванняў Беларусі знаходзіцца пасярэдзіне і арганічна знітоўвае як зрубныя, так і каркасна-брусавыя аб'ёмы і канструкцыі. Сцены, як правіла, маюць зрубную канструкцыю, з брусоў, са знешняю і ўнутранаю ашалёўкаю. Крокведнныя дахі, шатры і вежы прапарцыянальна суадносяцца з сценамі прытвора, нефа, алтара, прыбудоў-сакрысцяў. Ім не ўласцівы залішняя пластычнасць, стромкасць. Іх сілуэт тоесны формам і прапорцыям народнага жылля, сельскіх пабудоў. Канструкцыі сцен і дахаў на аснове брусу набылі на тэрыторыі Беларусі распаўсюджванне ў XIV—XVI стст. у гарадах, а потым мястэчках і абумоўлены ўплывам гарадской архітэктуры Цэнтральнай і Заходняй Еўропы.

Суадноснасць сцен з брусоў і каркасных дахаў і веж абумоўліваліся ў нейкай меры прыродна-ландшафтнымі ўмовамі. Адносна ўмераны клімат не патрабаваў палявых апор, падклетаў, галерэй-гульбішчаў, як у цэркваў Рускай Поўначы. Адсутнасць моцных ападкаў не вымагала высокіх, стромкіх дахаў, як у рэгіёнах Карпат, Татраў, Альп. Спакойны рэльеф, не яркі ландшафтны дамінант не ствараў патрэбы ў стромкіх шпілях, вежах з пінаклямі і г.д.

Памеры, маштаб і прапорцыі дахаў і веж драўляных сакральных збудаванняў Беларусі магчыма захавалі параметры, якія склаліся некалі ў драўляным абарончым дойлідстве. Брамныя і сценавыя вежы, круглікі, чацвярыкі, васьмярыкі сталі архетыпамі званіц, шатроў, шматгранных падкупальных барабанаў. Адметнай асаблі-

васцю з'явіўся не кантраст паміж стромкай вертыкаллю даху і нізкімі сценамі, а гарманічная адноснасць паміж імі. Уплыў мураванай архітэктуры тут не такі відавочны, як у краінах заходніх і паўднёвых славян. Разам з тым меней і архаікі, уласцівай рускаму драўляна-сакральнаму дойлідству.

Паміж сценамі з бярвенняў-круглякоў рускага драўлянага дойлідства і дранкавымі сценамі касцёлаў Закарпацця, Мазавеччыны і Славеніі сцены з брусоў з ашалёўкаю, характэрныя драўлянаму сакральнаму дойлідству Беларусі могуць здавацца вытворнымі ад муравaнай архітэктуры. Але гэта толькі знешняе падабенства. Зрубы з брусоў даўно вядомы ва Усходняй Прусіі, Скандынавіі і Прыбалтыцы, Польшчы. На самой справе, гэта хутчэй вынік найбольш рацыянальнага выкарыстання драўніны і забяспечвання яе доўгавечнасці шляхам выдзялення забаланнай часткі. У заходніх рэгіёнах Беларусі, Украіны, у заходніх і паўднёвых славян у народным жыллі традыцыйнымі з'яўляюцца зрубы з плах (дыляў) — рацыянальны варыянт распілоўкі бярвенняў.

Зрубныя канструкцыі дахаў — вынік старажытнаславянскага паўзямлянaчнага жытла, у якім перакрыццё вытрымлівала вагу насыпнога слою грунту. Каркасна-кроквенныя канструкцыі на Беларусі з'явіліся пад ўплывам будаўнічай культуры Еўрапейскага Захаду. У тых рэгіёнах Усходняй Еўропы, дзе такога сінтэзу будаўнічых культур не назіралася, пераважалі зрубныя дахі і сцены з кругляку (Украінскае Палессе і інш.).

Відавочна і тое, што аб'ёмна-планіровачныя модулі ў сакральных драўляных збудаваннях Беларусі розных канфесій аднатыпныя. У найбольш простых тыпах цэркваў, касцёлаў, мячэцяў і сінагог назіраецца адзінства будовы: зруб з двухсхільным дахам, ці шатром і вытворныя варыянты, восевыя і ярусныя кампазіцыі. Памеры аб'ёмнага модуля зруба залежалі ад рацыянальных памераў бярвення і колькасці вянцоў. З гэтай нагоды ў драўляным сакральным дойлідстве першаснымі з'яўляюцца канструкцыйныя, а не стылёвыя рысы. Увасабленне стылёвых рыс мэтазгодна да той пары, пакуль пластыка не дасягне грані супярэчання канструкцыйным магчымасцям драўніны. Па тэктоніцы, даволі блізкімі драўлянай сакральнай архітэктуры былі рысы готыкі, а таксама формы праваслаўна-царкоўнай архітэктуры: шатры, барабаны, купалы, галерэі.

Можна меркаваць, што найбольш раннія кампазіцыі драўляных сакральных збудаванняў мелі цэнтрычную, цэнтрычна-ярусную будову. Зруб-клець з шатровым, ці двухвежавым дахам з нескладанымі формамі сакральнай адметнасці (вежа, купал, мінарэт). Да нашых дзён захаваліся драўляныя помнікі, закладзеныя ў другой палове XV–XVI ст. (Збірагі, Здзітава, Котра, Дарапеевічы). Інвентарныя матэрыялы і колькасць захаваўшыхся помнікаў

сведчаць аб тым, што на тэрыторыі Беларусі драўлянае сакральнае будаўніцтва рэзка ўзмацнілася ў XVIII ст. У вёсках будуюцца уніяцкія цэрквы і касцёлы, у мястэчках і гарадах — сінагогі, мячэці. Драўляныя уніяцкія цэрквы і касцёлы, некаторыя мячэці — восева-вежавыя збудаванні. Вежавыя завяршэнні, франтоны, карнізы і профілі маюць характэрны барочны малюнак. Барока надало пластычнасць тэктанічнай гатычнай аснове. А вось класіцызм не знайшоў шырокага ўвасаблення ў драўляным сакральным будаўніцтве. Ордэрныя матывы не выклікалі даверу сваёй відавочнай ірацыянальнасцю. Эклектыка і мадэрн у драўляным сакральным дойлідстве Беларусі ў XIX—пачатку XX ст. знайшлі шырокае ўвасабленне. У царкоўным будаўніцтве ў дрэве лёгка ўвайшлі руска-візантыйскія формы і матывы, у касцёльным — экзатычныя для Беларусі вобразы драўляных касцёлаў Польшчы і Валыні. Аднак эклектыка і мадэрн з'явы эпізадычныя, іх формы не ўласцівы драўлянай тэктоніцы. Мастацкае хараство супярэчыць сціплай, але велічнай музыцы канструкцый з дрэва.

Рацыянальнае спалучэнне зрубных і каркасных канструкцый абумовіла простыя і гарманічныя формы шатроў, веж, купалаў драўляных сакральных збудаванняў Беларусі. У рэгіёнах, дзе пераважаў каркас (Карпаты, Падляшша, краіны паўднёвых славян), формы набывалі складаную, каскадна-ярусную будову, са шматлікімі застрэшкамі, брылькамі. Варта прыгадаць высокія «слаістыя» купалы Карпат. Каркас такіх збудаванняў уяўляў складаную нясучую сістэму. Тут у ўспрыняцці нагрузкі сцены амаль не ўдзельнічалі. У Беларусі ў размеркаванні сіл драўляных збудаванняў актыўную ролю адыгрывалі і сцены, яны ж з'яўляліся і агароджваючымі канструкцыямі.

Пэўную ролю ў эвалюцыі формаўтварэння адыграў сінтэз аб'ёмаў з шатровым завяршэннем з аб'ёмамі пад двухсхільным дахам. Апошнія характэрны касцёльнай архітэктуры. На Беларусі з'явіліся арыгінальныя, ярусна-восевыя кампазіцыі, знітоўваючыя формы шатроў і дахаў у сакральных збудаваннях розных канфесій. Гэта ж справядліва і ў дачыненні да купальна-вежавых кампазіцый (царква ў Смалянах, мячэць у Доўбучках, старая сінагога ў Гродна і інш.). Сінтэз восевых і цэнтрычных кампазіцый, разам з двума вышэйадзначанымі рысамі і складае той адзіны штрых беларускай драўлянай сакральнай архітэктуры, які адметна вызначае яе сярод сакральна-манументальнага дойлідства рускіх, палякаў, украінцаў, народаў Прыбалтыкі арыгінальнай кампазіцыяй, спецыфічнай канструкцыйнай сістэмай, рацыянальнай, але выразнай формай.

# ЛІТАРАТУРА

*Комеч А.И.* Древнерусское зодчество конца X—начала XII в. М., 1987

Описание церквей и приходов Минской епархии. Вильно, 1868

*Лакотка А.І.* Драўлянае культавае дойлідства Беларусі XVIII—XIX стст. і ўзаемадзеянне культур // Мастацтва. 1996. № 3. С. 64—73

*Лакотка А.І.* Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999

*Духан И.Н.* Историческая записка к проекту реставрации Преображенской церкви 1704 г. в д. Барань Оршанского района // Архіў Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута (у далейшым БРПІ)

*Духан И.Н.* Историческая записка к проекту реставрации Покровской церкви XVIII в. из д. Логновичи Клецкого района // Архіў БРПІ.

*Духан И.Н.* Историческая записка к проекту реставрации церкви XVIII в. из д. Велец Глубокского района // Архіў БРПІ

*Духан И.Н.* Историческая записка к проекту реставрации церкви XVIII в. из д. Ремель Столинского района // Архіў БРПІ

*Локотко А.И.* Историческая записка к проекту реставрации церкви Рождества Богородицы XVIII—нач. XX в. из д. Молодово Ивановского района // Архіў БРПІ

*Локотко А.И.* Историческая записка к проекту реставрации Рождественской церкви XVIII в. из д. Лясковичи Ивановского района // Архіў БРПІ

*Локотко А.И.* Историческая записка к проекту реставрации церкви Святого Николая Чудотворца 1802 г. в д. Королевцы Вилейского района // Архіў БРПІ

*Локотко А.И.* Историческая записка к проекту реставрации костела Визиток 1818 г. в д. Вилейка Докшицкого района // Архіў БРПІ

*Локотко А.И.* Историческая записка к проекту реставрации мечети XVIII в. из д. Довбучки Сморгонского района // Архіў БРПІ

*Локотко А.И.* Историческая записка к проекту реставрации мечети XVIII в. из д. Ловчицы Новогрудского района // Архіў БРПІ

*Локотко А.И.* Историческая записка к проекту реставрации колокольни нач. XX в. в д. Логновичи Клецкого района // Архіў БРПІ

*Лакотка А.І.* Бераг вандраванняў, ці адкуль у Беларусі мячэці. Мн., 1994

*Лисенко Т.И.* Общие приемы в строительстве деревянных церквей Карпатского региона // Архитектурное наследство. 1985. № 33

*Завада В.Г.* О происхождении шатра в деревянных храмах Украинского Полесья // Архитектурное наследство. 1986. № 34

*Мокушенко П.И.* Народная деревянная архитектура Закарпатья. М., 1976
*Ушаков Ю.С.* Деревянное зодчество Русского Севера: Народные традиции и современные проблемы. Л., 1974
История русской архитектуры. СПб., 1994
*Иконников А.В.* Тысяча лет русской архитектуры. Развитие традиций. М., 1990
*Логвин Г.Н.* О деревянном зодчестве домонгольской Руси // Средневековая Русь. М., 1976
Дерево в архитектуре и скульптуре славян. М., 1987
Акты Виленской археографической комиссии. Вильно, 1887. Т. 15
*Краснянскі В.* «Чарцёж» места Віцебску 1664 году як дакументальны помнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва. Мн., 1928
*Павлинов А.М.* Деревянные церкви в Витебске // Труды девятого археологического съезда в Вильне 1893 г. М., 1895. Т. 1
*Забелло С.Я., Иванов В.Л., Максимов П.И.* Русское деревянное зодчество. М., 1942
Воронин Н.Н. Зодчество Северо-Восточной Руси XII–XV вв. М., 1962
*Красновский М.В.* Курс истории русской архитектуры. Часть 1. Деревянное зодчество. Петроград, 1916
*Суслов В.В.* Памятники древнерусского зодчества. СПб., 1908–1912 гг. Вып. I–VIII
*Драган М.* Українскі дерев'яні церкви. Части 1, 2. Львів, 1937
*Логвин Г.Н.* Народная деревянная архитектура Закарпатья. М., 1970
*Таранушенко С.А.* Монументальна дерев'яна архітектура лівобережноі Украіны. Киів, 1976
*Glogen Z.* Budownictwo drewniane i wyroby z drzewa w dawnej Polsce. Warszawa, 1907
*Kopera F.* Kościoły drewniane Golicji Zachodniej. Kraków. 1913. Cz. 1; 1915. Cz. 2; 1916. Cz. 3
*Piechotkowie M., Piechotkowie K.* Bóżnice drewniane. Warszawa, 1957
*Brykowski R.* Drewniana architektura kościelna w Małopolsce w XV weku. Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdacsk
*Krassowski V.* Architektura drewniana w Polsce. Warszawa, 1967
*Сергачев С.А.* Белорусское народное зодчество. Мн., 1992
*Якімовіч Ю.А.* Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся. Мн., 1978
*Чантурия В.А.* История архитектуры Белоруссии. Мн., 1985
*Волков Ф.К.* Старинные деревянные церкви на Волыни // Материалы по этнографии России. СПб., 1910
Аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў бібліятэкі НАН Беларусі імя Я. Коласа. Калекцыя Я. Базулкевіча
Аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. Фонды 4, 78
Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Фонд 505; воп. 3, 6, 9, 11, 21, 23 і інш.
Цэнтральная навуковая бібліятэка Акадэміі навук Літвы. Фонд 43
*Снегирев И.* Часовни в русском мире // Душеполезное чтение. М., 1862. Ч. 3
*Никольский К.* О часовнях. СПб., 1899

*Рюмин В.* Статуи римско-католических святых, каплицы и т.д. памятники в Западной России // Вестник Западной России. Вильно, 1868. Кн. 3. Т. 3

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 31. Вильно, 1906. Акты о татарах

Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Мн., 1995

*Думін С.У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993

*Brunowski Ryczard.* Tatarskie meczety w Rzeczypospolitej // Ochrond zabytkyw. Warszawa, 1988. 3 (41), 153–172.

*Osipowicz Alexander.* Meczet w Winksnupiu // Tygodnik ilustrowany. 1868. 51, 298

*Sobolewska-Waliszewska E.* Meczety ziem Kresowyż dawnej Rzeczypospolitej. Białystok

*Tloczek I.* O orientalnej architekture polskich Tatarów. Na styke trzech kultur // Słowo Powszechne. 1974. 58.

*Woronowicz A.* Cmentarz muzułmański w Widzach // Przegląd islamski. 1931. 1–2, 16–17

*Woronowicz A.* Przyczynek do historii meczetów w Polsce // Zycie Tatarskie. 1937. 10, 1–6

*Jankowski Cz.* Poniat Ośmiański. Petersburg, 1896

*Drozd A., Dziekan M., Majda T.* Meczety i cmentarze tatarów polsko-litewskich. Warszawa, 1999.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 28,29. Вильно, 1869–1915. Акты о евреях

*Бершадский С.А.* Литовские евреи. СПб., 1883

История евреев в России. М., 1914

Еврейская энциклопедия (Бронгауз – Ефрон). Т. 1–XVI.

*Judisches Lexikon.* Berlin. 1927–1930. T. I–V

*Атамовская Р.* Евреи в Литве в XIV–XV вв. Вильнюс, 1990

История евреев на Украине и в Белоруссии. Спб., 1994

*Иоффе Э.Г.* Страницы истории евреев Белоруссии. Мн., 1996

*Иосиф Флавий.* Иудейские древности. Мн., 1914. Т. 1–2

*Иосиф Флавий.* Иудейская война. Мн., 1991

*Гробарь И.* История русского искусства. Вып. 8

*Гаркави А.* Историческая справка о синагогах и еврейских молитвенных домах в России до царствования Александра II//Восход. 1894. № 3.

*Павлуцкий Т.* Старинные деревянные синагоги в Малороссии // Восход. 1894. № 3.

*Балабан М.* Еврейские исторические памятники в Польше // Еврейская старина. 1909

*Frauberger H.* Mitteilungen der Gesellschaft für Erforhung jüdischer Kunstdenkmaler. Ueben alte Kultursgegenstande in Synagog und Haus. Frankfurt-Main. 1901

*Kaufmann D.* Zur Geschichte der Kunst in den Synagogen //Gesammelte Schriften. 1908. № 1.

*Abrahams J.* Jewish life in the Middle Ages, S.V.Synagogye. London, 1898

*Gloger Z.* Budownictwo drewne i wyroby z drzewa w dawnej Polsce. Warszawa, 1907. T. 1; 1909. T. 2.

*Piechotkowie Maria i Kazimierz*. Bramy nieba. Bocnice drewniane na zemiach dawnej Rzeczpospolitej. Warszawa, 1998

Синагоги Беларуси. Еврейский календарь. Вып. 1. Мн., 1995

Деревянные синагоги Беларуси. Еврейский календарь. Вып. 2. Мн., 1996

Синагоги Беларуси. Еврейский календарь. Вып. 3. Мн., 1997

*Лакотка А.І.* Бажніцы // Культура. 1994. №. 19

*Трусаў А.* Беларускія сінагогі // Беларуская мінуўшчына. 1996. № 3

*Лакотка А.І.* Яўрэйскія бажніцы // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 5

*Лакотко А.И.* Архитектура европейских синагог. Мн., 2002

*Бацяеў В.Ф.* Абшчыннае самакіраванне яўрэяў Беларусі ў канцы XVI – перш. пал. XIX ст. // Весці НАН Беларусі. Серыя гуманітарных навук. 1998. № 2.

Сто деревянных местечек Украины. Вып. 2. Подолия. СПб., 2000

---

## З М Е С Т

Навукова-папулярнае выданне

**ЛАКОТКА Аляксандр Іванавіч**

# ДРАЎЛЯНАЕ САКРАЛЬНА-МАНУМЕНТАЛЬНАЕ ДОЙЛІДСТВА БЕЛАРУСІ

Рэдактар *Т.І. Улевіч*
Мастак *А.Г. Дашкевіч*
Мастацкі рэдактар *Л.І. Мялой*
Тэхнічнае рэдагаванне
і камп'ютэрная вёрстка *Т.А. Тарасенка*
Карэктары *Л.А. Адамовіч, Л.К. Сямёнава*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 14.07.2003. Фармат $60\times90^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура «Петербург». Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,0 + 10,0 вкл. Ул.-выд. арк. 13,63. Тыраж 2500 экз. Зак. 2052

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 2 ад 31.12.2002. 220004, Мінск, праспект Машэрава, 11

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11

